

ЛЮЙ ЦЗЯНЬ

Кітайская Народная Рэспубліка

# РАДЗІМА

Дзе-б ні быў я —
Заўжды ты ў мяне прад вачыма,
Вобраз твой дарагі
Не забыць аніколі...
Да цябе я звяртаюся ў думах,
Айчына, —
Прывяла ты да шчасця нас
З вечнай нядолі...
Дзе-б ні быў я, заўсёды —
Удзень або ноччу,
На прасторных
Жыццёвых шляхах
Або цесных, —
Нада мною
Твае прамяністыя вочы,
Нада мною
Твае разліваюцца песні!

Дарагое імя тваё я праслаўляю!
Вышываюць імя гэта
Нашы дзяўчаты...
Не забыць нам ніколі,
Мы ўсе памятаем,
Як пісалі яго
На вінтоўках салдаты.

Па раўнінах Кітая
У шырокае мора
Адусюль
Безупынна сцякаюцца рэкі...
Ты людзей, быццам дрэвы,
Расціш на прасторы,
І зліваюцца душы з табою
Навекі.

Пераклаў М. АЎРАМЧЫК.



**Кітайскія госці на Краснай плошчы ў Маскве.**

Фото Н. Кірэева.


*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.**

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання II.

**№ 10(19).**

**Кастрычнік.**

**1954.**

А. АКСЁНАЎ

# ДРУЖБА ВЯЛІКІХ НАРОДАЎ

**Нататкі ўдзельніка сесіі Совета Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі ў Пекіне**

Мінула пяць год з дня ўтварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі. Гэтае вялікае свята кітайскі народ сустрэў у абстаноўцы напружанай працы па абнаўленню сваёй краіны і будаўніцтву новага жыцця.

Усё перадавое чалавецтва радуецца поспехам вялікага кітайскага народа. Простыя людзі ўсіх краін добра памятаюць уклад, унесены кітайскім народам у справу аслаблення міжнароднай напружанасці на Жэнеўскай нарадзе. У справах Кітайскай рэспублікі, у працавітасці кітайскага народа яны бачаць імкненне ўмацаваць мір і міжнародную бяспеку.

Што датычыцца савецкіх людзей, то ўсе яны ад душы падзяляюць радасць вялікага кітайскага народа, ганарацца яго дасягненнямі і ў дні яго нацыянальнага свята шлюць яму сваё брацкае прывітанне і пажаданні новых вялікіх поспехаў у выкананні задач, якія стаяць перад кітайскім народам. Пастаянная, усебаковая і бескарыслівая дапамога, якую аказвае Кітайскай Народнай Рэспубліцы Савецкі Саюз, — сведчанне мацнеючай брацкай дружбы паміж савецкім і кітайскім народамі.

Нядаўна ў складзе савецкай маладзёжнай дэлегацыі мне давялося пабываць у Кітаі. Цяжка выказаць, якім вялікім было маё жаданне бліжэй пазнаёміцца з жыццём кітайскага народа, з моладдзю Кітая.

Разам з маладзёжнымі дэлегацыямі другіх краін мы — на Яраслаўскім вакзале ў Маскве. Тут прадстаўнікі савецкай моладзі, маладзёжныя дэлегацыі Венгрыі, Францыі, Англіі, Германіі, Італіі, Іспаніі, Ізраіля, Бразіліі, Алжыра, Марцінікі, Трынідада, Бельгіі, Люксембурга і іншых краін, а таксама прадстаўнікі Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі. Мы едзем на сесію Совета Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі ў Пекін. Ва ўсіх урачысты настрой. Іграе музыка. Над перонам вакзала ўспыхвае мелодыя папулярнай песні Мурадэлі «Масква — Пекін». Поезд павольна адыходзіць ад перона. Уперадзе — 9 сутак язды да кітайскай сталіцы. Нам прадастаўляецца цудоўная магчымасць агледзець велізарныя прасторы сваёй краіны. За вокнамі вагонаў, як вокам акінуць, ляжыць наша, савецкая зямля. І чым далей едзеш на ўсход, тым усё больш яскрава вырысоўваецца велічная панарама нашай Радзімы, магутнай, квітнеючай краіны з вялікім народам — стваральнікам і творцам свайго жыцця. Колькі гордасці і шчасця адчуваць сябе членам вялікай савецкай сям'і і сынам сваёй цудоўнай Радзімы.

Паездка па нашай краіне выклікае многа хвалюючых думак, прымушае пра многае падумаць. Я чуў, як многія члены замежных маладзёжных дэлегацый гаварылі, што трэба шукаць шляхоў збліжэння з рускімі, што можна знайсці вырашэнне для спрэчных пытанняў. Міралюбівы дух савецкага народа, размах мірнага будаўніцтва, само наша жыццё прыводзяць да такой думкі многіх.

Размовы аб Савецкай краіне цікавяць многіх дэлегатаў, што едуць у Кітай. Госці падыходзяць да нас з пытаннямі, удакладняюць свае думкі, спрачаюцца, згаджаюцца. На розных мовах гучаць песні. Многія маладыя людзі з Алжыра і Бразіліі, Італіі і Францыі, Германіі і Іспаніі, Венгрыі і Люксембурга добра спяваюць савецкія песні. Мы, прадстаўнікі савецкай моладзі, развучваем і спяваем песні докераў Францыі, моладзі Германіі і Італіі, маракоў Англіі. Мацнее пачуццё салідарнасці і дружбы. Усё часцей гучаць словы аб міры. Згуртоўваецца калектыў маладых людзей, якія едуць у Пекін, каб адтуль падаць свой голас у абарону правоў моладзі, за лепшую будучыню і мір.

Вось мы на граніцы з Кітайскай Народнай Рэспублікай. Засталіся за намі апошнія савецкія пагранічнікі, якія вітаюць праходзячы поезд. Уперадзе Кітай. Мільгаюць слупы, лініі электраперадач, светафоры. Першы прыпынак. З усіх бакоў да поезда спяшаецца моладзь. Радасныя воклічы, букеты кветак, падарункі, прывітанні. А вось і цудоўныя, жыццерадасныя кітайскія піянеры. Колькі ў іх радасці, давер'я! Здаецца, што сам новы Кітай у іх асобе вітае на сваёй абноўленай зямлі пасланцоў моладзі ўсіх краін. «Сулен, Сулен» (па-кітайску — Савецкі Саюз), — і да нас, савецкіх дэлегатаў, цягнуцца сотні рук, на нас глядзяць тысячы вачэй. На вакзале стыхійна ўзнікаюць песні, танцы. Гучыць Гімн дэмакратычнай моладзі свету.

На другія суткі пасля пераезду граніцы мы прыехалі ў сталіцу Кітайскай Народнай Рэспублікі — Пекін. Ішоў праліўны дождж, але, нягледзячы на гэта, нас сустракалі сотні маладых сяброў, фотарэпарцёры, юныя піянеры, студэнты. Зноў букеты кветак і гарачыя прывітанні. Расчуленыя сустрэчай, прадстаўнікі моладзі розных краін накіроўваюцца ў гасцініцу, якая пабудавана да адкрыцця сесіі Совета Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі. Усюды ўдзельнікі сесіі адчувалі сябе свабодна і былі акружаны клопатамі і ўвагай. З першых крокаў прабывання ў Кітаі склалася абстаноўка салідарнасці і дружбы, абстаноўка давер'я і імкнення шукаць шляхоў да збліжэння пунктаў погляду розных груп моладзі. А гэта нямала садзейнічала поспеху ў рабоце сесіі Совета СФДМ.



**Малады рабочы Аньшанскага металургічнага камбіната Ван Чунь-лун удасканаліў свае інструменты і зараз выконвае нормы на 400 працэнтаў. Па яго прыкладу ў Кітаі шырока разгарнуўся рух за паляпшэнне тэхнікі.**

... У жыцці народаў Кітая настала сапраўдная вясна. Вялікі народ абнаўляе сваю зямлю, якую спакон вякоў знявечвалі мясцовыя эксплуататары сумесна з іншакраіннымі капіталістамі. Кітай абнаўляецца літаральна на вачах. І гэтае абнаўленне адчуваецца пры першай сустрэчы з кітайскім народам.

У Кітаі дэлегаты мелі поўную магчымасць дэталёва пазнаёміцца з жыццём кітайскага народа. Перш за ўсё хочацца спыніцца на ўражаннях ад знаёмства з эканомікай краіны. Да вызвалення ад гаміндана̂ўскай клікі кітайскі народ жыў у страшэнна цяжкіх эканамічных умовах. Пастаянныя галадоўкі, галеча, беспрацоўе, вялікая смяротнасць—вось яго лёс у мінулым. Зараз у Кітаі ствараюцца ўмовы для хуткага паляпшэння эканамічнага становішча. Зніклі беспрацоўе, голад. У Кітаі не ўбачыш жабракоў. У краіне вядзецца велізарнае будаўніцтва. Рэканструіруюцца старыя і будуюцца новыя фабрыкі і заводы, добраўпарадкоўваюцца гарады, будуюцца новыя, сацыялістычныя рабочыя пасёлкі. Рабочыя Пекіна, Шанхая, Ханьчжоу расказвалі нам аб тым, як шчасліва зажылі яны ў новых дамах. Мы бачылі яслі, дзіцячыя сады, школы, магазіны, пабудаваныя для рабочых у гарадскіх пасёлках. Мы бачылі радасных жанчын, дзеці якіх знаходзяцца ў дзіцячых садах і яслях.

У выхадныя дні ў парках і скверах, на былых імператарскіх вілах і ў палацах, у летніх і зімовых рэзідэнцыях — усюды поўна народу. Гэта адпачывае рабочы чалавек — гаспадар свайго лёсу.

Раней у Кітаі амаль усё насельніцтва было непісьменным. Цяпер тут вучацца мільёны — і малыя і старыя.

**Студэнтка Пекінскага сельскагаспадарчага інстытута на практыцы ва Унутранай Манголіі.**



Вялікі размах у Кітаі атрымала вывучэнне рускай мовы. Тысячы маладых людзей вывучаюць яе на курсах, у навучальных установах, а вельмі многія самастойна. І як прыемна было нашым кітайскім таварышам, сустрэўшыся з намі, совецкімі людзьмі, гаварыць на рускай мове, без пабочнай дапамогі, без перакладчыка.

Кітайскі народ і моладзь высока цэняць клопаты партыі і ўрада аб іх добрабыце. У краіне пануе велізарны працоўны і палітычны ўздым. Кітайскі народ наогул вылучаецца вялікай працавітасцю. Цяпер-жа гэтая працавітасць вырастае ў працоўны гераізм усяго народа. Сотні тысяч кітайцаў самааддана працуюць на будаўніцтве фабрык і заводаў, культурна-бытавых установ, чыгунак і шасейных дарог, мастоў і дамб на рэках, новых электрастанцый, на пабудове гарадоў і рабочых пасёлкаў.

Кітайскі народ вельмі міралюбівы. Нават недругаў новага Кітая, якія прыязджалі на сесію, не магло не здзівіць тое вялікае давер'е і тая павага, з якімі ставіцца кітайскі народ да другіх народаў, вялікіх і малых.

Успамінаюцца дні работы сесіі Совета СФДМ. На перыяд работы сесіі быў прадастаўлены самы лепшы будынак, у якім адбываюцца пасяджэнні кітайскага ўрада. Удзельнікаў сесіі Совета СФДМ віталі прадстаўнікі самых розных груп моладзі: рабочыя, студэнты, піонеры. Назаўсёды запомніцца наведванне тэкстыльнай фабрыкі ў Шанхаі. Рабочыя гэтай фабрыкі, даведаўшыся аб прыездзе ўдзельнікаў сесіі на фабрыку, вітаючы прадстаўнікоў моладзі самых розных краін свету, напісалі плакаты і лозунгі на школьных дошках. Калі нам пераклалі іх на родную мову, адзін з нашых дэлегатаў тут-жа напісаў на рускай мове словы гарачай удзячнасці за цёплы прыём, за актыўны ўдзел кітайскага народа і моладзі ў барацьбе за захаванне міру і пажаданне калектыву фабрыкі новых вытворчых поспехаў. Кітайскі перакладчык пераклаў гэты тэкст на кітайскую мову. Твары рабочых засвяціліся цёплымі ўсмешкамі. Загрымелі апладысменты.

Пасля заканчэння работы сесіі Совета СФДМ Усекітайская федэрацыя дэмакратычнай моладзі сумесна з Саюзам нова-дэмакратычнай моладзі наладзіла мітынг. Велізарная плошча ў Пекіне была ўся запоўнена народам. Толькі вузкі калідор паміж людзей і кветак быў пакінуты для праходу ўдзельнікаў Совета. І вось праз гэты калідор мы накіроўваемся на мітынг. Над старой пекінскай плошчаю не змаўкаюць авацыі, апладысменты і воклічы прывітанняў. З усіх бакоў да нас цягнуцца рукі, і няма ніякай магчымасці пацiснуць усе гэтыя рукі.

Раптам кітайская моладзь пазнала сярод удзельнікаў Совета прадстаўнікоў совецкай моладзі. Ужо неяк так павялося, што кітайская моладзь хутка і беспамылкова пазнавала нас сярод соцень прадстаўнікоў моладзі другіх краін. Панесліся ўсхваляваныя воклічы: «Маленкоў — Мао Цзе-дун», «Масква—Пекін» і г. д. Нас моцна абдымалі, паціскалі нам рукі.

На мітынгу прадстаўнікі моладзі Совецкага Саюза, Англіі, Францыі, Германіі, Японіі, Індыі, Інданезіі, Злучаных Штатаў Амерыкі і другіх краін выступілі з хвалюючымі прамовамі. На многіх мовах гучалі словы: дружба, салідарнасць, мір. Мітынг ператварыўся ў яркую дэманстрацыю гатоўнасці прагрэсіўнай моладзі свету змагацца за інтарэсы і правы моладзі, за мір і дружбу, за тое, каб не даць падпальшчыкам вайны ўцягнуць народы ў крывавую бойню.

Над плошчаю ўзлятаюць каляровыя шары. Яны ўзносяць высока ў неба вялікія палотнішчы з эмблемай Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі і лозунгі, якія заклікаюць да барацьбы за мір ва ўсім свеце. У неба ўзлятае мноства галубоў. Юнакі і дзяўчаты спяваюць Гімн дэмакратычнай моладзі. І здаецца, што няма на свеце такой сілы, якая змагла-б перашкодзіць ажыццяўленню выпрацаванай сесіяй Совета яснай і цвёрдай лініі далейшага ўмацавання міжнародных сувязей моладзі, збліжэнню розных пунктаў погляду і пошукам шляхоў для ўмацавання дружбы, узаемнага давер'я і сумеснай работы ў імя міру.

Многія ўдзельнікі Совета паедуць у свае краіны, і кожны з іх, напэўна, захавае прыемныя ўражанні аб незабыўных сустрэчах з кітайскім народам, з моладдзю Кітая.

Я чуў, як маладая негрыцянка з Афрыкі ўсхвалявана расказвала аб тым, што тут яна ўпершыню адчула сябе чалавекам, што тут, у калектыве сяброў з розных краін, яна зразумела, што варта жыць, што яна сапраўдны чалавек, што ёй упершыню паціснулі руку, пра яе паклапаціліся. А яна-ж пра гэта ніколі нават і не марыла.

Мне давялося сустракацца з простымі алжырскімі хлопцамі, для якіх у іх краіне няма работы, няма магчымасці і сродкаў для атрымання адукацыі. Яны сістэматычна галадаюць і прыехалі ў Пекін, маючы па адной толькі верхняй сарочцы і па адных парусінавых штанах. У жыцці гэтых хлопцаў мала радасці. Але яны не апускаюць рук, яны ўпэўнена змагаюцца за лепшую будучыню для моладзі сваёй краіны. Паездка ў Кітай акрыліла іх. Усмешка ніколі не сыходзіла з іх твару. І няма ніякага сумнення ў тым, што прыклад гераічнага кітайскага народа і кітайскай моладзі яшчэ больш умацуе ў іх веру ў свае сілы і дапаможа ім яшчэ смялей змагацца за інтарэсы моладзі.

У адзін са жнівеньскіх дзён удзельнікаў сесіі Совета запрасілі на прыём да таварыша Чжоу Энь-лая, старшыні Дзяржаўнага адміністратыўнага совета Кітайскай Народнай Рэспублікі. Гэта была вельмі знамянальная падзея.

Дні, праведзеныя ў Кітаі, пераканалі моладзь больш чым сямідзесяці краін свету ў тым, якое вялікае жаданне кітайскага народа адстойваць справу міру і змагацца за мір. Усе мы таксама бачылі, як кітайскі народ выказвае сваё аднадушнае патрабаванне хутчэй вызваліць ад чанкайшысцкай клікі востраў Тайвань. Гэтая задача лічыцца адной з важнейшых нацыянальных задач кітайскага народа.

Кітайскі народ праяўляе вялікую ўвагу і любоў да совецкага народа. У дні работы сесіі Совета СФДМ раніцай, задоўга да пачатку пасяджэнняў, звычайна збіралася вялікая група кітайскай моладзі, якая чакала прыезду совецкай дэлегацыі. Мы штодзённа стараліся раней прыехаць на пасяджэнне і сустрэцца з кітайскай моладдзю. Разам спявалі песні, танцавалі. Гэта вельмі падабалася кітайскім сябрам.

Марай кітайскіх юнакоў і дзяўчат з'яўляецца паездка ў Совецкі Саюз, у Маскву. Адзін з работнікаў Пекінскага педінстытута тав. Гун Хао-жан прызнаўся мне, што ён даўно марыць паехаць у Маскву. Такіх, як Гун Хао-жан, многа ў Кітаі. І ўсе яны мараць аб сустрэчах з совецкай моладдзю, аб паездцы ў нашу краіну, аб магчымасці павучыцца ў нас і ўзбагаціць свой вопыт.

У многіх палацах і дамах піонераў Кітая мы бачылі падарункі совецкіх рабят кітайскім рабятам, а таксама падарункі, якія кітайскія піонеры рыхтуюць совецкім піонерам. На адной з алей Пекінскага парка мяне сустрэла група кітайскіх піонераў і папрасіла перадаць падарункі для совецкіх рабят. Амаль суткі чакалі рабяты выпадку, каб уручыць свой падарунак.

Мы былі ў Кітаі, калі там абмяркоўваўся праект Канстытуцыі Кітайскай Народнай Рэспублікі. Кітайская моладзь праявіла высокую палітычную свядомасць і разам з усімі працоўнымі выказала сваю поўную падтрымку праекту Канстытуцыі. Канстытуцыя Кітайскай Народнай Рэспублікі замацоўвае тыя велізарныя дасягненні, якіх дабіўся кітайскі народ за перыяд народнай улады.

Моладзь Совецкай Беларусі, як і ўся совецкая моладзь, шле сваё гарачае, брацкае прывітанне кітайскай моладзі і жадае ёй вялікіх поспехаў у будаўніцтве новага жыцця, у барацьбе за ўмацаванне сваёй дзяржавы і міру ва ўсім свеце.



**У горнай цясніне правінцыі Гуандун будзе пабудавана магутная плаціна.** На здымку: **маладыя тэхнікі вядуць тапаграфічную здымку мясцовасці.**

**Аньшань — цэнтр чорнай металургіі Кітая.** На здымку: **аўтаматызаваная доменная печ № 7.**



# Пераклічка сяброў

ВАН СІ-ЦЗЯНЬ
Кітайская Народная Рэспубліка

## Разам з савецкімі людзьмі

Калі вы сярод савецкіх людзей,
Вам хочацца пець,
Хоць можаце песень не ведаць вы
І пець не умець.

А ў сэрцы, сагрэтым дружбы цяплом,
Напеў сам сабою расце і гучыць.

Так мора бязветраным днём
Заплешча парой, зашуміць.

І рукі мы ціснем савецкім сябрам,
І поціск гэты за словы мацней
Гаворыць душы, што навек наш саюз,
Што блізкасці ў свеце няма радней.

Спявайце пра нашу магутнасць, сябры!
Хай гэтая песня па свеце ляціць,
Вясёлкаю радасці зззяе братам,
Іх сэрцы надзеяй няхай акрыліць!

ЮАНЬ ШУЙ-ПО
Кітайская Народная Рэспубліка

## Смела наперад

З Усхода на Захад
праносіцца кліч над зямлёй:
— Народы калоній,
ўставайце адзінай сям'ёю!
Ад Ніла да Ганга
ўстаюць партызаны на бой,
свабоду і мір
здабываючы ўласнай крывёю.

Бярыце вінтоўкі
і крочце ў паход,
таварышы з Поўдня і Усхода!
З плячэй сваіх скіньце
няшчасце, прыгнёт,
свабоду здабудзьце народу!

У Мадрыдзе
герояў вядуць на расстрэл
на зары.
Бярэм мы вінтоўкі
і чорныя дні праклінаем.
Мы куляй на кулю
адказваем катам, сябры, —
хай прыкладам лепшым
нам будзе дарога Кітая!

Бярыце вінтоўкі
і крочце ў паход,
таварышы з Поўдня і Усхода!
З плячэй сваіх скіньце
няшчасце, прыгнёт,
свабоду здабудзьце народу!

Пераклаў М. АЎРАМЧЫК.

ВЭЙ ВЭЙ
Кітайская Народная Рэспубліка

## Ноччу гляджу з Ленінскіх гор на Маскву

— На зямлі ці ў нябёсах у гэты мы час?
Безліч зорак чаму праімчала ля нас?

Узыйшлі на вяршыню вы Ленінскіх гор,
А на доле — зямны і нябесны прастор.

— Што за стромкія скалы відаць з вышыні?
І чаму, нібы ў кветкі, прыбраны яны?

— Гэта гмахі вышынныя, думак святло —
Ад яго ў нашы сэрцы праменіць цяпло.

— Як тлумачыцца гэта мігценне ракет?
Што за песні ляцяць, як істужкі, услед?

— Я здагадваюся: на трамваі рачным
Льецца песня гармоніка ў змроку начным.

— Але слухайце: музыка ўчулася мне...
Вось бліжэй і бліжэй... у аблокі імкне!

— То спраўляе сваю урачыстасць зямля,
Лічаць шчасця гадзіны куранты Крэмля.

— Чым, па-вашаму, дужы і моцны яны —
Той юнак, тая дзеўчына — дзеці вясны?

— Толькі глянеш на іх — зразумееш адказ:
Ля варот комунізма тут моладзь якраз.

— Я за вашы адказы ўсе дзякую вам,
З асалодаю слухаў. Яшчэ я задам

Запытанне адно: ці не райскі то сад?
Дзе другі ёсць такі, вельмі-б ведаць я рад!

— Як у бой за яго стануць людзі, тады —
Скрозь аквецяць зямлю ўсю такія сады.

КІМ САН О
Карэйская Народна-Дэмакратычная Рэспубліка

## Сябра

Вуліцай іду я нешырокай,
Нада мной сняжынак хуткі рой,
Нібы весткі з стараны далёкай,
Дзе жыве найлепшы сябра мой.

Мову нашу ведаў, нашы песні,
Хаты нашай ён, бывала, не міне...
У Сталінградзе ён або ў Одэсе —
Усёроўна — блізка ад мяне.

Можа быць, што пад руку з каханай,
Па сняжку, пухмяным як дыван,
Ён ідзе па вуліцы аззянай
І спявае песню «Арыран».*

Пра адлегласць раптам я не дбаю
І нясу па вуліцы начной:
«Родная зямля мая без краю...» —
Песню, што спяваў мне сябра мой.

Словы песні радаснай і весняй,
Нібы мары велічны узлёт, —
Кожны дзень праходзіў з гэтай песняй
Ля акна майго ягоны ўзвод.

Развіталіся мы ў сумятні вакзала.
Ён далёка, а не веру, не:
Вось ідзе, здаецца, як бывала,
Сябра мой насустрач да мяне.

Да яго, ўспамінамі сагрэты,
Ліст даслаў і думаю услед:
Сябра мой жыве ў Краі Советаў, —
Шлях к яму лісту пакажа свет.

* Арыран — вядомая карэйская народная песня.

ЛІ ГІ ЕН
Карэйская Народна-Дэмакратычная Рэспубліка

## Вясна

Цёплых некалькі дзён,
Нібы жартам, дала нам прырода, —
Снег сышоў на палях,
Зашумеў па-вясноваму сад.
А сягоння ізноў
Вецер з поўначы, снег і нягода,
І нібыта вясна
Адступаць пачынае назад.

Ды вясна ёсць вясна.
І з'яўленне яе — непазбежна.
Дзе-б ні быў ты — глядзіш:
Ля ракі, дзе сінеюць кусты,
Адвячоркам, у захадзе сонца,
Чырвоным, бязмежным —
Скрозь і ўсюды вясна,
І вітаеш прыход яе ты.

Так, вясна ёсць вясна.
Шмат чаго ў яе ранніх з'яўленні —
Ад навукі вайны:
Адступае, адчуўшы цяжар,
Набліжае рэзерв,
Каб гатовай быць да наступлення,
І, сабраўшы ўсю моц, —
Зноў на ворага рушыць удар.

Так на нашых вачах
Векавыя законы прыроды
У няспынных баях
Прымушаюць зіму адступіць.
Крок гісторыі дужы
Усе адчуваюць народы
І Вясну Чалавецтва
Не можа ніхто супыніць.

Пераклаў С. ДЗЯРГАЙ.

# ПЯЦЬ ДЗЁН НА ВЫСТАЎЦЫ

★

**Сотні маладых калгаснікаў рэспублікі пабывалі на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы ў Маскве. Там яны вывучалі перадавы вопыт вядзення сельскай гаспадаркі. Вярнуўшыся дамоў, юнакі і дзяўчаты пачынаюць прымяняць яго ў сваіх калгасах. Сёння мы друкуем нататкі камсамолкі-цялятніцы экскурсанткі на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку Дашы Наумчык. Даша Наумчык—адна з лепшых цялятніц у Брэсцкай вобласці. Яна захавала і выгадавала сёлета 50 цялят.**

★

**З дзённіка экскурсанткі Дашы Наумчык, цялятніцы-камсамолкі**



**На поле прышлі сяброўкі, каб паслухаць расказ Дашы Наумчык** (першая злева) **пра Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку.**

Дні тры назад да мяне на пашу прышоў загадчык жывёлагадоўчай фермы Павел Максімук. Я нават здзівілася: загадчык не песціў нас сваёй увагай, а тут, калі ласка, — прышоў проста ў поле. «Так і ёсць, — падумала я, — пасля ўчарашняй маёй размовы старшыня калгаса прабраў яго, інакш ён не адважыўся-б на такі «смелы ўчынак».

— Цябе, Даша, — кажа Максімук, — выклікаюць у праўленне калгаса.

— Як-жа я цялят пакіну? Што там такое здарылася? — пытаюся я ў яго.

— Не турбуйся, цялят я дагледжу. А чаго выклікаюць, не ведаю.

...У канторы амаль нікога няма: час гарачы, уборка. Старшыня калгаса, як толькі я зайшла, падаў мне нейкую прыгожую маленькую кніжачку.

— Збірайся ў Маскву,—кажа.— Гэта білет на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку. Заўтра трэба быць у Брэсце, у аблвыканкоме, а адтуль разам з дэлегацыяй паедзеш на выстаўку. Адно папрашу, запамінай усё, потым раскажаш нам. А што цяжка запомніць, запісвай. Па вачах бачу, што ёсць у цябе да мяне пытанні, але выбачай, часу няма, трэба ў брыгаду ехаць.

...І вось я еду ў Маскву.

Учора ніяк не магла заснуць. Задумаўшыся, стаяла ля акна вагона. Мільгане недзе ўдалечыні агеньчык, і я падумаю: відаць, людзі не спяць, а ці ведаюць яны, што дачцы некалі самага беднага ў вёсцы Макраны селяніна выпала такое шчаслівае падарожжа. І падумала, што я вельмі яшчэ мала зрабіла, каб апраўдаць тыя клопаты, якія праяўляе аб нас савецкая ўлада.

Заўтра раніцай будзем у Маскве. Хутчэй-бы!



**Даша Наумчык прыкармлівае цяля.**

Яшчэ кіламетраў за сто ад Масквы мы пачалі глядзець у вокны, каб не прапусціць таго моманту, калі пакажуцца першыя будынкі нашай сталіцы. Доўга так едзем, а Масквы ўсё не відно. Раптам нехта крыкнуў: «Глядзіце, як прыгожа!» Гэта быў універсітэт. А наперадзе відаць было яшчэ з паўдзесятка такіх-жа высокіх, прыгожых дамоў. Далей усё было, як у казцы. За дзень столькі ўсяго бачыла, што зараз нават цяжка ўпомніць.

Хоць усе мы ведалі з газет, што выстаўка — надта велічнае збудаванне, але ўбачанае пераўзыходзіла наша ўяўленне. Некалі ў маленстве бабулька расказвала казку пра дзяўчынку, якая трапіла ў хрустальны горад незвычайнай прыгажосці. Я тады так зайздросціла той дзяўчынцы. Цяпер, напэўна, яна мне пазайздросціла-б, бо выстаўка — надзвычай прыгожы горад і не пустынны, як той, у казцы. Тут столькі народу!

Яшчэ ў поездзе я пасябравала з Ганнай Мартысевіч. Гэта адна з лепшых даярак нашай вобласці. Яе вельмі цікавіць работа даярак, мяне — цялятніц. Дамовіліся ўсюды хадзіць разам. Ганна перапісвалася з украінскай даяркай. Яна хацела з ёй спаткацца. Але колькі мы ні шукалі яе, так і не знайшлі ў той дзень. Затое пазнаёміліся з Селіяхон Султанавай. Аднойчы, здаецца ў часопісу, я чытала пра яе работу. Селіяхон Султанава ў два разы паскорыла вырошчванне шоўкапрада. За гэта яна атрымала Сталінскую прэмію і званне Героя Соцыялістычнай Працы. Сустрэла я яе ля павільёна Узбекскай ССР. Спачатку думала — гэта нейкі вучоны. Селіяхон Султанава зусім і не падобна на калгасніцу. Разгаварыліся. Я расказала, што гадую сёлета 50 цялят. Усе яны добрай укормленасці. Адно дрэнна, што загадчык фермы абыякава ставіцца да сваёй работы. Селіяхон Султанава ў мяне запыталася:

— А што ты зрабіла, каб ён працаваў лепш? Нічога? Значыць, і ты абыякава ставішся. Раз бачыш непарадак, дабівайся, каб яго не было. Ты маладая, энергіі ў цябе многа, а вось настойлівасці мала. А трэба быць настойлівай, нельга мірыцца з недахопамі і з тымі людзьмі, якія іх дапускаюць.

Потым яна расказала, як цяжка даводзілася ёй, але ўсё-ж яна свайго дабілася. Развіталіся мы сябрамі.

Мне не цярпелася хутчэй пайсці ў жывёлагадоўчы гарадок, пазнаёміцца там з вопытам лепшых жывёлаводаў. Дасканала агледзець яго было справай нялёгкай: такі ён вялікі!

Нас адразу-ж зацікавіла жывёлагадоўчая ферма калгаса «XII Кастрычнік» Кастрамской вобласці. Умовы работы гэтага калгаса вельмі падобныя на нашы, а вось вынікі розныя.

Таварыш Доўчанка, брыгадзір жывёлагадоўчай брыгады, ахвотна расказала нам пра парадак на іх ферме. У іх усё прадумана: ёсць свой прыфермскі ўчастак, кормаздабываючае звяно, добрыя хлявы, загоны для цялят, клеткі. Кармленне, паенне, — усё вядзецца так, як патрабуе навука. Скажы нашаму жывёлаводу, што каровам можна даваць у год 48 цэнтнераў бульбы — і ён табе не паверыць, скажа, што ты хочаш жывёлу сапсаваць. А ў калгасе «XII Кастрычнік» гэтага не баяцца. Таксама і з сіласам. У нашым калгасе яго нарыхтоўваюць вельмі мала, абы паслаць зводку ў раён. А там карове даюць да 25 кілаграмаў сіласу ў дзень. Дадайце да гэтага моркву, буракі, канцэнтраты, і становіцца зразумелым, чаму там каля сотні кароў даюць па 6 тон малака ў год. А ёсць-жа і такія, якія даюць па 10—11 тон.

— Прыеду дадому, — шэпча мне Ганна, — і такі тарарам падыму ў калгасе!.. Сорамна, што мы так ганебна адстаем.

— І я таксама спрачацца буду, — кажу я Ганне. — У нас, мусіць, яшчэ горш, чым у вас: загадчык фермы нічога не робіць. Праўда, Селіяхон Султанава сказала, вінаваты тут і мы. Трэба дабівацца свайго.

Нечакана Ганна сустрэла сваю знаёмую украінскую даярку. Распыталі ў яе пра догляд цялят. Зноў у іх калгасе ўсё не так, як у нас. Там пакуль цяляты не дасягнуць вагі 60 кілаграмаў іх не перадаюць цялятніцам. Прымяняецца там і караваеўскі халодны метад вырошчвання маладняка. Ужо ва ўзросце 2—4 тыдняў цяляты пачынаюць гуляць па адкрытаму загону-манежу. Потым, калі цялятам спаўняецца 6—7 тыдняў, іх зусім трымаюць без клетак. У гэты-ж час цялят прывучаюць да пашы. У раннім узросце цялятам даюць бацвінне. Усё гэта садзейнічае таму, што цяля расце здаровым, вынослівым. Здзівіла мяне і тое, што наш ветурач, напрыклад, не дазваляе цялятам даваць сухую макуху, а там даюць. Паслухала я

і вырашыла: прыеду дадому і адразу пайду да старшыні калгаса. Няхай выдзяляе для цялят асобны загон і ўвесь неабходны рацыён.

Пад вечар я зусім стамілася. Села адпачыць на лаўку. Побач са мной прысела незнаёмая дзяўчына.

— Вы таксама прыехалі на экскурсію? — пытаюся я.

— Не, я ўдзельніца выстаўкі.

— Пэўна, даярка?

— Не, не ўгадалі.

— Тады свіней або цялят даглядаеце?

— Таксама не.

Я перабрала авец, коз, курэй, качак, нават баброў прыпомніла, а суседка толькі галавой адмоўна ківае.

— Дык якая-ж ваша прафесія?

— Я — конюх.

Паказала яна мне пасля выгадаванага ёю цяжкавоза па клічцы «Латуш».

— А ў вас, — пытаецца, — ёсць дзяўчаты-конюхі?

— Не чула, — адказваю, а сама думаю: у нашым калгасе і хлопцы не вельмі хочуць за конюхаў працаваць ісці...

— Дык перадайце дзяўчатам, — гаворыць дзяўчына, — няхай не палохаюцца. Я з 18 год конюхам працую і вельмі люблю сваю работу.

Добра я запомніла гэтыя словы эстонскай камсамолкі Сірыі Вальтма. Трэба нашай моладзі смялей ісці на фермы, браць жывёлагадоўлю ў свае рукі.

Аглядала павільён сваёй рэспублікі. Лён, бульба, жывёла, асабліва свінні — колькі ад гэтага прыбытку! У нашым калгасе вельмі добра родзіць бульба, а калі-б за пасевамі быў лепшы догляд, дык хапіла-б і калгасным каровам, і свінням, і на працадзень калгаснікі атрымалі-б у два разы больш. Пацікавілася таксама практыкай адкорму свіней. На выстаўцы мне давялося бачыць беларускіх свіней. Яны непераборлівыя ў ежы, добра растуць і даюць многа сала. У павільёне «Жывёлагадоўля» я ўбачыла стэнд калгаса «Рассвет» Магілёўскай вобласці. У «Рассвеце» дабіліся нядрэнных поспехаў па адкорму свіней. Вось што расказала нам экскурсавод.

На адкорм ставяць пяцімесячных падсвінкаў, дасягнуўшых жывой вагі ў 50 кілаграмаў. Адкорм складаецца з двух перыядаў. У першы перыяд кожнай свінні даюць за суткі па поўкілаграма ячменнай драчкі, $^{3}/_{4}$ кілаграма макухі, да 5 кілаграмаў бульбы і паўтара кілаграма сіласу. Прымяняецца і мінеральная падкормка ў размеры 200 грамаў на дзень.

Калі свіння дасягае сямімесячнага ўзросту і вагі каля 70 кілаграмаў, павялічваюць колькасць кармоў за лік драчкі і бульбы: драчкі даюць у 4 разы, а бульбы ў 2 разы больш.

Не дзіва, што ў гэтым калгасе толькі ад свінагадоўлі агульны даход склаў 1.463.400 рублёў.

Абавязкова трэба расказаць пра гэта старшыні калгаса.

Учора ўвечары ў нашым інтэрнаце было шумна. Адзін з экскурсантаў расказаў аб новым метадзе апрацоўкі глебы, які вынайшаў зауральскі палявод Мальцаў. Сапраўды, цяжка паверыць у праўдзівасць усяго, што мы пачулі. Звычайнае ўяўленне аб апрацоўцы зямлі перавернута ўверх дном. І ў той час усё так проста.

Нам здавалася, што структуру глебы і арганічныя вяшчэствы разбураюць аднагадовыя расліны. Мальцаў-жа даказвае, што ўсё гэта робіць штогадовае ворыва з пераварочваннем ворыўнага пласта. У якасці аднаго з доказаў прыводзіцца павышэнне ўраджайнасці на пераложных глебах. На самай справе, кожнаму калгасніку добра вядома, што на пералогу, які, напрыклад, быў толькі ўзлушчоны, вырастаюць добрыя ўраджаі. Значыць, насенне не пры ўсіх абставінах любіць глебу, апрацаваную так мякка, як пухавік. Прымяненне сістэмы Мальцава дасць вельмі вялікі эфект. Калі я слухала пра вопыты гэтага зауральскага калгасніка, дык падумала: толькі пры савецкім ладзе так можа вылучыцца чалавек. У нашай краіне сапраўды адкрыты неабмежаваныя магчымасці для росквіту талентаў з народа.

У павільёне механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі аглядала машыны. Хутка калгасы стануць падобнымі на заводы. Усюды будуць машыны. І не абы якія, а вельмі складаныя. Каб працаваць на іх, трэба мець добрую адукацыю. А ў нас у вёсцы няма вячэрняй школы. Абавязкова пагавару пра гэта дома. Не вучыцца цяпер нельга.

### З ліста ў рэдакцыю

Пасля таго, як прыехала я ў калгас з выстаўкі, у нас на жывёлагадоўчай ферме многае змянілася. Загадчыка фермы Паўла Максімука з работы знялі. На яго месца праўленне прызначыла камуніста Мікалая Заноўскага. Для цялят атрымала новае памяшканне. Макухі пакуль яшчэ няма, замяняем яе аўсом. Асабліва даглядаем тых цялят, якія чамусьці горш раслі. Іх асобна поім і падкормліваем. Усе жывёлаводы атрымалі спецвопратку, вёдры, ручнікі, мыла. Да мяне ў поле часта прыходзяць сяброўкі, распытваюць пра выстаўку. Расказваю ім, як пастаўлены справы ў другіх калгасах, што неабходна было-б зрабіць нам.

З газет я ведаю, што адбыўся пленум ЦК КП Беларусі, на якім абмяркоўваліся пытанні жывёлагадоўлі. Нашаму калгасу многае трэба зрабіць, каб наладзіць работу ўсіх ферм. Вялікую дапамогу ў гэтым можа аказаць камсамольская арганізацыя. Нажаль, мы дагэтуль па-сур'ёзнаму не абмяркоўвалі пытанне работы моладзі на фермах. Цяпер райком камсамола будзе працаваць па-новаму, бліжэй стане да калгаснай моладзі. Усё гэта дапаможа нам працаваць лепш. Будзем змагацца за тое, каб і наш калгас стаў такім, як і калгасы — удзельнікі сельскагаспадарчай выстаўкі.

**Калгас імя Кірава**
**Маларыцкага раёна**
**Брэсцкай вобласці.**

# Залатыя агні БЕЛДРЭСА



Дзяжурыць начальнік змены электрацэха Віктар Таркачоў.



Вучні X класа ў кабінеце фізікі.

**На поўнач ад станцыі Асінаўка, што непадалёку ад Оршы, на многія кілометры раскінуліся так званыя асінаўскія балоты. Яшчэ ў гады першай пяцігодкі на гэтых балотах была пабудавана магутная цеплавая электрастанцыя — Белдрэс імя І. В. Сталіна, якая працуе на торфе.**

**Асінторф сягоння зусім не такі, як у тыя гады. Здабыча торфу фрэзерным спосабам механізавана цалкам, а хутка будуць механізаваны ўсе работы і па здабычы паліва гідраўлічным спосабам. Прышлі на асінаўскія балоты дзесяткі самых рознастайных машын, агрэгатаў, якія аблегчылі працу тарфянікаў. На цяжкіх работах па здабычы торфу сёння працуе ў пяць разоў менш людзей, чым да вайны, а здабываецца паліва ў некалькі разоў больш.**

**Сённяшнія тарфянікі—гэта высокакваліфікаваныя механізатары, у большасці сваёй моладзь. Моладзь — сіла гэтага вялікага прадпрыемства. Маладога спецыяліста сустрэнеш на кожным участку. Заслужанай павагай сярод тарфянікаў карыстаюцца вадзіцелі самаходнага валкавацеля СВФ-2 і ўборачна-прывалачнай машыны УПФ-2 камсамольцы Фёдар Ліпатаў, Васіль Сабалеўскі, Аркадзь Давыдзенка. Вымпел лепшай трактарысткі трымае Надзежда Міначкіна. Добра працуе таксама камсамолка Клаўдзія Памялёнак і Паліна Крупянькова.**

**Энергетыкі Белдрэса забяспечваюць электраэнергіяй такія буйныя прамысловыя цэнтры, як Віцебск, Магілёў, Орша. У спаборніцтве электрыкаў першынство і пераходны чырвоны сцяг трымае турбінны цэх, які справядліва называюць сэрцам электрастанцыі. За абсталяваннем падстанцыі высокага напружання па-гаспадарску сочыць начальнік змены электрацэха Віктар Таркачоў і старшы дзяжурны электраманцёр камсамолец Віктар Мядзведзеў.**

**Асінторф і Белдрэс паспяхова выконваюць дзяржаўныя заданні. Адна з прычын поспехаў абодвух прадпрыемстваў—узрастаючая тэхнічная кваліфікацыя рабочых. Маладым рабочым тут створаны ўсе ўмовы для павышэння ведаў. На Белдрэсе працуе вячэрні энергетычны тэхнікум. Многа моладзі вучыцца ў сярэдніх школах рабочай моладзі. Шмат карыснага для практычнай работы даюць камсамольцам-дзесяцікласнікам слесару Мікалаю Міначкіну, работніцы Валянціне Таруліс і электраманцёру Аляксандру Гараднікову заняткі па фізіцы.**



Д. МІЛАШЭЎСКІ

# НАПЯРЭДАДНІ СТАЛАСЦІ



Адна з лепшых трактарыстак Клаўдзія Памялёнак.

Вырастаюць новыя цудоўныя дамы, плошчы, вуліцы. На Асінторфе ёсць дзе адпачыць, правесці вольную гадзіну. Тут нядаўна пабудаваны рабочы клуб, гордасцю Белдрэса з'яўляецца Палац культуры. Цікавым, змястоўным жыццём жыве адна з энергетычных качагарак рэспублікі.

Фото і тэкст С. Капелькі.



Рабочыя могуць добра адпачыць у Палацы культуры.

Самаходны валкавацель «СВФ-2» за работай.



Мікалай Баешка напрасткі ішоў па асенняму бульбяному полю. Шмат бульбы ўбрана — іх калгас не адстае, школа таксама нядрэнна дапамагае. Вось застаўся, хіба толькі, гэты кавалак. Яшчэ гектараў дзвццаць...

Раптам юнак спыніўся ў здзіўленні: перад ім разлеглася ладная пляцоўка бульбы, ускапаная на ямы. Па слядах няцяжка было здагадацца, што нашкодзіў дзік. Незразумела было другое: як звер мог сюды дабрацца. Бліжэйшы лес знаходзіцца за Свіслачу. Няўжо дзік здольны пераплысці рэчку?

Павячэраўшы, Мікалай зарадзіў гільзы буйным шротам, накінуў на плячо бярданку і падаўся за вёску. Ён вырашыў падпільнаваць ляснога шкодніка.

За поўнач, калі стала прыкметна святлей, на рэчцы пачуўся цяжкі плёскат. Вялізнай цёмнай плямай дзік вылез на бераг, страсануўся і накіраваўся да бульбы.

«Вось хітрэц, брод знайшоў»,— падумаў Мікалай, шчыльней прыціскаючыся да зямлі. Юнак стараўся прытаіць дыханне, бо вецер дзьмуў якраз у бок дзіка. Але звер не выказваў асаблівай асцярожнасці. Не сустрэўшы, відаць, небяспекі ў мінулы раз, ён смела набліжаўся да аблюбаванага месца. Мікалай выбраў момант, калі дзік павярнуўся да яго бокам і пачаў рыць бульбу, і націснуў спускавы кручок. Гул стрэла зліўся з перадсмяротным рэвам звера. Некалькі разоў ён крутануўся і мякка рухнуў на бульбянік.

Раніцай сем калгаснікаў з цяжкасцю паднялі на калёсы пятнаццаціпудовую тушу звера.

Вестка аб удалым паляванні Мікалая Баешкі разнеслася далёка за межы Церабутаў. Калгаснікі на ўсе лады хвалілі юнака. Прыгадалі аблаву на ваўкоў, калі Мікалай не зрабіў ніводнага промаху. Прыпомнілі і яго начное рыбацтва з восцямі пры агні, адкуль ён вярнуўся з неймаверна багатым уловам.

— Залаты хлопец. На ўсе рукі майстар, — сказаў хтосьці з калгаснікаў.

— Маладзец, адным словам, і працаваць любіць, — пацвердзіў старшыня калгаса Аляксандр Свістун. — Але вось закончыць дзесяты клас і падасца куды-небудзь у горад...

Не ведае, напэўна, старшыня, што юнак ужо цвёрда вырашыў не разлучацца з роднымі палямі, дзе ён не раз хадзіў за плугам ці з касою; з лесам, у якім яму знаёма кожная сцяжынка, кожнае дрэва; са Свіслачу, на якой правёў не адну прыемную гадзіну ў рыбацкім чаўне. Ведае пра задуму Мікалая пакуль што толькі яго лепшы сябра Барыс Кароль, які жыве ў суседнім калгасе. Яны ўдвух цвёрда naважылі з калгаса нікуды не ехаць.

Барыс, як і Мікалай, гэтае лета добра папрацаваў. У іх калгасе будавалі новы кароўнік. Будынак быў ужо амаль гатовы, заставалася толькі пакрыць, як падаспела касьба, і ўсю брыгаду цесляроў накіравалі на ўборку сена. І вось адной раніцы да брыгадзіра Мікалая Глушчанкі прышоў Барыс з таварышамі. Тут былі Мікалай Трус з сёмага класа, васьмікласнікі Віктар Аўсянік, Мікалай Кароль і яшчэ некалькі школьнікаў.

— Вось — новая брыгада цесляроў, — заявіў Барыс. — Просім дазволу накрыць кароўнік.

— А зможаце? — брыгадзір недаверліва акінуў вачыма хлопцаў.

— Я з бацькам працаваў ужо, а яны таксама справяцца, — запэўніў Барыс.

У той-жа дзень на кроквах новага калгаснага будынка дружна застукалі малаткі. Да юных цесляроў далучыліся малодшыя рабяты. Яны падносілі гонту, цвікі, а некаторыя хутка і самі навучыліся крыць. Мінула некалькі дзён, і на кароўніку забялела новая акуратная страха.

Пасля Барыс Кароль перайшоў са сваёй брыгадай на будаўніцтва свірна. Там школьнікам прыходзілася выконваць самыя рознастайныя цяслярскія работы: часаць бярвенні, габляваць дошкі на падлогу і столь і нават класці вянкі.

Аднойчы, у разгар работы, міма свірна праходзіў барысаў аднакласнік Іван Кораб. Бледнаваты, у вышыванай касаваротцы, ён чымсьці нагадваў прыезджага дачніка.

— Так паліць сонца, а да цябе штосьці загар не прыстае, — пажартаваў Барыс.

Іван зрабіў выгляд, што толькі цяпер заўважыў таварышаў.

— Ведаеш, некалі на сонцы пясціцца, — важна адказаў ён. — Над рэактыўнай мадэллю пацею.

— Ну і як? Атрымоўваецца?

— Атрымаецца. Сякі-такі вопыт маем.

Хлопцы хітравата пераглянуліся. Яны мелі на ўвазе мінулагодні «вопыт» Івана з фюзеляжнай мадэллю самалёта. Ён збіраўся павезці яе на абласныя спаборніцтвы, але яна ўрэзалася ў зямлю пры першым-жа выпрабаванні, не праляцеўшы і дзесяці метраў.

— Мадэлі, канешне, справа патрэбная. Але ты ўзлезь да нас на зруб, лепш гарызонт убачыш, і мадэль паляціць далей, — сказаў Барыс.

— У мяне канікулы. Адпачынак перад напружанай вучобай, — ускіпеў Іван.

— Ва ўсіх адпачынак, але ўсе працуюць. Хто ў полі, хто на будаўніцтве. Толькі цябе аднаго не відаць нідзе.

А ў полі, сапраўды, куды ні глянь, побач з дарослымі працавалі школьнікі — Ліля Кароль, Галя і Аня Марцінчык, Галя Жоўнер. Нават малышы знайшлі сабе занятак: збіралі каласы, падносілі жнеям ваду.

Самымі шчаслівымі лічылі сябе Міхась Забаўчык і Валянцін Аляшкевіч. Ім даручылі быць капнільшчыкамі на камбайне.

Міхась Забаўчык часта, стоячы ля капніцеля, міжволі любаваўся тым, як пакорліва схіляецца жыта перад гэтай разумнай машынай, як няспынная ракою плыве па транспарцёру залацістая салома, як льецца ў бункер зерне. Ён часта заставаўся на камбайне і пасля таго, як закончыцца яго змена, усё прыглядаўся да машыны.

— Цікавішся? — заўважыў аднойчы камбайнер Пётр Васільевіч Варывончык.

— Вельмі. Вы мне матор пакажаце?

— Калі жадаеш, чаму-ж не паказаць. А навошта табе гэта? — пацікавіўся камбайнер.

— Хачу вывучыць. Потым здам экзамен і буду камбайнерам.

Пётр Васільевіч здзіўлена паглядзеў на юнака.

— Дзівак хлопец... Скончыш дзесяцігодку — і ў акадэмію можна трымаць экзамены. А камбайн атэстат сталасці не патрабуе.

— А вось і патрабуе. Без ведаў добрым камбайнерам не будзеш, — запярэчыў Міхась.

І дзень за днём юнак вывучаў усё новыя і новыя дэталі машыны. Праз некалькі тыдняў камбайнер дазволіў Міхаілу сесці за штурвал. Нязмерна горды быў юнак, калі гэтая велізарная машына, паслухмяна падпарадкоўваючыся кожнаму яго руху, угрызалася ў густую сцяну жыта.

— Ну, Пётр Васільевіч, на той год ужо я буду вашым зменшчыкам, — са шчаслівай усмешкай сказаў Міхаіл.

Занятыя працай, школьнікі і не прыкмецілі, як скончылася лета.

І вось пачаўся новы навучальны год у школе.

Па-асабліваму ўспрымаюць гэты факт дзесяцікласнікі. Настаў той час, калі ты на правах сапраўднага гаспадара адчыняеш дзверы з таблічкай «10». Якім далёкім і недасягальным здаваўся табе калісьці гэты клас. З якой павагай і зайздрасцю пазіраў ты раней на дзесяцікласніка! А цяпер і ты ўжо называешся «выпускнік», і табе кідае ўслед нямыя позіркі павагі першакласнік. Адсюль, з гэтага

класа, ты выйдзеш дарослым чалавекам з вялікім запасам ведаў, неабходных ва ўсіх выпадках твайго жыцця...

Нібы згаварыўшыся, сабраліся аднойчы выпускнікі ў класе ранарэна — Мікалай Баешка, Барыс Кароль, Ала Бурая, Міхась Забаўчык, Ліля Кароль, Галя Кургановіч. Усе — загарэлыя, узмужнеўшыя.

— Ну, і далоня ў цябе, як крэмень! — замахала пальцамі Ліля Кароль пасля поціску мікалаевай рукі. — Усёроўна як каменні варочаў.

Баешка дастаў з кішэні працоўную кніжку калгасніка і працягнуў Лілі:

— Вось, дзвесце тры працадні. Не за песні іх налічылі...

— Ух, здзівіў! У мяне самой амаль столькі-ж. Бульбу, можа, разам з табой капалі?

— Дык ты, значыць, практыку маеш, — жартаваў Мікалай. — Цябе ўжо на будучы год брыгадзірам можна вылучаць. А я думаў, што ты абавязкова артысткай будзеш, вельмі ўжо добра трагічныя ролі ў цябе выходзілі.

— Ну, гэта ў гуртку самадзейнасці, а на сцэне, відаць, крыху болей трэба.

Застаўся адзін год павучыцца. А там — новыя жыццёвыя дарогі ў шырокі і такі цудоўны свет. Якімі будуць яны, гэтыя яшчэ нязведаныя дарогі? Пытанне гэтае хвалявала кожнага з сённяшніх дзесяцікласнікаў і кожны хаваў сваё хваляванне недзе ў душы, а на людзях жартаваў, смяяўся. Час яшчэ ёсць, аб усім падумаецца. А сёння праравалася, сёння аб гэтым гаварылі ўголас, на людзях...

— Што датычыцца мяне, то я работу лётчыка-рэактыўшчыка ні на якую іншую прафесію не праменяю, — з важнасцю заявіў Іван Кораб.

— А як не прымуць? — паддзеў Івана Барыс Кароль. — Возьмуць ды і не прымуць. Пастукаюць па калену малаточкам, дрогне які-небудзь нерв — і прапала твая паветраная кар'ера...

Ніхто не заўважыў, як увайшоў класны кіраўнік Аляксей Паўлавіч Міхайлаў.

— А я люблю вясковае жыццё, — сказаў Барыс Кароль. — Вось вывучуся на тэхніка, будзем будаваць новыя вёскі, клубы, радыёвузлы.

— А мне больш тэхніка падабаецца, — сказаў Міхась Забаўчык, — камбайны, трактары, агрэгаты... Вёска цяпер столькі тэхнікі мае, разгарнуцца ёсць дзе тэхнічнаму чалавеку.

— Глядзі ты, тэхнічны чалавек знайшоўся!

Усе засмяяліся.

— Вы правільна разважаеце, рабяты, — сказаў раптам класны кіраўнік Аляксей Паўлавіч. — У нас усе прафесіі ганаровыя і патрэбныя. Хочаш лятаць — лятай, талент, здольнасці ёсць — ідзі на сцэну. Краіне патрэбны і лётчыкі, і артысты, і інжынеры. Але не забывайце, што і нашай сённяшняй вёсцы патрэбна вельмі шмат культурных, адукаваных людзей: тэхнікаў, механікаў, камбайнераў, трактарыстаў...

Раздаўся пранізлівы званок. Урок пачаўся.

**Талькаўская сярэдняя школа Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці.**

## УСЕСАЮЗНАЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ВЫСТАЎКА

**С. ДЗЯНІСАЎ**

# Рукамі юных мічурынцаў

Над галоўным уваходам павільёна гарэльеф: яркае полымя шугае над піонерскім кастром. Па гэтай эмблеме няцяжка здагадацца, каму павільён належыць.

Дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат нашай краіны з'яўляюцца натуралістамі. Яны не толькі добра вучацца, але і знаходзяць час, каб вырошчваць новыя гатункі пладовых дрэў, гадаваць жывёлу. Сёння ў нашай краіне амаль кожная школа, асабліва сельская, мае сад ці агарод, якія даглядаюць юныя аматары прыроды. Аб усім гэтым і расказвае экспазіцыя павільёна юных натуралістаў Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі.

Юныя натуралісты пачалі працаваць у нашай краіне ўжо ў першыя гады савецкай улады. Да Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі 1939 — 41 гг. савецкія юннаты прыйшлі са значнымі дасягненнямі. У 1941 годзе на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы ўдзельнічала больш 20 000 юннатаў-школьнікаў.

Многія сотні юнакоў і дзяўчат, у мінулым натуралісты, сталі стваральнікамі новых гатункаў культур, аграномамі, навуковымі супрацоўнікамі сельскагаспадарчых устаноў.

Былая натуралістка Рыбніцкай школы Яраслаўскай вобласці Л. Гуніна за атрыманне высокіх ураджаяў удастоена Сталінскай прэміі. Ёй прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Яна — старшыня калгаса, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР.

Навуковым супрацоўнікам пладова-ягаднай станцыі, кандыдатам сельскагаспадарчых навук, лаўрэатам Сталінскай прэміі стаў былы натураліст Х. Енікееў.

Пералік людзей, якія прысвяцілі сваё жыццё развіццю сельскай гаспадаркі і жывёлагадоўлі і пачалі гэты шлях у гуртках юных натуралістаў, можна было-б прадоўжыць.

Юныя натуралісты сёння ўяўляюць вялікую сілу. Пры школах, дзіцячых дамах і пазашкольных дзіцячых установах нашай краіны працуе звыш 60 000 гурткоў юных натуралістаў. Займаецца ў іх каля двух мільёнаў школьнікаў.

У павільёне юннатаў прыцягвае ўвагу не толькі тое, што ўсе гэтыя цікавыя экспанаты прысланы дзецьмі. Самым важным, бадай, з'яўляецца тое, што ў працы юнакоў і дзяўчат ёсць шмат новага і каштоўнага.

Вось участак, абнесены цудоўнай зялёнай агарожай з мічурынскіх яблынь. Чаго толькі няма на гэтым невялікім кавалку зямлі! Вішні і арэхі, маліны і парэчкі, кукуруза «кутузаўка» і лекавыя расліны. Сярод мноства раслін ёсць гатункі, выведзеныя юннатамі — кветка касмеі, што расце на сланечніку, гурок, прывіты да гарбуза, гібрыд суніцы і маліны і шмат іншых. Нават поўднёвыя культуры абрыкоса і вінаграду вырашчаны настойлівымі юнымі мічурынцамі на гэтым участку. Эксперыментальны ўчастак уяўляе сабой наглядны прыклад планіроўкі ўчасткаў пры школах, дзіцячых дамах, станцыях натуралістаў, палацах і дамах піонераў.

Вялікую цікавасць выклікае зала, прысвечаная творчасці юных тэхнікаў. Многія тысячы школьнікаў выпрабоўваюць свае сілы ў канструяванні новых, удасканаленых сельскагаспадарчых машын, прыбораў, прылад, што палягчаюць працу хлебароба. У цэнтры залы — макет маленькай школьнай гідраэлектрастанцыі, якая збудавана юнымі тэхнікамі Быстрыцкай школы Станіслаўскай вобласці УССР. Гэтая гідраэлектрастанцыя забяспечвае энергіяй не толькі сваю школу, але і дамы калгаснікаў. Землякі быстрыцкіх школьнікаў — юныя тэхнікі Днепрапятроўскай абласной станцыі юннатаў — прыслалі на выстаўку дзеючую мадэль квадратна-гнездавой сеялкі.

Адным з удзельнікаў выстаўкі 1954 года з'яўляецца гурток юных тэхнікаў Валакаламскай сярэдняй школы Маскоўскай вобласці. Гэты гурток існуе восем год. Тут займаюцца канструктары, радыётэхнікі, фатографы. Ёсць і секцыя «умелыя рукі». Актыўна рыхтаваліся рабяты гэтай школы да выстаўкі. Юры Казлоў сканструяваў электрычную зернесушылку, Б. Зубаў, Н. Масцерава і Л. Макараў зрабілі мадэль падвеснай электрыфікаванай ваганеткі для дастаўкі кармоў на жывёлагадоўчую ферму. Мадэль электрычнага горна для калгаснай кузні зрабіў Віктар Бірукоў.

Юныя тэхнікі Палаца піонераў горада Ленінграда паказваюць на выстаўцы дзеючую мадэль электраплуга і мадэль шагаючага экскаватара. Школьнікі Омска прыслалі мадэль трактара са зробленымі імі-ж гумавымі пакрышкамі.

Адзін са стэндаў павільёна прысвечаны паказу поспехаў Мала-Арэшкаўскай школы Грозненскай вобласці. Школа размешчана ў калгасе. Юннатам перададзены вучэбна-вопытны ўчастак плошчай 1,25 гектара. Яны разбілі на ім пладовы сад, ягаднік, пасадзілі палявыя і гародныя культуры. Ёсць у іх участак для доследаў па раз'вядзенню новых гатункаў, лясны і пладова-ягадны гадавальнікі. Школьнікі вядуць вялікую даследчую работу. Яны працуюць над вырошчваннем бульбы з прымяненнем яравізацыі і летняй пасадкі пры квадратна-гнездавым размяшчэнні клубняў, вырошчваюць шматгадовае жыта і мясцовыя гатункі вінаграду, якія лёгка пераносяць зімовыя халады.

У цэнтры павільёна размешчана круглая зала з высокім шкляным купалам. Увагу наведвальнікаў тут залы прыцягвае стэнд Беларускай ССР. Ганаровае права быць удзельнікамі выстаўкі заваявалі юннаты Чаускага і Ветрынскага дзіцячых дамоў і Пружанская сярэдняя школа Брэсцкай вобласці.

Шырока паказаны вопыт работы Чаускіх юных натуралістаў. Паспяхова працуюць там юныя раслінаводы, рыбаводы і пчалаводы. Арганізавана 8 гурткоў юннатаў і 4 гурткі юных тэхнікаў. Тры разы ў тыдзень выхаванцы дзіцячага дома працуюць па паўтары-дзве гадзіны на сваім участку, дзе вырошчваюць рознастайныя сельскагаспадарчыя культуры. Любяць рабяты свой участак, і поспехі іх з кожным годам усё лепшыя. За два гады ўраджайнасць азімай пшаніцы ў сярэднім дасягнула тут 25 цэнтнераў з гектара. Юныя натуралісты здымаюць з гектара да 500 цэнтнераў капусты, 550 цэнтнераў памідораў, 420 цэнтнераў бульбы.

Займаюцца выхаванцы дзіцячага дома і жывёлагадоўляй. Старанным доглядам дамагліся яны выхаду да 27 парасят ад адной свінаматкі; каровы даюць па 3 380 літраў малака ў год. Асабліва добрых вынікаў дамагліся школьніцы Марозава, Самосева, Рай і іншыя.

Моцная дружба звязвае выхаванцаў дзіцячага дома з суседнім калгасам імя Сталіна. Першыя памочнікі калгаснікаў на ўборцы ўраджаю — выхаванцы дзіцячага дома. Нярэдка іх сіламі наладжваюцца ў калгасе і канцэрты самадзейнасці.

З вялікай любоўю аформлены альбомы выхаванцаў Магілёўскага і Ветрынскага дзіцячых дамоў. Тут адлюстравана ўсё жыццё дзяцей. На фатаграфіях паказана работа юных раслінаводаў на сваіх участках, збор фруктаў, адкрыццё піонерскага лагера, заняткі ў гуртках, самадзейнасць у вольныя гадзіны. Адзін з подпісаў пад фото гаворыць, што юныя натуралісты Магілёўскага дзіцячага дома № 3 з аднаго кілограма бульбы «Ранняя ружа» вырасцілі 176 кілаграмаў.

...На адной са сцен уводнай залы змешчана копія вядомай карціны мастака Іагансона «Выступленне В. І. Леніна на 3-м Усерасійскім з'ездзе РКСМ». Тады, у кастрычніку 1920 года, Уладзімір Ільіч паставіў перад моладдзю задачу вучыцца, авалодваць ведамі. І калі праходзіш па залах павільёна юннатаў, аглядаеш дасягненні і багацці, створаныя іх рукамі, то міжвольна ўзнікае думка, што ўсё гэта — выдатны рапарт падрастаючага пакалення аб выкананні вялікага ленінскага наказу.

**Цікавыя сустрэчы адбываюцца на выстаўцы. Ля павільёна юннатаў, каля лекавых раслін, сустрэліся загадчык навукова-вопытнага ўчастка Гродзеўскай сярэдняй школы Джамбульскай вобласці В. Т. Чорны з маскоўскімі піянерамі. В. Т. Чорны расказаў дзяўчынкам, як казахскія піянеры збіраюць лекавыя травы ў стэпах.** На здымку (злева направа): **Лена Бялова, В. П. Чорны, Ліда Раманава і Ніна Качаткова разглядаюць расліну дзевасіл.**

Унізе: **Фантан «Каменная кветка»».**

Фото А. Дайтлава.



Фото Р. Каралёва.

**Новымі вытворчымі поспехамі сустракае XXXVII гадавіну Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі калектыў віцебскай панчошна-трыкатажнай фабрыкі «КІМ».** На здымку: **лепшая вязальшчыца трыкатажнага цэха комсамолка Ольга Багачова, якая штомесяц выконвае паўтары нормы пры выдатнай якасці работы.**



Дрэйфуючая навуковая станцыя «Поўночны полюс № 3». Малады аэролаг комсамолец І. І. Цыгельніцкі.

М. ВАДАП'ЯНАЎ,
Герой Савецкага Саюза

# ШЧАСЛІВАГА ДРЭЙФУ, СЯБРЫ!

**Шматлікія чытачы нашага часопіса просяць расказаць аб заваяванні Арктыкі савецкімі людзьмі. Рэдакцыя звярнулася да старэйшага палярнага лётчыка, удзельніка амаль усіх савецкіх паветраных экспедыцый на Поўнач, Героя Савецкага Саюза М. В. Вадап'янава з просьбай расказаць аб апошніх даследаваннях у Арктыцы. Ніжэй друкуецца яго артыкул, прысланы нам.**

Скончылася кароткае арктычнае лета. Сонца ўжо не свеціць з аднолькавай сілаю круглыя суткі. Вось-вось шасцімесячны дзень зменіцца шасцімесячнай ноччу. Становіцца ўсё больш холадна і ветрана. Рана прыходзіць доўгая і суровая палярная зіма. Прадчуваючы яе, «гаспадары Арктыкі» — белыя мядзведзі са сваім падросшым за лета вывадкам прабіраюцца бліжэй да мацерыка.

Хутка неба над цэнтральным палярным басейнам запалыхае казачным святлом поўночнага ззяння. Загарацца тысячы праменняў, урачыста закалыхуцца феерычныя светавыя заслоны. Я бачыў многа палярных ззянняў, але ніколі не стамляўся любавацца гэтай самай прыгожай з'явай прыроды. Вялікая прывабная сіла Далёкай Поўначы. Хто хоць раз пабыў у Арктыцы, пабачыў яе лёдавыя прасторы, адчуў радасць перамогі над суровай прыродай, той назаўсёды захварэе «хваробаю Поўначы».

За сваё доўгае лётнае жыццё, адкрываючы новыя паветраныя трасы над поўночнай тундраю, прымаючы ўдзел у палярных экспедыцыях, прылятаючы на далёкія зімоўкі, я сустракаў нямала выдатных энтузіястаў асваення Далёкай Поўначы. І цяпер у самым сэрцы Арктыкі адважныя савецкія людзі ўпэўнена і мужна сустракаюць палярную зіму, несучы кругласутачную навуковую вахту на ільдах, якія паволі плывуць у акіян. За дрэйфам навуковых станцый «Поўночны полюс № 3» і «Поўночны полюс № 4» сочыць увесь свет. На ільдзінах працуюць вучоныя розных спецыяльнасцей. Станцыі выдатна абсталяваны. Савецкая дзяржава зрабіла ўсё, каб аблегчыць працу палярнікаў, забяспечыла іх усім, што можа спатрэбіцца, — ад верталётаў і ўсюдыходаў да трактараў і піяніна. На дрэйфуючых ільдах выраслі цэлыя гарадкі са спецыяльна сканструяваных, добра ацепленых палатак і разборных домікаў. Над гэтымі поўночнымі паселішчамі горда рэе чырвоны сцяг нашай Радзімы.

Арганізацыю ў такіх шырокіх маштабах навуковых даследаванняў у высокіх шырынях змагла ажыццявіць толькі наша савецкая дзяржава, якая імкнецца паставіць на службу чалавеку ўсе прыродныя рэсурсы краіны. Савецкія даследчыкі маюць велізарны вопыт у справе вывучэння і асваення крайняй Поўначы. У калектываў палярнікаў на чале з кандыдатамі геаграфічных навук А. Ф. Трэшнікавым і Е. І. Толсцікавым было многа слаўных папярэднікаў.

Ужо 2 ліпеня 1918 года В. І. Ленін падпісаў пастанову Савецкага ўрада, па якой асігноўваўся адзін мільён рублёў на арганізацыю гідраграфічнай экспедыцыі Поўночнага Ледавітага акіяна. У першыя-ж гады савецкай улады былі пачаты работы па будаўніцтву арктычных партоў і арганізацыі палярных зімовак.

Цяжка пералічыць усе марскія, паветраныя і наземныя навуковыя экспедыцыі, якія праведзены Савецкім Саюзам у Арктыцы. Адменнай рысай іх з'яўляецца работа па адзінаму, строга прадуманаму плану, з выкарыстаннем сучаснай тэхнікі. Каб паказаць, наколькі вялікія работы праведзены савецкімі палярнікамі па вывучэнню «белых плям», г. зн. недаследаваных раёнаў Цэнтральнай Арктыкі, дастаткова сказаць, што ў 1929 годзе агульная плошча гэтых раёнаў раўнялася 4 310 000 квадратных кіламетраў, а цяпер у савецкай Арктыцы няма месц, якія не былі-б вядомы нашым даследчыкам.

21 мая 1937 года — незабыўны дзень у гісторыі заваявання Арктыкі. У гэты дзень мне ўдалося пасадзіць флагманскі карабель на ільдзіну каля самага Поўночнага полюса і высадзіць тут чацвёрку адважных зімоўшчыкаў — Папаніна, Фёдарава, Шыршова, Крэнкеля. Станцыя «Поўночны полюс» была адкрыта. Пачаўся новы бліскучы этап даследавання Арктыкі.

Подзвіг папанінцаў быў паўтораны ў 1950—51 годзе групай палярнікаў пад кіраўніцтвам аднаго з самых выдатных прадстаўнікоў новага пакалення савецкіх даследчыкаў Арктыкі — доктара геаграфічных навук Героя Савецкага Саюза Міхаіла Міхайлавіча Сомава.

З Сомавым я ўпершыню сустрэўся ў навуковым лагеры на дрэйфуючай ільдзіне ў раёне так званага «Полюса адноснай недаступнасці». Запасы дрэйфуючай станцыі патрэбна было папоўніць. Кіраваць гэтай аперацыяй было даручана мне. Усе грузы мы павінны былі даставіць з мыса Шмідта, ад якога да лагера было 1 500 кіламетраў.

У экспедыцыю ўваходзіла два двухматорныя самалёты пад камандаваннем вядомых палярных лётчыкаў Міхаіла Аляксеевіча Тітлава і Барыса Сямёнавіча Осіпава і арктычны паветраны карабель, наш нязменны «грузавік», якім кіраваў Васіль Нікіфаравіч Задкоў.



У далёкай Арктыцы бязьзменную навуковую вахту нясуць палярныя метэаралагічныя станцыі. Адна з старэйшых палярных станцый размешчана на востраве Дзіксан. Створана гэтая станцыя ў 1914 годзе. У савецкі час палярная станцыя Дзіксан вырасла ў буйную навуковую абсерваторыю. На здымку: дзяжурны метэаралаг комсамолка Г. Г. Бялугіна запісвае паказанні тэрмометраў, пагружаных у снег.

Сомаў паведаміў, што на дрэйфуючай ільдзіне падрыхтавана вузкая паласа даўжынёй каля тысячы метраў. Таўшчыня ільду два метры.

— Усё ў парадку! — падумаў я.

Надыходзіла палярная ноч. Моцныя вятры і частая пурга не давалі магчымасці рэгулярна лятаць, хоць лётчыкі і не вельмі лічыліся з тым, якое надвор'е сустрэне іх у дарозе, — абы былі добрыя ўмовы для пасадкі на месцы.

Калі мы ўпершыню з'явіліся над лёдавым лагерам, то ўбачылі вогненнае «Т», якое паказвала кірунак пасадкі і вызначала агнямі граніцы пасадачнай пляцоўкі. Адзін за другім самалёты ўдала апусціліся на лёдавы аэрадром. Мы прывезлі харчаванне, аўтамабіль-усюдыход, пісьмы, газеты. Цяжка апісаць, з якой радасцю сустрэлі нас зімоўшчыкі.

...Калі мы рыхтаваліся да другога палёту на ільдзіну Сомава, ад яго прыйшла радыёграма: «На пляцоўцы з'явіліся шчыліны, самалёт прыняць не можам. Чакайце, пакуль падрыхтуем у другім месцы».

З Масквы ў гэты час прыйшло распараджэнне паскорыць перакідку грузаў на навуковую станцыю. Тады я вырашыў прымяніць новы спосаб перавозкі грузаў — проста скінуць з самалёта рэчы, якія не б'юцца: мёрзлае мяса, масла ў добрай упакоўцы, скрынкі з пельменямі і г. д.

Калі самалёт з'явіўся над лагерам, ды яшчэ ноччу, і пачаў «бамбіць» яго, Сомаў радыраваў на мыс Шмідта і ў Маскву: «Спыніце зверскія адносіны да прадуктаў».

Эксперымент наш яўна не ўдаўся. Мяшкі з мясам разбіваліся аб лёд, заставаліся толькі косці, ды на 20—30 метраў наўкруг чырвоны мясны пыл. Цікава разбіваліся пельмені — яны разляталіся ва ўсе бакі, як шрапнель, і зімоўшчыкі потым хадзілі збіраць іх, як грыбы. Скінулі і папяросы ў добра запаяных скрынях. Многія пачкі «Казбека» звонку былі нібы непашкоджанымі, а ўнутры іх не знайшлося ніводнай цэлай папяросы.

Праз некалькі дзён Сомаў паведаміў, што сярод таросаў удалося расчысціць палоску 20 метраў шырынёй і 500 метраў даўжынёй. «Ці зможаце сесці на такую маленькую пляцоўку, вырашайце самі», — радыраваў ён.

Я з Осіпавым і Тітлаў на сваёй машыне вылецелі ў лагер. Селі добра, разгрузіліся і сабраліся ў зваротны шлях.

Першым, як заўсёды, бліскуча ўзняўся Тітлаў. Услед пайшоў на старт Осіпаў. Я сядзеў у пасажырскай кабіне, прыхіліўшыся да сценкі. Як лётчык, я адразу адчуў па гуку, што недастаткова выразна працуюць матары, і самалёт дрэнна развівае хуткасць. Бачу, як узнімаецца і рэзка апускаецца хвост, адчуваю, што катастрафічна губляем хуткасць. Крэн налева. Я ведаю, што наперадзе вялікія таросы, а гэта — смерць! Удар. Мяне прыціснула да пярэдняй сценкі з такой сілай, што я разбіў лоб. Бочкі, інструменты — усё паляцела ўперад і прыціснула дзверы. Я аказаўся запёртым.

Гарым? Не. Бачу праз парваную перагародку: лётчык сядзіць на месцы і выцірае кроў з твару. Штурман Акуратаў ужо на ільдзіне, крычыць: «Дзе Вадап'янаў, ратуйце яго!»

Прыбеглі зімоўшчыкі, разбарыкадыравалі дзверы. Я вышаў з самалёта і пачаў прыкладаць снег да раны. Не вельмі прыемна разбіць сабе лоб на ўзлёце, але зусім крыўдна старому лётчыку быць раненым у якасці пасажыра!

Папярэджаны па радыё, праз некалькі мінут вярнуўся Тітлаў і забраў наш экіпаж. У паветры мой сын — бортмеханік Уладзімір Вадап'янаў — клапатліва даглядаў мяне.

Праз некалькі дзён я змог зноў вылецець на зімоўку. З сабою мы ўзялі сапраўднага энтузіяста Арктыкі Віталія Георгіевіча Валовіча. Ён урач, адначасова і парашутыст, які рабіў прыжкі і ў Арктыцы. Валовіч добраахвотна ўзяў на сябе абавязкі і кухара зімоўкі. Увесь калектыў з нецярпеннем чакаў яго прыезду. Кухарам доктар аказаўся не бліскучым. Хоць ён і прывёз з сабою тоўстую кнігу «Аб смачным і здаровым харчы», яму спачатку рэдка ўдавалася падрыхтаваць якуюнебудзь страву, якая б не падгарэла і не пахла дымам. Працаваць яму даводзілася ў цяжкіх умовах, але ён ні разу на гэта не паскардзіўся. Цяпер Валовічу ўжо не трэба рыхтаваць абеды і вячэры, ён — урач станцыі «Поўночны полюс № 3».

Навуковая станцыя пад кіраўніцтвам Сомава дрэйфавала ў Поўночным Ледавітым акіяне каля трынаццаці месяцаў. За гэты час быў сабраны вялікі навуковы матэрыял аб характары водных мас акіяна, аб структуры атмасферы над Цэнтральнай Арктыкай, аб руху цыклонаў і антыцыклонаў. Зроблена было многа прамераў глыбіні акіяна, праведзены важныя назіранні геамагнітнага поля.

У выніку назіранняў апошніх год па сутнасці нанова створана тэорыя дрэйфу ільдоў на шырокіх прасторах Поўночнага Ледавітага акіяна. Устаноўлена, што, апрача генеральнага дрэйфу ільдоў з усходу на захад у Грэнландскае мора, у Поўночным Ледавітым акіяне ёсць раён, дзе існуе антыцыклічны рух ільдоў па кругу, які не ўваходзіць у генеральны напрамак лёдавага дрэйфу. Вывады вучоных пацвердзілі залежнасць дрэйфу ільдоў ад атмасферных, гідралагічных і іншых фактараў. Значэнне гэтага стане зразумелым, калі напомніць, што кірунак і хуткасць руху ільдоў, як і характар агульнай лёдавай масы, якая выносіцца з палярнага басейна, аказвае істотны ўплыў на клімат не толькі Ледавітага акіяна, але і на поўночную частку Атлантычнага акіяна. Вядома, што чым далей на поўдзень будуць спускацца халодныя воды Ледавітага акіяна, тым больш будзе іх уплыў на цёплыя атлантычныя воды, якія рухаюцца да берагоў Еўропы. Вывучыўшы законамернасць гэтых працэсаў, вучоныя змогуць з большай дакладнасцю прадказваць кліматычныя змены.

Высокашырынныя экспедыцыі апошніх год, у якіх удзельнічаў і я, зусім змянілі нашы ўяўленні аб Цэнтральнай Арктыцы і аб тых працэсах, якія там адбываюцца. Раней думалі, што дно Цэнтральнай Арктыкі ўяўляе сабой гіганцкую чашу. Старраннае вымярэнне глыбінь на велізарных плошчах паказала, што гэта чаша перасечана магутным падводным хрыбтом, названым імем М. В. Ламаносава. Гэты хрыбет узнімаецца на 2,5—3 кіламетры над дном акіяна і цягнецца ад Новасібірскіх астравоў да Зямлі Элсміра (на захад ад Грэнландыі).

Шмат чаго мы даведаліся аб прыродзе «краіны лёдавага маўчання», але яшчэ не ўсе таямніцы Арктыкі разгаданы чалавекам. І вясной гэтага года пачалося новае, небывалае па маштабах наступленне на Арктыку. Адзін за другім узнімаліся з падмаскоўнага аэрадрома цяжкія паветраныя караблі і клаліся на курс «Норд».

Арктыка стала намнога «бліжэй» да Масквы, і адбылося гэта не толькі таму, што ўзрасла хуткасць нашых самалётаў. Хоць Арктыка паранейшаму не вельмі гасцінна сустракае паветраных падарожнікаў (надвор'е тут змяняецца амаль кожныя поўгадзіны), лётчыкі цяпер водзяць машыны ва ўсякае надвор'е, пры любых метэаралагічных умовах.

У 1934 годзе я месяц ляцеў да мыса Шмідта — крайняга фарпоста Чукоткі, адкуль дабіраўся да ільдзіны, на якой чакалі выратаваныя чэлюскінцы. У апошнім, нядаўнім палёце ў Арктыку, шлях ад Масквы да Чукоткі заняў нямногім больш двух сутак.

Самалёт цяпер — часты госць у лагерах станцый «Поўночны полюс № 3» і «Поўночны полюс № 4». Самалётамі сюды рэгулярна дастаўляюцца садавіна, свежая гароднiна і пошта. Нашы лётчыкі нядрэнна асвоілі трасу Масква — Поўночны полюс.

Яшчэ рана падводзіць вынікі навуковых даследаванняў, якія вядуцца цяпер у сэрцы Арктыкі. Але ёсць усе падставы думаць, што дзейнасць станцый «Поўночны полюс № 3» і «Поўночны полюс № 4» паслужыць далейшаму росквіту вытворчых сіл Савецкага Саюза, памножыць славу нашай айчыннай навукі.

Савецкая метэаралагічная служба, напрыклад, ужо атрымоўвае ад дрэйфуючых навуковых станцый каштоўныя звесткі аб стане надвор'я ў раёне Поўночнага Ледавітага акіяна. З дапамогай самазапісваючых прыбораў навуковыя работнікі станцыі вядуць сістэматычныя назіранні за рухам паветраных мас, займаюцца даследаваннямі, звязанымі з вывучэннем надвор'я і ўплывам Палярнага басейна на клімат мацерыка. Гэтая работа асабліва важна цяпер, калі мы толькі што перажылі зусім незвычайныя ўмовы надвор'я: катастрафічныя паводкі ў Аўстрыі, Германіі, Італіі, Індыі, Іране, небывалую спякоту ў еўрапейскай часці СССР. Несумненна, усе гэтыя з'явы звязаны з працэсамі, якія адбываюцца ў Арктыцы.

У навуковых лагерах на ільдзінах усе людзі здаровыя і бадзёрыя. Дрэйф працякае паспяхова. Ільдзіны прайшлі па акіяну ўжо каля 350 кіламетраў. Вось іх каардынаты на 10 верасня. Навуковая станцыя пад кіраўніцтвам Е. І. Толсцікава знаходзілася на 79°28′ поўночнай шырыні і 175°08′ заходняй даўжыні. Ільдзіна, на якой працуюць палярнікі групы А. Ф. Трэшнікава, была на 89°27′ поўночнай шырыні і 250°06′ заходняй даўжыні. Цікава адзначыць, што ільдзіна станцыі «Поўночны полюс № 3» прайшла ўжо праз хрыбет Ламаносава і дрэйфуе прыкладна па таму-ж шляху, які зрабіла ў 1937 годзе ільдзіна папанінцаў. Праз некалькі месяцаў яна, па ўсіх меркаваннях, падыйдзе да берагоў Грэнландыі, а можа быць яшчэ раней самалёты перакінуць адважных зімоўшчыкаў на новую кропку ў Поўночным Ледавітым акіяне.

Шчаслівага дрэйфу, сябры!



*Лагер дрэйфуючай навуковай станцыі на ільдах Цэнтральнай Арктыкі.*

Фото В. Савасцянава. (Фотахроніка ТАСС.)



**Васіль ДАНІЛЕВІЧ**

# Персанальная справа Віталія С.

Мал. М. Бельскага.

Пачалося ўсё проста.

Аднойчы яму пазванілі ва ўніверсітэт.

— Віталь, прывітанне! Гэта я, Фока. Не памятаеш? А вёску Язовіны, а сад бабкі Гаруніхі, а белы наліў — памятаеш? Вось, вось, ён самы. Чаго ў горадзе? Ды я тутака даўно, працую... На якой пасадзе? Сустрэнемся, раскажу. Давай сёння пабачымся.

І яны сустрэліся.

Фока чакаў Віталія не адзін, а разам з дзяўчынай. Хлопец быў апрануты на дзіва страката. Сіні пінжак, штаны ў клетку, чырвоны гальштук і зялёны капялюш, з-пад якога зухавата тырчэў чуб штучна накручаных валасоў. Дзяўчына была ў зялёнай сукенцы з высокім каўняром, з размаляваным тварам; на кучаравай галаве — капялюшык, ды такі, што незразумела было, як ён толькі трымаўся. Яны стаялі недалёка ад уваходу ў парк, прыцягваючы да сябе ўвагу прахожых.

Віталі таксама адразу заўважыў іх.

— Фока, ты?

Той паважна сказаў:

— Сумняваешся? Ён самы і ёсць. А ты чаго выцягнуўся, бы таран?

— Сам ведаеш, вучуся...

— Але, справа нялёгкая,—зноў паважна сказаў Фока. — Знаёмся, мая суджаная.

«Суджаная» працягнула два пальцы:

— Ірына.

— Ну што-ж, пойдзем куды-небудзь? — хутка прамовіў Фока.

— На летнюю эстраду, — прапанаваў Віталі. — Там, здаецца, лекцыя аб каханні і сяброўстве.

— Сумна, — сказала Ірына. — Лепш — рэстаран.

— Што праўда, то праўда, — падтрымаў яе Фока.

— Не, не! — засупярэчыў Віталі. — Я не п'ю...

Але Ірына, узяўшы яго пад руку, пачала гаварыць з крыўдай у голасе:

— А яшчэ мужчына! Вы павінны быць далікатным. Тым больш, калі вас просіць аб гэтым жанчына. Ніякіх «не»! Зразумелі? Васжа запрашаюць!..

На другі дзень Віталі прачнуўся з болем у галаве. У роце было брыдка. Чаго-б гэта?.. А-а! Рэстаран... Фока... Ірына... І чаго Фока хацеў ад яго? «Я, кажа, камерчаскі дырэктар, а начальству без асветы зараз, сам ведаеш, ні туды, ні сюды»... Ды і Ірына шчабятала: «О, вы дабрэйшы чалавек, Віталь! Люблю высокародных людзей!..» Ага, значыцца, Фока хоча паступіць у політэхнічны інстытут, а яму, Віталію, трэба дапамагчы «камерчаскаму дырэктару» здаць уступныя экзамены. Чорт ведае, што атрымліваецца! Адзін хоча вучыцца, а другі павінен здаваць за яго... Нізавошта!



У дзверы інтэрнацкага пакоя пастукалі.

— Да тэлефона!

Званіла Ірына.

— Віталь, добры дзень! Вы не забыліся, што ў Фокі заўтра першы экзамен?.. Што, не будзеце дапамагаць? Але-ж вы абяцалі... Як вам не сорамна! Зразумейце, што на вашым сумленні ляжыць фокіна кар'ера, лёс двух людзей. Я не магу-у... Што? Ну, як тут не заплачаш! І гэта завецца — сябры дзяцінства! Няма ў вас чуласці, чалавечнасці...

Віталі кінуў трубку на апарат.

«Што-ж рабіць? Я, здаецца, і сапраўды абяцаў. І калі я не стрымаю слова, Фока не паступіць у інстытут. А ён кажа, што вельмі жадае вучыцца... Не, пайду. Гэта мне нічога не каштуе, а яму — вялікая падтрымка ў жыцці. Скончыць інстытут, будзе інжынерам Няхай ведае маю дабрату.

Назаўтра Віталі здаў першы экзамен, а адзнаку паставілі супраць прозвішча Фокі. Вечарам «замачылі» гэта. Праз некалькі дзён — яшчэ экзамен, а вечарам — зноў п'янка. І так да таго часу, пакуль Фоку не залічылі ў інстытут.

— Мілы Віталь! Лісліва гаварыла Ірына. Вы разумны, далікатны, шчодры! Мы ніколі не забудзем вас!

Пасля апошняй сустрэчы ў інтэрнат Віталі вярнуўся позна. Пабудзіў усіх, і, заікаючыся, пачаў выхваляцца:

— У мяне — цэлы скарб р-розуму! Я магу за ўсіх п-паздаваць экзамены! — абы ціха!

І, не распранаючыся, зваліўся на ложак.

Раніцай нехта з сяброў сказаў яму:

— Віталі, ты нешта занадта захапіўся выпіўкай. Глядзі, каб гэта дрэнна не скончылася...

Нікуды не хацелася ісці — ні ў кіно, ні ў парк. І Віталі сядзеў у інтэрнаце адзін — маўклівы, прыгнечаны, бязвольны... Але вось у акне ён убачыў дзяўчыну. «Марына! Марынка!..» — радасна закалацілася сэрца. Аднак, варта было Марыне пераступіць парог і строга, дапытліва зірнуць яму ў вочы, як страшэнны холад зноў апанаваў усю яго істоту. Ён апусціў галаву і пачаў нечага чакаць. Яна маўчала, прадаўжаючы глядзець на хлопца. Ён няўпэўнена прамовіў:

— Добры дзень, Марына...

— Добры дзень, — адказала дзяўчына. І, пачакаўшы крыху, спытала: — Скажы, што з табой?

Што адказаць? Як хацелася яму не схлусіць ёй! І ўсё-ж схлусіў:

— Нічога асаблівага. Чытаў многа. Галава...

— Мне хлопцы сказалі, што тут іншае?

— Глупства! — Віталі пачаў злавацца. — Выпіў грам, а прыхлусяць на кілаграм...

Больш ён нічога не сказаў. Яны пайшлі гуляць. Ішлі, кожны думаючы пра сваё. Разышліся, незадаволеныя адзін другім.

Ішоў час. Набліжалася чарговая экзаменацыйная сесія. Засеўшы за кнігі, Віталі, здавалася, забыўся на ўсё. І Марына таксама. Пры сустрэчах яны па-ранейшаму марылі аб сваёй будучыні, імкнучыся да яе ўсёй душой.

Бяда звалілася нечакана, як снег на галаву.

Пачалася сесія. Здаўшы на выдатна першы экзамен, Віталі спяшаўся сказаць пра гэта Марыне. Але не паспеў ён сыйсці з ганка універсітэта, як яго хтосьці паклікаў. Перад ім, нібы з-пад зямлі, выраслі Ірына і Фока. Прадчуваючы нядобрае, Віталі нахмурыўся.

— Ну, што яшчэ?

— Прышлі павіншаваць цябе з поспехам, Віталь, — саладжава сказала Ірына. — Ты-ж, напэўна, паспеў адхапіць пяцёрку?

— Ну і што? — нявётліва прамовіў Віталі.

— Вось і ў Фокі таксама пачынаюцца экзамены...

— Жадаю поспеху, — сказаў Віталі, збіраючыся пайсці.



Але Ірына пераступіла яму дарогу.

— У нас да цябе справа. Фока, чаго-ж ты маўчыш? Ну, кажы!

— Ага, справа, — пачаў Фока.— Мне аднаму, бадай, не ўправіцца з гэтымі... ліха на іх... экзаменамі. Я цябе прашу, як друга. Дапамажы мне яшчэ раз. Паслязаўтра...

Віталі ўзлаваўся:

— Ды вы што, з глузду з'ехалі ці што?!

І памкнуўся пайсці. Але Ірына схапіла яго за руку.

— Не спяшайся! — раптам злосна сказала яна. — Паслухай лепш адну павучальную гісторыю.

І расказала, як адзін малады чалавек за такі-ж самы ўчынак, які ўжо зрабіў ён, Віталі, паплаціўся камсамольскім білетам і быў выгнаны з навучальнай установы.

— Спадзяюся, што ты будзеш больш разумны...

У Віталія нехапіла ні волі, ні рашучасці для таго, каб выкрыць гэтых подлых, нізкіх людзей. Ледзьледзь здаўшы свой чарговы экзамен, ён бег выручаць «сябра» Фоку. А ў ягонай заліковай кніжцы з'явіліся тройкі. Ён схуднеў, апусціўся. З таварышамі трымаўся насцярожана, зрабіўся разгублены. Адной з першых гэтыя перамены, як заўсёды, заўважыла Марына.

— Віталі, ты нешта хаваеш ад мяне, ад усіх нас.

Ён моўчкі апусціў галаву. Марына настойліва паўтарыла пытанне. І тады Віталі расказаў ёй пра ўсё.

— Як-жа гэта ты ўтойваў столькі часу?

— А што рабіць? — развёў ён рукамі.

— Трэба неадкладна паведаміць у інстытут.

— Але-ж тады мяне...

Марына падалася да дзвярэй, папярэдне кінуўшы яму ў твар:

— Баязлівец!

Калі старшыня сходу абвясціў: «Пачынаем разбор персанальнай справы комсамольца С.», у аўдыторыі стала ціха-ціха. Марына, якой трэба было дакладваць, чула, як калоціцца яе сэрца. Яна паднялася на кафедру. Позіркі соцень юнакоў і дзяўчат у гэтую хвіліну былі накіраваны на яе. І толькі адзін з прысутных не глядзеў на дзяўчыну. Нізка схіліўшы галаву, ён сядзеў нерухома, з белым тварам. Пераадольваючы хваляванне, дзяўчына цвёрда сказала:



— Таварышы!

Віталі выразна пачуў гэтае блізкае, роднае слова. Але ці да яго было звернута яно? Не! Таварышы — гэта Аляксей і Галіна, што сядзяць побач з ім, гэта Іван і Пятро — яго суседзі па інтэрнату, гэта ўсе тыя, у каго чыстае сумленне...

— Таварышы! — працягвала Марына. — Усе мы ведалі Віталія С. як выдатніка вучобы, ініцыятыўнага комсамольца і сардэчнага таварыша. Я кажу «ведалі», таму што нельга, нажаль, сказаць «ведаем». У апошні час ён стаў вучыцца на тройкі, ды і тыя ставяцца выкладчыкамі з нацяжкай, відаць, не без уліку мінулых заслуг. Ад грамадскай работы ўхіліўся. Зрабіўся замкнёным. Як вы думаеце, чаго-б гэта? А вось чаго. Комсамолец С. узяў «шэфства» над адным прайдзісветам. Ён здаў за яго ўступныя экзамены ў інстытут, а зараз здае за першы курс.

З усіх бакоў панеслося:

— Неверагодна!

— Не інакш, звіхнуўся чалавек!

— Бачылі, які добры дзядзька знайшоўся!

Калі галасы сціхлі, Марына прадаўжала:

— Неверагодна, але факт! І што «звіхнуўся» — таксама правільна. А што датычыцца «добрага дзядзькі» дык гэтым і тлумачыцца ўсё, што здарылася. Ён, бачыце, не мог адмовіць сябру дзяцінства і таму дапамог. А ў чым дапамог? Авалодаць ведамі ці ўкрасці ў дзяржавы дыплом аб вышэйшай адукацыі? І пра якога «сябра» тут можа ісці гаворка? Хіба сапраўдны сябра прыме такую «дапамогу»? Вядома, не. Давайце разбярэмся, што гэта за «сябры» такія.

Марына павярнулася да Віталія.

— Ты гаварыў мне, што Фока працуе начальнікам аддзела збыту, або, як ён рэкамендаваўся табе, «камерчаскім дырэктарам». Няпраўда! Ён паступіў на завод, але праз тыдзень яго выгналі за спробу накласці сваю брудную руку на матэрыяльныя каштоўнасці. А пасля высветлілася, што і дакументы ў яго фальшывыя, якія ён здабыў пры дапамозе гэтакіх-жа, як ты, разяў. Спекулянт, п'яніца, прайдзісвет — вось хто такі твой Фока!

«Яшчэ ў школе ў Фокі было штосьці падобнае, — падумаў Віталі. — Работы таварышаў ён выдаваў за свае. Любіў прысвойваць чужыя рэчы. Уласную віну заўсёды імкнуўся ўскласці на другіх. Так было, напрыклад, з яблыкамі. Белы наліў у Гаруніхі краў ён, а за вушы цягалі мяне».

— А цяпер пра Ірыну, — гаварыла далей дзяўчына. — Што яна сабой уяўляе? Калі верыць Віталію, гэтая маладзіца скончыла інстытут замежных моваў і зараз выкладае ў нейкай школе. І гэта няпраўда! Два гады назад яе выключылі з інстытута за непасяховасць. З таго часу яна нідзе не працуе. Як-жа ты, Віталі, змог палічыць гэты пустацвет за сапраўдных людзей?!.

Марына гаварыла доўга. Калі яна села на месца і старшыня спытаў, ці жадае хто выступіць, нехта са студэнтаў прапанаваў:

— Няхай С. сам раскажа пра ўсё.

Віталі сядзеў нерухома, утаропіўшыся ў адну кропку. Потым устаў, зірнуў на прэзідыум. Раптам яму пачало здавацца, што падлога некуды паплыла, і ён пахіснуўся. Сусед падтрымаў яго.

— Марына ўсё правільна сказала, — ціхім, ледзь чутным голасам прамовіў Віталі. — Я прашу, таварышы... Інакш як-жа мне без вас... Каб не верыў у сябе, не прасіў-бы...

Слова ўзяў Аляксей.

— З чаго пачалася гэтая ганебная гісторыя? Падумайце самі, што атрымліваецца: давучыўся чалавек да чацвёртага курса, быў заўсёды прыкладам для ўсіх, і раптам — такі ўчынак. Дзе першапрычына? Віталі страціў прынцыповасць, пачуццё адказнасці. У імя няправільна зразуметай дружбы ён ахвяраваў сумленнем, гонарам. І як вынік усяго гэтага — недаравальныя памылкі.

Ёсць адна рэч, якая часта даводзіць добрых людзей, як кажуць, да ручкі. Гэта — гарэлка. Ад яе дабра не чакай! Яскравае сведчанне гэтага — гісторыя з таварышам С.

Учынак Віталія глыбока ўсхваляваў усіх комсамольцаў. Не было амаль нікога, хто-б не прыняў удзел у абмеркаванні справы.

Сход абвясціў Віталію С. суровую вымову.

У акне квадрат чароўнага блакіту. У пакой зазірнулі промні ўзыходзячага сонца. Віталі прачнуўся раней за ўсіх. Памыўшыся халоднай вадой, ён апрануў святочны касцюм і, падскочыўшы да Аляксея, сцягнуў з яго коўдру.

— Уставайце, хлопцы! Глядзіце — раніца якая!

Сёння студэнты ад'язджалі з горада. Надышоў час збіраць матэрыялы для дыпломных прац. Віталі адпраўляўся ў дарогу першы. Шлях яго ляжаў на Палессе.

На сэрцы было радасна і разам з тым трошкі сумна. Радасна таму, што наперадзе чакала цікавая, захапляючая работа. Сумна таму, што прыходзілася разлучацца з сябрамі, — з Аляксеем, Пятром, Марынай і шмат яшчэ з кім. Думкі міжвольна гарнуліся да іх, гэтых простых, звычайных, але такіх дарагіх і блізкіх людзей. Гэта яны — моцны, спаяны калектыў — дапамаглі яму зноў стаць на правільны шлях. Гэта з іх дапамогай Віталі дамогся дазволу на пераэкзаменоўку, і прадметы, па якіх меў тройкі, здаў на пяцёркі. Пад іх уплывам ён аднавіў выпуск рукапіснага літаратурна-мастацкага часопіса. Непрыкметна для яго самога ён зноў стаў у цэнтры бурлівага студэнцкага жыцця — выступаў у гуртку мастацкай самадзейнасці, прымаў удзел у рабоце студэнцкага навуковага таварыства.

Ніколі не забыць вас, сябры!

... Сабраць рэчы ў чамадан было справай некалькіх хвілін. І вось яны рушылі на вакзал. Смех, жарты, незласлівыя кпіны, развітальныя абдымкі...

Марына доўга, мо' даўжэй за ўсіх, махала рукой услед поезду. І адтуль таксама махалі ёй, пакуль поезд не знік у блакітнай далечыні.

Марына з нецярплівасцю чакала пісем ад Віталія, але іх чамусьці доўга не было. Тады яна пайшла да навуковага кіраўніка Віталія.

— Скажыце, калі ласка, ці піша вам што-небудзь С.? Як у яго справы?

Прафесар усміхнуўся.

— Піша, а як-жа. Вось, напрыклад... — Ён узяў лісток паперы і пачаў чытаць: — «Паведамляю, што работа ідзе паспяхова. Здаецца, я знайшоў тое, на што мы спадзяваліся...» — Чуеце? Знайшоў!

... Віталі паспяхова абараніў дыпломную працу. У рэцэнзіі на яе гаварылася: «Даследаванне студэнта С., побач з іншымі працамі ў гэтай галіне, мае важнае значэнне ў справе геалагічнага асваення Палесся». На выдатна здаў ён і ўсе дзяржаўныя экзамены.

У той дзень, калі ён атрымоўваў дыплом, Марына радасна сказала яму:

— Заўтра камітэт комсамола будзе разглядаць тваю заяву аб зняцці спагнання.

П. МАКАЛЬ

## Сярод Каўказскіх гор

Спавіты горы сіняй павалокай.
Снег на вяршынях. І на нейкі міг
Здалося мне — я ў Індыі далёкай,
А не сярод Каўказскіх гор сівых.

Ды раптам скалыхнулася узлессе:
Прарэзваючы ранішні туман,
Данеслася ка мне з даліны песня
Знаёмая.
Пра нашых партызан.

Я ўбачыў праз радзеючую дымку
Той край, дзе па-над Нёманам-ракой
Ідуць бярозы з соснамі ў абдымку
Зялёнаю шумлівай талакой.

Той край, дзе калыханку мне спявалі
Галінамі дрымотныя бары,
Край, дзе маё дзяцінства сагравалі
Начныя партызанскія кастры.

Дзе быў лясны гушчар маёй калыскай...
З вяршынь Каўказа, як ніколі, я
Такою роднай і такою блізкай
Цябе ўбачыў, Беларусь мая!

## Мора

Яно мне нават не магло прысніцца:
Яго ў маёй не ўбачыш старане.
І толькі гоні жыта і пшаніцы
Нагадвалі часамі мора мне.

І вось не ў казцы і не на карціне —
Перада мной,
Ля самых ног маіх,
Разлеглася яно абшарам сінім.
Шуміць і не сціхае ні на міг.

Ці ясны дзень, ці неба ў хмарах шэрых,
Яно і знаць не хоча пра спакой —
То пенаю срабрыстай ліжа бераг,
То камні крышыць хваляю цяжкой.

Электраход ад берага адчаліў, —
Услед істужкай водных грэбняў бель...
А недзе удалі калыша хвалі
У гэты час варожы карабель...

Перад блакітным велічным прасторам
Я, задуменны, на скале стаю.
У ціхім шэпаце і ў грозным гуле мора
Свой гнеў і боль і радасць пазнаю.

**Г. ЦЫГАНКОЎ,**
**лектар Мінскага гаркома КПБ**

# ЧАЛАВЕК—УЛАДАР СВАЙГО ЛЁСУ

Іншы раз можна пачуць, як малады хлопец або дзяўчына, напаткаўшы якую-небудзь няўдачу, гавораць: «эх, не суджана», «чаму быць, таго не прамінуць», «ад лёсу не ўцячэш». Такія выказванні ідуць ад нявер'я, няўпэўненасці ў свае сілы. Людзі, якія так гавораць, імкнуцца перакласці адказнасць за свае няўдачы на нейкія, ад іх не залежачыя, сілы.

А. П. Чэхаў у апавяданні «Не суджана» высмеяў аднаго такога героя, які верыў у лёс і прыкметы. Вось як разважае герой гэтага апавядання памешчык Шылахвостаў: «Калі поп на дарозе сустрэнецца, значыць, быць няшчасцю... Не веру я ў забабоны, але ў мяне прыкмета: як толькі пачну што-небудзь трынаццатага числа, альбо сустрэнуся з гэтай фігурай, то заўсёды канчаю дрэнна».

Накіроўваючыся на выбары, Шылахвостаў шчасліва пазбегнуў сустрэчы з папом і ўжо быў гатовы святкаваць перамогу, як раптам дарогу перабег заяц. Шылахвостаў збялеў, закрычаў, пачаў лаяцца, але было позна. Ехаць на выбары, па яго ўяўленню, не было сэнсу. «Вяртай назад, Міцька! Не суджана!» — прашаптаў памешчык.

Што-ж такое лёс і ці ёсць ён у чалавека?

Людзі, якія вераць у забабоны, лічаць лёс нечым таямнічым, цалкам залежачым ад бога.

Матэрыялістычная навука абвяргае казкі аб існаванні нейкага неадольнага лёсу. Як і рэлігія, вера ў лёс з'яўляецца перажыткам вераванняў старажытных людзей. Яна ўзнікла ў пэўных канкрэтна-гістарычных умовах жыцця першабытнага грамадства і была абумоўлена нізкім узроўнем развіцця прадукцыйных сіл, бяссіллем людзей супраць стыхійных з'яў прыроды.

З узнікненнем класавага грамадства, дзе пануе прыватная ўласнасць, над людзьмі, апрача сіл прыроды, сталі панаваць непазнаныя і яшчэ больш страшныя грамадскія сілы, якія выклікалі крызісы, беспрацоўе, якія пагражалі людзям голадам, галечай, хваробамі. Панаванне стыхійных грамадскіх сіл, эксплуататацыя нараджалі і замацоўвалі ў свядомасці людзей рэлігійныя ўяўленні аб умяшанні звышнатуральных сіл у зямныя справы людзей.

Вера ў лёс атрымала сваё найбольш шырокае распаўсюджанне ва ўмовах капіталізма. Яна была, як указваў Энгельс, «рэлігійным выражэннем таго факта, што ў свеце гандлю і канкурэнцыі ўдача або банкроцтва залежаць не ад дзейнасці або майстэрства пэўных асоб, а ад абставін, якія ад іх не залежаць».

Вера ў лёс выхоўвае ў людзях пасіўнасць, нявер'е ў свае сілы, бездапаможнасць. Эксплуататарам выгадна трымаць працоўных у цемры і невуцтве. Выхоўваючы ў працоўных веру ў лёс, эксплуататары гэтым самым імкнуцца адцягнуць іх увагу ад класавай барацьбы, пасяліць у іх свядомасці ідэю аб «вечнасці» капіталістычных парадкаў.

Савецкія людзі даўно адкінулі веру ў лёс, яны сталі свядомымі будаўнікамі новага камуністычнага грамадства, свайго ўласнага жыцця. Вялікі Ленін пісаў аб тым, што вопыт барацьбы навучыў масы змагацца за вызначэнне свайго лёсу.

Слова «лёс» засталося ў нашай мове, але яно карэнным чынам змяніла сваё значэнне.

Шырокае развіццё навукі, поспехі культурнага будаўніцтва ў нашай краіне даўно выбілі глебу з-пад ног у розных «правідцаў», хірамантаў, гадалак, якія адурманьвалі працоўных. Але такія перажыткі капіталізма, як вера ў забабоны, у цуды, у «лёс», нажаль, можна сустрэць і ў нашым сённяшнім жыцці. Яны асабліва жывучыя там, дзе з імі не вядзецца барацьба, дзе запушчана культурна-асветная работа.

З праявамі веры ў лёс, а адсюль карыстаннем паслугамі гадалак, можна іншы раз сустрэцца і ў жыцці нашай моладзі. Студэнтка 3 курса аднаго з інстытутаў Эмілія З. звярнулася да варажбітак, каб яны дапамаглі ёй «прываражыць» каханага чалавека. Варажбіткі, дарэчы, непісьменныя жанчыны, выкарыстаўшы веру студэнткі ў лёс і забабоны, за кароткі час атрымалі ад яе, нібыта для «варажбы», шмат розных каштоўнасцей, а пасля зніклі. Дзякуючы ўмяшанню міліцыі, яны былі злоўлены.

Пра шкоднасць веры ў лёс і ў іншыя «цуды» гаворыць і такі выпадак з работніцай Мінскай фабрыкі імя Крупскай Лідай К. Карыстаючыся невуцтвам Ліды, варажбітка Галушкіна ўпэўніла яе, што дзяўчына адзначана «пячацццю д'ябла», і ўзялася вызваліць Ліду К. ад яе. Гэтае «вызваленне закончылася тым, што вопытная махлярка абрабавала дзяўчыну. Вярнуць нарабаванае дапамагла дзяўчыне зноў-жа міліцыя.

Вера ў звышнатуральныя сілы, якая з'яўляецца асновай усіх забабонаў, і ў тым ліку вера ў лёс, прыносіць немалую шкоду нашым людзям. Людзі, што вераць у забабоны, захварэўшы, звяртаюцца да розных знахараў, «збавіцеляў» і лекараў, а не да ўрачоў.

У адной з вёсак Валагодскай вобласці хворы калгаснік, які звярнуўся да знахара, ледзь не аслеп, бо знахар ставіў яму прымочкі ў дозе, прапісанай ветэрынарным урачом для коней.

У Локцеўскім раёне Алтайскага края ў калгасніка, хворага ліхаманкай, знахарка выявіла «улезшага ў душу нячысціка». Атрымаўшы грошы за «выгнанне нячысціка», знахарка загадала хвораму распрануцца, перажагнацца і сесці ў балею з гаручай вадкасцю, якую яна паставіла ў печы. Пасля такога «лячэння» хворы з сур'ёзнымі апёкамі быў дастаўлены ў бальніцу.

У сяле Пясчанскім Растоўскай вобласці славутай знахаркай лічылася бабка Селіваніха. Лякарствам ад усіх хвароб у яе была настойка сулемы на гарэлцы. Каб прайсці курс лячэння ў бабкі Селіваніхі, трэба было выпіць 9 літраў яе «лекаў». Да крымінальнай адказнасці была прыцягнута і знахарка Марыя Ерцава, якая ад усіх хвароб лячыла «святой вадой», «сонная травой» і машынным маслам. Гэтымі сродкамі яна «выганяла нячысцікаў», «прысушвала каханне» і г. д.

Вера ў лёс, у забабоны, накшталт такіх, што пасля разбітага люстэрка нехта павінен памерці, што трэба чакаць няшчасця, калі перабяжыць дарогу чорная кошка або хто-небудзь пяройдзе яе з пустымі вёдрамі, з'яўляецца шкодным перажыткам мінулага, «радзімымі плямамі» адышоўшага ў нябыт капіталістычнага грамадства. Такая вера мела пад сабой сацыяльную глебу ў час панавання памешчыкаў і капіталістаў. Некалі працоўны чалавек быў няўпэўнены ў сваім заўтрашнім дні. Ён мог застацца без работы, без кавалка хлеба, яго, калі ён не меў сродкаў, падпільноўвала хвароба і смерць.

Насаджэнне веры ў лёс, у розныя забабоны выгадна толькі ворагам працоўных. Культывіруючы містыку, пашыраючы рэлігійныя забабоны, буржуазія імкнецца паслабіць сілы працоўных у іх барацьбе за сваё сацыяльнае вызваленне.

У Злучаных Штатах Амерыкі, напрыклад, налічваецца каля ста тысяч хірамантаў, прадказальнікаў лёсу, у Францыі арудуюць каля 20 тысяч падобных шарлатанаў. У ЗША варажба нават механізавана. Механічныя варажбіткі за 5 цэнтаў могуць «прадказаць» чалавеку яго далейшы лёс. Прадказальнікі як у ЗША, так і ў іншых капіталістычных краінах выдаюць свае ўласныя «навуковыя» часопісы і газеты, збіраюцца на з'езды і канферэнцыі. Нядаўна, напрыклад, у Парыжы адбыўся кангрэс радыстэзістаў — новага атрада шарлатанаў. Дзейнасць розных варажбітак, прадказальнікаў, знахараў толькі ў ЗША абыходзіцца 125 мільёнаў долараў.

У нашым грамадстве, у нашай краіне, дзе савецкія людзі ўзялі свой лёс у свае ўласныя рукі, дзе ажыццяўляюцца іх самыя лепшыя планы, надзеі і мары, вера ў «лёс» не мае пад сабой ніякай глебы. Яна з'яўляецца шкодным перажыткам капіталізма. У нашай краіне даўно ліквідавана беспрацоўе. Кожны грамадзянін мае права выбіраць сабе прафесію па густу, перад кожным савецкім чалавекам шырока адчынены дзверы ў жыццё. У нас кожны савецкі грамадзянін, юнак ці дзяўчына, можа будаваць свой лёс, як захоча. Для гэтага патрэбна толькі настойлівa працаваць, вучыцца, прыносіць карысць грамадству. З літаратуры мы ведаем тысячы прыкладаў, калі ў рады актыўных будаўнікоў новага жыцця станавіліся нават былыя крымінальнікі, людзі «дна». Дзякуючы клопатам сацыялістычнага грамадства, яны бралі лёс ў свае рукі, знаходзілі для сябе сапраўды жыццёвы шлях.

Дзякуючы клопатам Камуністычнай партыі і савецкага ўрада, наш народ з кожным годам дабіваецца ўсё большых поспехаў у гаспадарчым і культурным будаўніцтве. Будуюцца новыя фабрыкі, заводы, чыгункі, асвойваюцца новыя землі. Савецкі чалавек з кожным годам атрымлівае ўсё большую ўладу над прыродай, пераўтварае яе.

Няўхільна паляпшаецца матэрыяльны дабрабыт працоўных. Савецкая медыцына ўзбройваецца новымі магутнымі сродкамі супраць самых сур'ёзных захворванняў.

Савецкія людзі не маюць патрэбы ў містыцы, у рэлігійных забабонах, адмятаюць іх, як шкодныя перажыткі праклятай мінуўшчыны. Свой лёс, сваю цудоўную камуністычную будучыню яны будуюць, пазнаўшы аб'ектыўныя законы развіцця прыроды і грамадства, на аснове сапраўды навуковага прадбачання.

Сёння братніх рэспублік

В. ПІГУЛЕЎСКІ

# НА ЎЗБЯРЭЖЖЫ БАЛТЫКІ

**Пісьмо з Латвіі**

Калышуцца сцягі над Латвіяй. Побач з чырвонымі сцягамі — дзяржаўныя рэспубліканскія сцягі, на якіх сінеюць пеністыя хвалі мора. Вольны латышскі народ адзначыў 14-ю гадавіну Савецкай Латвіі. У ліпеньскія дні 1940 года ён з дапамогаю свайго вернага друга вялікага рускага народа пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі скінуў ярмо капіталістычнай няволі і ўвайшоў у многанацыянальную сям'ю брацкіх савецкіх народаў.

Шчасце і радасць жывуць цяпер у сэрцы латышскага народа, бо ён бачыць, як расце і мацнее яго краіна, як штодня ўсё больш і больш поўным, творчым, шчаслівым робіцца яго жыццё. Народ адчувае, што цяпер ён не адзін і ніколі адным не застанецца. Стаяць побач з ім рускія, украінцы, беларусы, усе народы нашай неабсяжнай Радзімы. Гэтае адчуванне «пляча суседа» падзесяцярае яго творчыя сілы, умацоўвае ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

Зззяючыя сталёвыя рэйкі, шасейныя дарогі, марскія і паветраныя шляхі звязваюць Савецкую Латвію з усімі рэспублікамі і гарадамі СССР. Цяжкавагавыя цягнікі, марскія і рачныя судны прывозяць аўтамашыны з Масквы і Горкага, трактары з Харкава і Сталінграда, сталь з Днепрапятроўска і Свердлоўска, з поўдня — віно, арбузы, вінаград. Не пералічыць усяго, што атрымлівае Латвія ад сваіх рэспублік-сясцёр.

Але Савецкая Латвія — не толькі спажывец. Яе ўласная прамысловасць у параўнанні з 1940 годам вырасла ў 4,8 раза. Замест былых прыватнаўласніцкіх карлікавых прадпрыемстваў, пераважна лёгкай і харчовай прамысловасці, у рэспубліцы выраслі буйныя фабрыкі і заводы. Разгорнуты зусім новыя галіны прамысловасці, вырабы якіх раней нават не ўвозіліся ў Латвію: вытворчасць вагонаў для электрычных чыгунак, плывучых грэйферных кранаў, металічных барж, урубавых машын, тэлефонаў для шахт, камплектаў стандартных дамоў і інш.

Значную колькасць сваёй прадукцыі латвійскія фабрыкі і заводы пасылаюць у іншыя рэспублікі. Па вуліцах Кіева ходзяць трамваі Рыжскага вагонабудаўнічага завода, ва ўсіх канцах Савецкага Саюза гучаць рыжскія радыёпрыёмнікі, латвійскія бораны барануюць цалінныя землі ў Казахстане, а тысячы камсамольцаў, што працуюць на асваенні гэтых зямель, спяць на латвійскіх ложках і накрываюцца латвійскімі коўдрамі. Мэбля і ўнутраная аздоба сцен маскоўскага Універсітэта і некаторых санаторыяў Каўказа і Крыма — праца чырвонадрэўшчыкаў Рыжскай мэблевай фабрыкі. Вітражы Рыжскага камбіната «Максла» («Мастацтва») красуюцца на станцыях Маскоўскага метро і ў павільёнах Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Добраю славаю карыстаюцца латвійскія баваўняныя і шаўковыя тканіны, бялізна, абутак, вырабы з капрону і шкла.

Расце, развіваецца прамысловасць Савецкай Латвіі. Растуць, прыгажэюць гарады. Хутка адбудоўваецца амаль дашчэнту знішчаная ў часе вайны Елгава (б. Мітава). Рызе становіцца ўсё цясней і цясней у старых межах, і яна выходзіць за іх цэлымі кварталамі новых шматкватэрных дамоў для рабочых бліжэйшых заводаў і фабрык. Пашыраюцца самі заводы і фабрыкі: пабудаваны і будуюцца новыя цэхі і майстэрні. У розных месцах горада выраслі і растуць новыя вялікія школы, дзіцячыя сады, яслі, дамы культуры.

Прыгожы гранітны помнік вялікаму Леніну — заснавальніку савецкай дзяржавы — узвышаецца побач з Домам урада. Ніколі не знікаюць з яго падножжа свежыя кветкі — знак любві і пашаны латышскіх працоўных. Мемарыяльныя дошкі на некаторых будынках Рыгі расказваюць, што там Ленін жыў ці сустракаўся з латышскімі сацыял-дэмакратамі поўстагоддзя таму назад. Музей рэвалюцыі захоўвае дакументы, фотаздымкі, малюнкі, якія адлюстроўваюць слаўны рэвалюцыйны шлях латышскіх працоўных.



**На будаўніцтве ТЭЦ працуе знатная брыгада бетоншчыкаў, якую ўзначальвае брыгадзір Анна Давыдава. Прымяняючы перадавыя метады працы і новую тэхніку, бетоншчыкі значна перавыконваюць зменнае заданне. На здымку: брыгадзір Анна Давыдава ля электравібратара, які ўшчыльняе бетон.**



**Сцэна з 1-га акта латвійскага балета «Лайма». Танец Лаймы ў выкананні салісткі балета Я. Панкрат.**

Фото Г. Акмалінскага.

Шырокая, зялёная, мастацкі аформленая Комсамольская набярэжная з мастамі праз Даугаву. Каго тут толькі ні сустрэнеш у прыгожы летні дзень або вечар! На лаўцы сядзіць рыжскі токар, данецкі шахцёр і мінскі аўтазаводзец, — яны адпачываюць на ўзмор'і. Праходзяць спартсмены, якія прыехалі ў Рыгу на Усесаюзную спартакіяду таварыства «Спартак». Экскурсавод нешта тлумачыць групе экскурсантаў ці турыстаў: пэўна, ён расказвае аб тым, якім шчарбатым быў гэты гранітны бераг 13 кастрычніка 1944 года — у дзень вызвалення Рыгі. Пакідаючы горад, фашысцкія акупанты не толькі знішчылі масты, але ўзарвалі і бераг праз кожныя 10—15 метраў на працягу больш двух кіламетраў. Злосна шумела тады Даугава, быццам старалася хутчэй залізаць гэтыя страшныя раны-шчарбіны, залячыць пакалечаны бераг.

Сапёры Савецкай Арміі ў кароткі тэрмін пабудавалі мост праз раку. Комсамольская набярэжная не толькі аднавілася, але стала прыгажэйшай, чым была раней.

На другім канцы Рыгі высока ўздымаецца ў неба комін і ўзвышаецца галоўны корпус адной з найвялікшых будоўляў пяцігодкі — Рыжскай электрацэнтралі (ТЭЦ). Хуткі росквіт прамысловасці і гаспадаркі Савецкай Латвіі патрабуе ўсё больш электраэнергіі. Кегумская, Рыжская, Ліепайская і іншыя электрастанцыі не ў стане задаволіць гэтых патрэб. І вось пачалося будаўніцтва ТЭЦ, электраэнергія якой будзе раўняцца энергіі ўсіх электрастанцый рэспублікі, узятых разам.

У 1951 годзе паблізу найвялікшага рыжскага возера — Кішвозера — на пясчаных дзюнах і балоце пачалі працаваць бульдозеры, землясосы, вадзяныя помпы. Трэба было выняць пад фундамент больш мільёна кубаметраў грунту. Праз год была закладзена аснова галоўнага корпуса.

Першымі на будаўніцтва ТЭЦ прышлі рыжскія комсамольцы, лепшыя цесляры, муляры. Вялікім творчым уздымам прасякнута ўся іх праца. Зладжана, старанна і хутка, выкарыстоўваючы навейшую тэхніку, працуе брыгада бетоншчыкаў, на чале якой стаіць Анна Давыдава. Дваццаць комсамолак, сярод якіх ёсць латышкі, рускія і беларускі, заклалі каля тысячы тон бетону. Няспынным патокам прыходзіць зараз з іншых гарадоў абсталяванне для ТЭЦ: бранскія рабочыя шлюць турбіны, ленінградцы — генератары, чэлябінцы — трубы, а таганрожцы нядаўна на 72 платформах прыслалі першы паравы кацёл. Па ініцыятыве комсамольцаў будаўнікі ТЭЦ звярнуліся да ўсіх будаўнікоў рэспублікі з заклікам арганізаваць соцспаборніцтва за хутчэйшае выкананне плана 1954 года.

Не толькі будаўнікі змагаюцца за перавыкананне плана. Працоўным уздымам ахоплена ўся рэспубліка, як і ўся Радзіма. Усяму Савецкаму Саюзу вядома імя токара-скорасніка «ВЭФ» Э. Дамберга. Ён скорасными метадамі апрацоўвае партыю сталёвых дыскаў за 8 гадзін замест 35 гадзін па норме. Лепшая даярка соўгаса «Лорупе» тав. Хрушчова ў мінулым годзе надаіла ў сярэднім па 4 903 кілаграмы малака ад кожнай каровы.

З усіх канцоў рэспублікі прыходзяць весткі аб перавыкананні соцабавязацельстваў, узятых на сябе працоўнымі. Рыжскі суднабудаўнічы і суднарамонтны завод на 15 дзён раней тэрміну скончыў рамонт парахода «Селенга», ткачыхі Засулаўскай мануфактуры далі звыш плана 250 000 метраў тканіны і г. д. Не пагоня за грашыма, не прага да славы кіруюць гэтымі людзьмі — савецкая ўлада запаліла ў сэрцах латышскіх працоўных творчы агонь, і яны аддаюць усе свае веды, увесь свой вопыт на карысць народу, дзяржаве.

Адданасць народу, партыі, дзяржаве кіравалі і тымі сотнямі комсамольцаў з Латвіі, якія паехалі працаваць на цаліныя землі. Мільда Тауцене — комсамолка, лепшая камбайнерка Сігулдскай МТС. Скончыўшы ў гэтым годзе сярэднюю школу, яна паехала ў Чкалаўскую вобласць. «Атэстат сталасці ў руках — шлях на цаліныя землі адкрыты», — пісала яна 21 ліпеня ў «Комсомольской правде».

Асаблівых поспехаў у выкананні плана дасягнулі латвійскія рыбакі. Колкскі рыбакансервавы завод выканаў чэрвеньскі план на 277 працэнтаў, комсамольская каманда Вентспільскага рыбалоўнага тралера «20-22» выканала гадавы план. Гадавыя планы па лоўлі рыбы выканалі многія рыбалавецкія калгасы.

У рэспубліцы штогод растуць асігнаванні на капітальнае будаўніцтва, будуюцца сотні кароўнікаў і свінарнікаў, расце электрыфікацыя і механізацыя сельскай гаспадаркі. Дзякуючы гэтым мерапрыемствам, дзякуючы прыходу на вёску новых кадраў спецыялістаў, сёння сельская гаспадарка Савецкай Латвіі, асабліва жывёлагадоўля, стаіць на значнай вышыні. У некаторых калгасах надой малака ў 1953 годзе быў у сярэднім 3 400 кілаграмаў з каровы, а ў соўгасах — 3 844 кілаграмы.

Такія высокія паказчыкі тлумачацца яшчэ і тым, што ў Латвіі значна пашырана гадоўля пародзістых кароў вядомай бурай латвійскай пароды (у соўгасах 92%). Малочна-мясныя якасці іх высока цэняцца далёка за межамі рэспублікі.

Расце і развіваецца соцыялістычная сельская гаспадарка, павялічваецца яе прадукцыя. Для перапрацоўкі малака ў Рэзекне (б. Рэжыца) будуецца камбінат, які ў 1956 годзе будзе выпускаць 10 мільёнаў банак згушчонага малака. Большасць сельскагаспадарчых прадуктаў спажываюць гарадскія рынкі, з якіх Рыжскі цэнтральны рынак з'яўляецца не толькі найвялікшым ў Прыбалтыцы, але ўзорным як па арганізацыі гандлю, так і па чысціні.

На яго тэрыторыі ўзвышаюцца 5 вялікіх пазільёнаў са шклянымі паўкруглымі дахамі (былыя элінгі для нямецкіх цэпелінаў з часоў вайны 1914 года). Побач — вялікая плошча з кіёскамі і сталамі, з горамі рознакаляровай гародніны і фруктаў, з букетамі кветак, якія так любяць рыжане. Пад рынкам раскінуўся цэлы падземны горад з калідорамі, халадзільнікамі, складамі. А паблізу ўздымаецца ў неба вежа яшчэ пакуль няскончанага высотнага «Дома калгасніка».

Шырока прадстаўлены рыбалоўства і сельская гаспадарка Савецкай Латвіі на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы ў Маскве: удзельнічаюць у ёй 5 рыбалавецкіх арцелей, 61 калгас, 19 соўгасаў і 127 жывёлагадоўчых ферм.

Прыродныя і кліматычныя ўмовы спрыяюць таму, што Латвія шырока вядома па ўсяму Савецкаму Саюзу сваімі санаторыямі і дамамі адпачынку, асабліва на Рыжскім узмор'і. Гэтая нешырокая палоска зямлі між ракою Ліелупе і марскім берагам з яго соснамі і шырокім пясчаным пляжам быццам створана для курорта. У вілах былых багацеяў зараз размешчаны 17 санаторыяў і 37 дамоў адпачынку, дзе летам лечацца і набіраюцца сіл дзесяткі тысяч працоўных з усіх канцоў нашай Радзімы. Ёсць тут санаторыі і для працоўных Савецкай Беларусі («Беларусь», «Мінскі аўтазавод» і інш.). А санаторый «Кемеры» здаўна вядомы сваімі гразевымі і сернымі ваннамі.

Але не толькі матэрыяльнымі вартасцямі, не толькі дасягненнямі ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы і рыбалоўстве можа зараз ганарыцца латышскі народ. Ён ганарыцца і сваёю культурай. Каму невядомы творы Андрэя Упіта, Віліса Лаціса, Анны Саксе, Яна Судрабкална і іншых латышскіх савецкіх пісьменнікаў і паэтаў? Хто з біёлагаў не чуў прозвішча вітамінолага прафесара Кірхехштэйна? Хто з работнікаў тэатра не ведае латышскіх рэжысёраў народных артыстаў СССР Атманінса Бранедыта і Смілгіса, акцёраў Ліліты Берзіня і Осіса? Або хто з кампазітараў, музыкантаў, дырыжораў не знаёмы з операй А. Калныня «Банюта», балетам А. Ліепіня «Лайма», з сімфанічнымі творамі Іванова, Жылінскага, Зарыня, з песнямі Яніса Озоліня, Медыня? Латышскі жывапіс можа ганарыцца карцінамі Скульмэ, Калныня, скульптурамі Залькална. Вясной гэтага года пастаўлена музыкальная камедыя «Каля блакітнага возера» Э. Залітэ і А. Жылінскага, тэмай для якой з'явілася будаўніцтва гідрастанцыі «Дружба народаў». Рыжская кіностудыя зараз здымае каляровы фільм «Да новага берага» (па раману В. Лаціса).

Грамадскасць Савецкай Латвіі шырока адзначыла ў верасні 25-годдзе з дня смерці свайго народнага паэта Яна Райніса. Латышскі народ з вялікай павагаю захоўвае памяць аб гэтым пісьменніку. Шчыры друг беларусаў, Райніс пры жыцці дапамагаў беларускай працоўнай моладзі ў буржуазнай Латвіі здабываць асвету, рашуча змагаўся з праявамі латышскага шавінізма. Шырока вядома імя Райніса і ў Савецкай Беларусі, з дасягненнямі якой ён пазнаёміўся ў 1926 годзе, наведаўшы Мінск.

Кожны год шэрагі старэйшых прадстаўнікоў мастацтва Латвіі папаўняюцца маладымі кадрамі. Толькі універсітэт у гэтым годзе скончылі 438 дыпламантаў. Сотні выпускнікоў далі педагагічныя інстытуты, сельскагаспадарчая акадэмія і іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы.

За гады савецкай улады надзвычай шырока разгарнулася мастацкая самадзейнасць. Зараз працуе каля 2 500 розных гурткоў, сярод якіх найбольш харавых, бо латышскі народ надта любіць песні.

Сярод латышскай моладзі не меншай папулярнасцю карыстаецца спорт, асабліва лёгкая атлетыка. Мае яна свае дасягненні нават у сусветным маштабе. Рэкардсменка Савецкай Латвіі ў бар'ерным бегу Іра Озол увайшла ў лік 10 лепшых еўрапейскіх бар'ерных бегуноў: на ліпеньскай Усесаюзнай спартакіядзе «Спартака» яна 80 метраў прабегла за 11,5 секунды.

Творчым кіпучым жыццём жыве сягоння вольны латышскі народ. Гэтае сонечнае жыццё адкрывае перад ім усё новыя, яшчэ больш светлыя, велічныя перспектывы, бо з кожным годам у шэрагі яго будаўнікоў уваходзіць моладзь, якая прагне мірнай, стваральнай працы.

# ПА ШЛЯХУ МІРУ І ДЭМАКРАТЫІ



Цэнтральная магістраль Берліна — Алея Сталіна.
Фота «Цэнтральбільд».



Юныя караблебудаўнікі з Варнемюндэ вывучаюць на мадэлі цяжкай шлюпбалкі рацыяналізатарскую прапанову бюро канструкцый.



Студэнты адной з тэхнічных ВНУ Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі Вернер Плоснер (справа) і Вільфрыд Рэнч за падрыхтоўкай да экзаменаў на званне інжынера.

Споўнілася пяць год з дня абвяшчэння Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі — трывалага аплоту ўсіх нямецкіх патрыётаў у барацьбе за адзінства сваёй краіны, за мір і дружбу паміж народамі.

Маладая рэспубліка дабілася вялікіх поспехаў у развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі, транспарту, у культурным будаўніцтве. Дэмакратычныя сілы нямецкага народа ўсё цясней згуртоўваюцца вакол Цэнтральнага Камітэта Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі, вакол народнага ўрада. Народ дэмакратычнай Германіі паспяхова працуе над выкананнем пяцігадовага плана, прынятага ў 1950 годзе. Прадукцыя прамысловасці, якая дасягнула ў 1950 годзе 110,7 працэнта ў параўнанні з 1936 годам, узрасла к 1953 году на 176 працэнтаў. Немалыя дасягненні ёсць і ў сельскай гаспадарцы рэспублікі. Ураджаі важнейшых культур дасягнулі даваеннага ўзроўню, а дзе-ні-дзе і перавысілі яго.

Буйныя поспехі народнай гаспадаркі стварылі ўмовы для павышэння матэрыяльнага ўзроўню жыцця. На працягу бягучага года вытворчасць тавараў шырокага спажывання будзе павялічана на 1 мільярд марак. Усё гэта дае магчымасць праводзіць сістэматычнае зніжэнне цэн. 3-га верасня гэтага года Совет Міністраў Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі прыняў рашэнне аб правядзенні новага вялікага зніжэння цэн на прадукты харчавання і прамысловыя тавары, а таксама аб зніжэнні паштова-тэлеграфных тарыфаў. У выніку гэтага мерапрыемства ўрада пакупная здольнасць насельніцтва рэспублікі павысіцца да канца года на 600 мільёнаў марак, а ў 1955 годзе народ выйграе ад гэтага зніжэння цэн каля 1,8 мільярда марак.

З году ў год паляпшаецца жыццё моладзі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Юнакам і дзяўчатам створаны ўсе ўмовы для вучобы, працы і адпачынку. У рэспубліцы ўведзена абавязковая васьмігадовая адукацыя. З кожным годам павялічваецца колькасць школ. У гэтым годзе адкрываюцца новыя спецыяльныя школы па цяжкаму машынабудаванню, электратэхніцы, будаўніцтву, папяровай і тэкстыльнай прамысловасці і г. д. Ствараецца шэсць педагагічных інстытутаў. У бягучым годзе ў 46 універсітэтах і вышэйшых навучальных установах ГДР займаецца 20 тысяч чалавек.

Амаль палова студэнтаў у вышэйшых навучальных установах — дзеці рабочых і сялян. Дзецям працоўных створаны матэрыяльныя ўмовы для паспяховай вучобы. Пераважная большасць студэнтаў атрымлівае стыпендыю.

Студэнт тэхнічнай вышэйшай школы ў Дрэздзене Манфрэд Зюс выдатна вучыцца і прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Ён сын рабочага, жыве са сваёй жонкаю ў студэнцкім інтэрнаце. За поспехі ў вучобе яму прысуджана штомесячная стыпендыя імя Карла Маркса ў размеры 450 марак.

Такіх, як Манфрэд Зюс, у рэспубліцы сотні.

У дэмакратычнай Германіі моладзь атрымала права на адпачынак. Па рашэнню ўрада адкрыты здраўніцы для дзяцей працоўных, у летні час ствараюцца лагеры адпачынку для школьнікаў і рабочай моладзі.

Пастаянную бескарыслівую дапамогу нямецкаму народу аказвалі і аказваюць народы Совецкага Саюза. З 1 студзеня 1954 года Германская Дэмакратычная Рэспубліка вызвалена ад выплаты рэпарацый, ёй перададзены ва ўласнасць совецкія прадпрыемствы, што знаходзяцца ў Германіі, і г. д. Совецкі Саюз перадаў поўны суверэнітэт ва ўсіх унутраных і знешніх справах рэспублікі ў рукі ўрада ГДР.



Другі год прадаўжаецца сяброўская перапіска паміж вучнямі 1-й школы г. Баранавічы і вучнямі г. Пеніга з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. На здымку: баранавіцкія школьніцы пішуць пісьмо сваім нямецкім сябрам.
Фота А. Перахода. (Фотахроніка БЕЛТА.)

У адказ на клопаты ўрада і Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі моладзь рэспублікі самааддана працуе на прадпрыемствах, на будоўлях, у сельскай гаспадарцы. Праца на карысць народа стала для маладых немцаў справай гонару і славы. Дзесяткі юнакоў і дзяўчат узнагароджаны за працоўныя поспехі Нацыянальнай прэміяй, многія носяць ганаровае званне Героя Працы. Тысячы юнакоў і дзяўчат працуюць дырэктарамі, майстрамі, кіраўнікамі цэхаў і інжынерамі на народных прадпрыемствах.

Святкуючы пяцігоддзе сваёй рэспублікі, народ дэмакратычнай Германіі ўпэўнена глядзіць у будучыню. Пад кіраўніцтвам Сацыялістычнай адзінай партыі ён змагаецца за адзінства Германіі, за далейшы росквіт рэспублікі, за мір ва ўсім свеце.

**М. БАРЫСАЎ.**



**Шмат працавалі калгаснікі і механізатары МТС рэспублікі, каб стварыць трывалую кармавую базу. У калгасах намнога ўзраслі пасевы кукурузы і сланечніку на сілас. Для хутчэйшай і лепшай нарыхтоўкі сіласу машынна-трактарныя станцыі атрымалі новыя сіласаўборачныя камбайны. Высокапрадукцыйны сіласны агрэгат убірае за дзень звыш 15 гектараў зялёнай масы, адначасова перапрацоўваючы яе на сілас. Нарыхтаваны корм насыпаецца ў аўтамашыны, якія ідуць побач з агрэгатам, і дастаўляецца ў сіласныя ямы. Комплексная механізацыя уборачных работ вызваліла шмат рабочай сілы.** На здымку: **сіласны камбайн «СК-2,6» Ждановіцкай МТС на ўборцы кукурузы ў калгасе імя Дзержынскага Мінскага раёна.**

Фото Р. Каралёва.



У Маскве прадаўжае працаваць Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка. Кожную раніцу ля ўваходу збіраюцца тысячы экскурсантаў, якія прыехалі з розных куткоў Савецкага Саюза. Многа гасцей прыязджае і з-за мяжы, каб пераняць вопыт савецкіх хлеbaробаў, жывёлаводаў, механізатараў.

І вось выстаўка адкрываецца. Неўзабаве вуліцы, скверы, паркі і павільёны запаўняюцца людзьмі. Спачатку экскурсанты спяшаюцца наведаць Галоўны павільён. У ім на шматлікіх стэндах расказваецца аб дасягненні сацыялістычнай сельскай гаспадаркі і прамысловасці ў Савецкім Саюзе. За гады савецкай улады народы СССР пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі дабіліся выдатных перамог. Створана магутная прамысловасць, сельская гаспадарка вядзецца на аснове перадавой аграбіялагічнай навукі. Выраслі і людзі калгаснага сяла. Гэта яны вырошчваюць на палях самую лепшую ў свеце бавоўну, высокія ўраджаі жыта і пшаніцы. Гэта яны выводзяць новыя пароды жывёлы.

Галоўны павільён — манументальны прыгожы будынак. Яго вы бачыце на здымку ўверсе.

А гэта — новыя пажарныя машыны. Цяпер барацьба з пажарам — не вельмі складаная справа, бо на дапамогу людзям прыйшлі машыны, сучасная хімія.

Непадалёку ад парка, дзе любяць адпачываць экскурсанты, узвышаецца фантан «Колас». Падоўгу спыняюцца тут наведвальнікі выстаўкі, захапляючыся прыгожай панарамай, якая адкрываецца перад вачыма.

Фото А. Дзітлава.






Янка МАЎР

Навукова-фантастычная аповесць *

Мал. В. Ціхановіча.

## 3. У АМЕРЫЦЫ

### Радыёстанцыя на галаве

Праз некаторы час дзед паклікаў Светазара і Святлану і сказаў:

— Вось вам, мае дарагія светлячкі, шапкі для размовы з людзьмі на якой хочаце мове.

І ён паказаў на дзве іспанскія шапкі-пілоткі з двума рагамі — спераду і ззаду. На канцах гэтых рагоў блішчэлі металічныя кружочкі, злучаныя двума тонкімі дротамі, як антэнай, а ў сярэдзіне шапак было прымацавана некалькі спіралей.

— Для размовы?!. Шапкі?!. — здзівілася Святлана.

— Называюцца яны шапкамі, а фактычна гэта ёсць злучэнне прыёмніка і перадатчыка. Сядайце і слухайце ўважліва, што я вам скажу.

Унукі селі супраць дзеда і ён пачаў:

— Як мы размаўляем адзін з другім? Я вось вам гавару словы, яны ідуць у вашы вушы, вушы перадаюць гэтыя словы галаве і там мозг успрыймае іх... Што ўспрыймае мозг? — раптам спытаў дзед.

— Словы, — дружна адказалі дзеці.

— А вось і не! — адказаў дзед. — Не словы, а сэнс іх, разуменне, уяўленне таго, аб чым гаворыцца. Вуха толькі перадатчык сэнсу слоў. Глухі слоў не чуе, а калі мы нейкім чынам, мімікай, жэстам, перадамо сэнс, уяўленне, то глухі зразумее і без слоў. А калі ён не нямы, то зараз-жа можа «перакласці» гэтае разуменне на словы. Напрыклад, вы паказваеце яму, каб ён зачыніў дзверы, і ён вам можа сказаць: «Зачыніць дзверы? Зараз». Калі гэта будзе іншаземец, то ён скажа гэтыя словы на сваёй мове. Значыцца, калі-б мець такі перадатчык, які мог-бы непасрэдна перадаваць у галаву другога сэнс вашых слоў, то вы маглі-б такім чынам размаўляць з усімі народамі зямлі. Вы будзеце гаварыць на вашай мове, а сэнс вашых слоў будзе перадавацца непасрэдна другому; той успрыйме не словы вашы, а сэнс іх і будзе адказваць ужо на сваёй мове. І вы таксама непасрэдна ўспрымеце сэнс яго слоў. Будзе прыблізна такі працэс, які адбываецца пры тэлевізійных перадачах: на экран без правадоў і без слоў (гукі і музыка перадаюцца асобна) перадаецца карціна, якую разумее кожны глядач, якой-бы нацыі ён ні быў, і сэнс гэтай карціны кожны будзе перадаваць на сваёй мове. Я знайшоў спосаб падобным чынам перадаваць другому непасрэдна і ўяўленне таго, што чалавек думае. Такім перадатчыкам і будуць вось гэтыя шапкі.

Дзед надзеў ім на галовы шапкі і пачаў размову.

Унукі прыслухаліся:

— Вы сказалі, што ўсё сваё вы носіце з сабой. Праўда?

— Правільна, мае мілыя светлячкі! — з вялікім задавальненнем адказаў дзед. — Я сказаў па-лацінску: «Усё маё нашу з сабой». Незразумелыя для вас словы да вашай свядомасці не дайшлі, а сэнс іх, які быў у маёй галаве, праз вашы шапкі дайшоў да вашай свядомасці. Значыцца, усё ў парадку. А калі вы захочаце такім самым чынам перадаць сэнс вашых слоў другому, то не забудзьцеся націснуць вось гэтую кнопку, каля левага вуха. Адыйдзі, Святлана, далей, да той сцяны, націсні кнопку і скажы мне штонебудзь ціха, каб я не чуў.

Святлана адыйшла, націснула кнопку і нешта прашаптала. І дзед ёй адказаў:

— Ты сказала, што хочаш хутчэй ехаць. Так?

— Так, так! — закрычала Святлана і нават запляскала ў далоні.

— Ну і добра, — сказаў дзед. — А цяпер папрактыкуйцеся вы самі. — Ён утульна ўсеўся ў крэсла і задрамаў. А брат з сястрой пачалі практыкавацца.

Калі дзед прачнуўся, унукі падышлі да яго і сказалі, што яны хочуць ляцець у Амерыку.

— У Амерыку? — здзівіўся дзед. — У якую Амерыку?

Цяпер ужо ўнукі здзівіліся: хіба дзед не ведае Амерыкі!?

Дзед, усміхнуўшыся, зноў спытаў:

— У якую-ж Амерыку?

— Ну, у гэтую самую, дзе жывуць амерыканцы... — збянтэжана адказала Святлана.

— У Амерыцы каля дваццаці дзяржаў, — адказаў дзед, — і ўсюды жывуць амерыканцы. Да якіх-жа амерыканцаў вы хочаце?

— У Злучаныя Штаты, — адказаў Светазар.

— Так і кажыце, — павучальна сказаў дзед. — А то выходзіць, што амерыканцы-янкі засланілі сабой усіх іншых амерыканцаў. Дык чаму-ж вы захацелі іменна ў Злучаныя Штаты? Я не думаю, каб гэта было самае лепшае месца ў Амерыцы.

Дзеці пачалі тлумачыць:

— Пра Злучаныя Штаты мы вельмі многа чулі. І пішуць пра іх больш. Там многа цікавага... Яны ўсюды свой нос соваюць...

— Ну, добра, паспрабуйце, — згадзіўся дзед. — Толькі падрыхтуйцеся лепш.

— Хацелася-б паглядзець Н'ю-Йорк, — сказаў Светазар. — Але як да яго даступіцца? Ён на востраве, а востраў увесь забудаваны небаскробамі. Куды спусціцца, — проста на вуліцу, дзе шмат людзей і машын, ці на дах небаскроба.

— Гэта ты правільна гаворыш, — пахваліў дзед. — Хоць я і не быў у Н'ю-Йорку, але магу параіць вам добрую мясціну для спуску. Славутую статую Свабоды ведаеце?

— Ведаем! — дружна адказалі «светлячкі».

— Дык вось, месца каля яе запушчанае, бруднае, і нікога там няма. Вы там і спусціцеся. А далей можаце ехаць па вуліцах разам з усімі машынамі. Я думаю, ніхто вас чапаць не будзе: ці мала якія машыны там могуць быць? Памятайце толькі адно: не вылазьце са свайго фантамабіля, калі вакол вас неспакойна. І яшчэ вось што: хоць вы там і нядоўга будзеце, але, напэўна, прыдзецца дзенебудзь плаціць грошы, дык я пастараюся дастаць для вас долараў пяцьдзесят.

---
* Пачатак гл. у № 9 часопіса.

### Ля статуі Свабоды

...Праз некалькі мінут яны апусціліся ля статуі Свабоды ў Н'ю-Йорку. Сапраўды, тут не было людзей. Трохі далей стаялі пакгаузы, пачыналіся закапцелыя дамы. Статуя зрабіла на дзяцей надзвычайнае ўражанне: высокая, магутная, яна здавалася нейкай страшнай, а паднятая з факелам рука нібы пагражала кожнаму, хто пад'язджаў да Н'ю-Йорка. Ля падножжа статуі валяліся нейкія скрынкі, бочкі, сярод якіх і апынуліся Светазар і Святлана.

Яны агледзеліся, ці не бачыў хто, як яны апусціліся. За бочкамі гулялі некалькі хлопчыкаў, ля пакгаузаў працавалі рабочыя. Ніхто з іх пакуль што не звяртаў ўвагі на нашых падарожнікаў, а гэта было самым галоўным.

Але калі фантамабіль пасунуўся ад берага і выехаў на вуліцу, на яго глядзелі ўжо сотні людзей, а ззаду беглі дзеці.

— Непрыемная справа, — бурчэў Светазар. — Калі гэтак усе будуць дзівіцца на нас, то нам прыдзецца ўцякаць.

— А ты паязджай следам вунь за той машынай, — параіла Святлана. — Яна едзе хутка, і нас ніхто не дагоніць.

Светазар так і зрабіў. Машына паехала ў цэнтр Н'ю-Йорка. Па баках пачалі ўздымацца славутыя небаскробы. Зрабілася цемнавата, як гэта бывае ў калідоры ці вузкай цясніне сярод гор. Народу на вуліцы станавілася ўсё больш і больш, але — дзіўная рэч: тут мала хто звяртаў увагу на незвычайную чырвоную машыну. Кожны чалавек кудысьці спяшаўся, быў заклапочаны сваімі справамі, кожны думаў толькі аб тым, як пражыць у гэтым чалавечым катле, што называецца Н'ю-Йоркам. А машын на вуліцы было столькі, што фантамабіль губляўся сярод іх. Машыны ішлі па баках вуліцы суцэльнай масай. На скрыжаваннях яны спыняліся, каб прапусціць бакавыя машыны і пешаходаў, і стаялі досыць доўга. Тады па іх можна было-б ісці, як па мосце. І ўся гэтая цясніна грымела, гула, шумела так, што ў нашых падарожнікаў галовы закружыліся. І што цікавага яны маглі бачыць? Машыны, мітуслівых людзей, вітрыны раскошных магазінаў — і ўсё. Але ў адным месцы Святлана штурханула брата ў бок і сказала:

— Глядзі, глядзі!

Светазар убачыў у вітрыне спальню: ложак, крэсла, люстра і іншае адпаведнае абсталяванне. На ложку пад шаўковай коўдрай спала дзяўчынка. Раптам яна павярнулася і закінула руку за галаву.






— Жывая?! — ускрыкнуў Светазар.

Так, дзяўчынка была жывая. Голад прымусіў яе «спаць» такім чынам цэлыя дні, каб звярнуць увагу публікі на спальныя рэчы фірмы Дудль і К°.

Праз поўгадзіны ўсё гэта перамяшалася ў галаве і так абрыдла нашым падарожнікам, што яны з нецярпеннем чакалі, калі скончыцца гэтая «экскурсія па Н'ю-Йорку».

— Якая пакута тут жыць! — уздыхнула Святлана, спачуваючы ўсім гэтым людзям. — Паедзем дахаты.

— Пачакай трохі, паспееш, — адказаў Светазар. — Мы-ж яшчэ Амерыкі не бачылі.

Затое іх нехта ўжо заўважыў. У часе аднаго з прыпынкаў яны ўбачылі на тратуары маладога чалавека з вялікімі чорнымі акулярамі, які старанна фатаграфаваў іхнюю машыну. Ніякай прыемнасці ад гэтага нашы падарожнікі не адчулі, але і не спалохаліся. Калі-ж пасля таго, праехаўшы некалькі вуліц, яны зноў убачылі гэтага самага чалавека, то здагадаліся, што ён спецыяльна сочыць за імі. Так яно і было. Чалавек у акулярах нарэшце падышоў да іх і з самым ветлівым, прыяцельскім выглядам пачаў нешта гаварыць. Светазар надзеў сваю шапку-перадатчык і зразумеў гаворку.

— Выбачайце, маладыя людзі, — пачаў амерыканец, — ці не згодзіцеся адказаць мне на некаторыя пытанні. Я — карэспандэнт «Н'ю-Йорк геральд трыбюн». Я думаю, для вас было-б цікава, каб у нашай газеце з'явіўся ваш здымак з машынай і з апісаннем: хто вы і адкуль, якой фірмы ваша машына, якія мае яна якасці, асаблівасці і гэтак далей.

Светазар глянуў на сваю сястру, на якой таксама была надзета ўжо шапка, і спытаў:

— Што ты скажаш на гэта?

Карэспандэнт убачыў, што яны не збіраюцца адразу згаджацца, і дадаў больш важкія довады:

— Усе фірмы і ўладальнікі новых машын плацяць нам за тое, што мы рэкламуем іх, а вы чамусьці задумваецеся. Тады я вам заплачу дваццаць пяць долараў за вашы адказы.

Светазар засмяяўся і зноў павярнуўся да сястры.

— Цікава выходзіць, — сказаў ён. — Нават зарабіць можна. Баюся толькі, што за мае адказы ён нічога не дасць. Але паспрабуем.

Светазар павярнуўся да карэспандэнта і сказаў:

— Прашу!

Карэспандэнт выняў з кішэні свой блакнот і задаў пытанне: — Адкуль вы прыехалі? — затым, паказаўшы на прапелеры, дадаў: — Ці прыляцелі...

Тым часам вакол іх паступова спыняліся цікаўныя. Яны аглядалі машыну з усіх бакоў, кратали яе, зазіралі ў сярэдзіну, прыглядаліся да пасажыраў у дзіўных шапках. Народу збіралася ўсё больш і больш, натоўп пачаў перашкаджаць руху, з'явіўся палісмэн...

Карэспандэнт спалохаўся, што не паспее зрабіць сваю справу, і зноў спытаў:

— Адкуль вы?

— З Марса, — быў адказ.

Карэспандэнт збянтэжыўся, а людзі вакол яго засмяяліся. Карэспандэнт нахіліўся да акенца машыны і ціха сказаў:

— Даю пяцьсот долараў, скажыце праўду.

Да кабіны падышоў палісмэн.

— Я і кажу праўду. Вось глядзіце, як мы паляцім дадому.

Светазар і Святлана знялі свае шапкі і надзелі шлемы. Цяпер яны ўжо не разумелі, што казаў карэспандэнт, а за ім і палісмэн. Хлопчык пусціў у ход машыну і да канца націснуў тормаз. Фантамабіль ціха, плаўна пачаў уздымацца ўверх...

Публіка аслупянела. Карэспандэнт з блакнотам у адной руцэ і аўтаручкай у другой, разявіўшы рот, глядзеў угару. Палісмэн замёр, падняўшы ўгару сваю гумавую дубінку. Гэты знак, які палісмэн зрабіў мімаволі, спыніў на вуліцы ўвесь рух. Усё жывое ў гэтым раёне стаяла, задраўшы галовы ўверх. А там, паблісквaючы на сонцы, ціхенька падымалася маленькая чырвоная машына... Раптам палісмэн замахаў дубінкай і крыкнуў:

— Хутчэй рассуньцеся ў бакі: зараз сюды скінецца чалавек! Адыйдзіце хутчэй!..

На процілеглым баку вуліцы, на семдзесят восьмым паверсе небаскроба ледзь вызначалася расчыненае акно, у якім стаяла постаць чалавека. Мала хто мог-бы заўважыць на такой вышыні і акно і чалавека, ды яшчэ меркаваць, што той зараз скінецца. Але спрактыкаваны палісмэн ведаў, што казаў, ён не раз бачыў такія «нумары». Праз момант уверсе пачуўся далёкі, але жудасны крык — і чалавек паляцеў уніз.

Карэспандэнт хуценька нацэліў на яго свой фотаапарат, зрабіў некалькі здымкаў і ўсміхнуўся ад задавальнення: яму ўсё-ж такі пашанцавала — такія цудоўныя здымкі зрабіў! За адну такую фатаграфію з подпісам—«Самагубца ў паветры» можна будзе атрымаць сотню долараў, а мо' і болей. Ён нават не зірнуў туды, куды пляснуўся чалавек. Ды і іншыя людзі не надта цікавіліся гэтым здарэннем — усе глядзелі ўгару. Але машына там раптам знікла, нібы растала ў паветры...

Светазар і Святлана бачылі, як кінуўся галавой уніз няшчасны чалавек. Яны закрычалі ад жаху...

Статыстычнае бюро Н'ю-Йорка зарэгістравала ў гэты дзень чацвёртага беспрацоўнага, які скончыў жыццё самагубствам. Колькі яшчэ было ў гэты дзень такіх выпадкаў — мы не ведаем.

### У гасцях у фермера

А нашы «марсіяне» апусціліся на дарогу за многа соцень кіламетраў ад Н'ю-Йорка. Навокал была неабсяжная раўніна, засеяная пшаніцай, кукурузай. У адных месцах пасевы ішлі суцэльнымі палямі, у другіх месцах яны былі падзелены на невялікія ўчасткі і абгароджаны калючым дротам. Суцэльныя палі належалі кампаніям прадпрыемцаў, а паасобныя ўчасткі — фермерам, будынкі якіх былі параскіданы на значнай прасторы. Падарожнікі заехалі на адну з гэтых ферм, каб адпачыць, як сказала Святлана, ад н'ю-йоркскай мітусні.

Дом фермера быў на поўтара паверхі: у ніжнім, цагляным, змяшчалася жывёла, паліва і розныя гаспадарчыя прылады. На другім паверсе жылі гаспадары. Побач было яшчэ гумно, за якім быў невялікі агарод. А перад домам сад з некалькіх пладовых дрэў, старых, напалову засохлых. Па ўсяму было відаць, што гаспадарка гэтая калісьці была добра ўпарадкаваная.

Насустрач прыехаўшым выбегла шасцёра дзяцей ад чатырох да чатырнаццаці гадоў. Яны забыліся на ўсё, убачыўшы незвычайную машыну. Падыйшлі і бацькі — стомленая худая жанчына і сутулы чалавек гадоў пад сорак пяць. Яго доўгія дужыя рукі матляліся неяк бездапаможна, з-пад густых брывей палахліва глядзелі вочы, мяккія, добрыя, не адпавядаючыя яго магутнай постаці. Гаспадары глядзелі на прыезджых абыякава, нібы часта бачылі такіх падарожнікаў.

Светазар і Святлана адчулі сябе няёмка: чаго яны сюды заехалі? І гаспадары глядзелі на іх так, ібы задавалі гэтае-ж пытанне.

— Ці можна будзе ў вас спыніцца? — спытаў Светазар, вылазячы з машыны.

— Калі ласка, — здзіўлена адказаў гаспадар. — Толькі для вас гэта будзе зусім не цікава. Трохі



далей вы знойдзеце прыпынак, куды лепшы, чым у нас, там зможаце падмацавацца, і машыну вашу дагледзяць.

— А нам нічога гэтага не трэба, — адказаў Светазар. — Мы проста хочам паглядзець, як добрыя людзі жывуць.

Гаспадыня паспяшыла адказаць:
— У такім разе вы не туды трапілі, дзеткі. Тут людзі не жывуць, а гібеюць.

А гаспадар сурова спытаў:

— Адкуль вы?

Да такога пытання хлопчык не падрыхтаваўся. Сумленне не дазваляла гаварыць такім людзям, што да іх у госці прыляцелі «марсіяне». Светазар павярнуўся да сястры.

— Кажы праўду — і ўсё, — адказала тая.

І Светазар сказаў:

— Мы прыехалі з Савецкага Саюза.

Абыякавасць і суровасць адразу зніклі з твараў гаспадароў. Замест таго з'явілася надзвычайнае здзіўленне і цікавасць.

— Якім чынам?.. адны?.. куды едзеце?.. — вырваліся ў іх пытанні.

— Аб гэтым доўга гаварыць, — адказаў Светазар. — А пакуль што дазвольце пасядзець у вашым садку.

— Калі ласка, — адказала гаспадыня. — Толькі выбачайце, няма чым вас пачаставаць. Кожную хвіліну чакаем, што нас выганяць адсюль.

— Хто?

— Банкіры, гаспадары вось гэтых зямель, — хмура сказаў фермер, паказваючы рукой на неабсяжныя суцэльныя палі. — Мы ўсе ім запазычыліся так, што нашы фермы паступова пераходзяць да іх. Вось гляньце: суседні дом ужо забіты дошкамі. Цяпер і мы чакаем высялення.

— А куды вы дзенецеся? — спытала Святлана.

— Паедзем, куды вочы глядзяць. Запражэм воз і паедзем па свеце шукаць работы. Так дзесьці едзе цяпер наш сусед, так вандруюць на калёсах тысячы фермераў. Ды што гаварыць пра нас, — махнуў фермер рукой, — лепей вы скажыце пра сябе...

Але скончыць ім размову не прышлося: з тракту на поўным хаду завярнула да іх машына. Адтуль вышаў рухавы чалавек з партфелем і двое паліцмэнаў. Убачыўшы іх, гаспадыня адразу заенчыла, за ёй пачалі плакаць дзеці. Гаспадар яшчэ больш нахмурыўся і чакаў.

— Сёння а дванаццатай гадзіне скончыўся ваш тэрмін, — пачаў чалавечак, вымаючы з партфеля нейкія паперы. — Плацяжоў ад вас не паступіла. Значыцца, паводле закону, уся ваша ферма пераходзіць да банка. Вам дазваляецца запрэгчы каня і ўзяць з сабой неабходныя хатнія рэчы. Замест каня можаце ўзяць машыну не даражэй за сто долараў. Цяпер праверым вашу апісаную гаспадарку.

Пачалася праверка па спісу гаспадарчых будынкаў і інвентара. І тады яны заўважылі фантамабіль, які стаяў пад дрэвам.

— Гэта што за штука такая? — спытаў чалавек з партфелем.

— Ды вось падарожнікі заехалі да нас, — адказаў гаспадар.

— Гэтыя дзеці?

— Так.

— Вы іх ведаеце?

— Не.

Тады чалавек звярнуўся да Светазара і Святланы.

— Адкуль вы?

— З дому, — адказаў Светазар

— З якога горада ці краіны? — настойваў чалавечак.

— А хіба я вам абавязаны адказваць? — сказаў Светазар.

— Вядома, калі вы не жадаеце... але я хацеў... — замармытаў чалавек. Затым ён адышоўся ўбок і, пазіраючы на падарожнікаў, з хваляваннем пачаў нешта гаварыць сваім. Светазар напружана нацэліўся ў той бок сваёй шапачкай-перадатчыкам і пачуў урыўкі размовы.

— Ды гэта, мусіць, тыя самыя марсіяне, пра якіх толькі што перадавалі па радыё... Чаму яны сядзяць на гэтай ферме? На малюнках бачыў я вось такіх савецкіх піянераў... Ці не затрымаць іх?..

— Едзем, Святлана, — сказаў Светазар, — не варта з імі звязвацца.

Яны селі ў сваю машыну, знялі шапкі і надзелі шлемы. Трое амерыканцаў хутка падышлі да іх і, размахваючы рукамі, пачалі нешта гаварыць. Але цяпер падарожнікі не маглі іх разумець. Машына шуганула ўверх, трое амерыканцаў з дзікімі крыкамі пакаціліся на зямлю; закрычала ад здзіўлення і ўся фермерская сям'я. Затым прыезджыя кінуліся ў сваю машыну і ва ўвесь дух паехалі назад.

**Іелаўстонскі парк**

Брат і сястра захацелі паглядзець на краіну з вышыні, і Светазар затармазіў ход машыны. Пад імі была ўсё тая-ж бязмежная раўніна з пшаніцай і кукурузай. Усюды былі раскіданы такія самыя фермы, як тая, дзе яны толькі што былі. Часамі фермы злучаліся ў паселішчы, якія нагадвалі нашы мястэчкі. Сям-там былі гарады з фабрычнымі комінамі. Праз некаторы час наперадзе заблішчэла шырокая рака.

— Місісіпі! — упэўнена сказала Святлана.

Яны накіраваліся ўверх па рацэ. Па ёй уверх і ўніз плыло шмат параходаў. Па берагах многа гарадоў з фабрыкамі і заводамі.

Ці зварачваў хто-небудзь увагу на незвычайны самалёт? Здаецца, не. Невялікая кропка ў паветры была такой звычайнай з'явай, што нікому не прыходзіла ў галаву прыглядацца да яе.

Вось наперадзе паказаўся вялікі горад з цэлым лесам фабрычных комінаў. Ён стаяў на тым месцы, дзе ў Місісіпі ўлівалася прытока Огайо. Спускацца ў горад падарожнікі не збіраліся: куды там дзенешся? што там будзеш рабіць?

Як толькі яны праляцелі праз горад то заўважылі, што ім насустрач ляціць самалёт, ляціць прама, нібы жадаючы сутыкнуцца. Светазар трохі адхіліўся ўбок, але тут заўважыў, што зусім блізка яго даганяе другі самалёт. Затым прайшоў цень ад трэцяга самалёта зверху.

— Заўважылі, зацікавіліся, — прабурчэў Светазар і адпусціў педаль.

Машына зараз-жа знікла з вачэй амерыканцаў.

Калі Светазар прыпыніўся, яны былі над Скалістымі горамі. Унізе, сярод дзікага нагрмаджэння скал, відаць была зялёная даліна, а ў ёй нібы дымы ад вогнішчаў.

— Іелаўстонскі Нацыянальны парк! — урачыста абвясціў Светазар.

— Ведаю і без цябе, — адказала Святлана.

Гэты цудоўны куток прыроды сапраўды ведае ўвесь свет. Нідзе няма столькі гейзераў, колькі тут. Ды яшчэ самых незвычайных і рознастайных. І расліннасць тут захавалася рэдкая і каштоўная, а разам з ёю і жывёла. Нездарма гэты куток абвешчаны Нацыянальным паркам, па-нашаму, Дзяржаўным запаведнікам.

Але як агледзець яго? Там, мусіць, усё захавалася ў першабытным стане, як стварыла прырода. Ці можна ездзіць там на сваім фантамабілі, ці трэба схаваць яго дзе-небудзь? А калі схаваеш, то можаш потым і не знайсці, або хто-небудзь другі знойдзе. Такія пытанні былі ў нашых «светлячкоў», пакуль яны прыглядаліся, дзе-б апусціцца.

Нарэшце, яны вырашылі апусціцца на дарогу, што вяла ў парк, і ехаць, пакуль можна будзе. Перад уездам у парк быў цэлы гарадок: гасцініцы, магазіны, рэстараны, музыка.

— Вось табе і першабытны запаведнік! — сказаў Светазар, прыпыняючы машыну. — Што-ж будзем рабіць?

— Не ведаю, — збянтэжана адказала сястра.

Вакол незвычайнай машыны адразу сабраўся натоўп людзей, як на вуліцах Н'ю-Йорка. Дзівіліся, краталі машыну, выказвалі адзін аднаму свае меркаванні і зазіралі ў сярэдзіну. Адзін высокі барадаты дзядзька стаў стукаць у акенца і нешта гаварыць, паказваючы рукой кудысьці ўбок. Светазар надзеў сваю шапку-перадатчык і зразумеў, што дзядзька запрашае ў свой «найлепшы ў свеце атэль «Марс», дзе найлепшы ў Амерыцы джаз і найпрыгажэйшыя гёрлс*, дзе можна павячэраць вустрыцамі, дастаць натуральнага французскага віна і гэтак далей.

Бедны Светазар не ведаў, што рабіць, што казаць? А тым часам натоўп павялічваўся, ужо чалавек шэсць фатографаў здымалі машыну з усіх бакоў, і нарэшце хлопчык пачуў знаёмыя і непрыемныя словы: «Гэта-ж тыя самыя»...

---

* Дзяўчаты-танцаўшчыцы.



— А ну вас к чорту! — вылаяўся Светазар, надзеў шлем і...

І зноў дзесяткі людзей засталіся стаяць з задранымі галовамі, не верачы сваім вачам. І зноў паляцелі ва ўсе бакі тэлеграмы аб таемных падарожніках з Марса ці Расіі...

За некалькі год перад гэтым газеты Злучаных Штатаў Амерыкі хвалявалі насельніцтва апісаннем таемных з'яў. Самым сур'ёзным чынам гаварылася, што над іх краінай час-ад-часу лётаюць нейкія «талеркі». Што гэта за талеркі, адкуль яны з'явіліся, які след пакідаюць, куды яны дзяюцца, хто іх бачыў зблізку — на усё гэта пэўных адказаў не было. Не было, напрыклад, чуваць, каб гэтая талерка звалілася каму-небудзь на галаву або хоць у полі. Не ведалі пэўна, якую велічыню мелі гэтыя талеркі, ці нават «талерачкі», як іх яшчэ называлі. Ці яны былі сапраўды маленькімі, ці яны здаваліся такімі, на вялікай вышыні—невядома. Паколькі самі талеркі лётаць туды і сюды не могуць, выказваліся меркаванні, што нехта іх пускае. Але хто і дзеля чаго? Адны больш наіўныя людзі казалі, што гэта, мусіць, марсіяне, а другія, больш яхідныя, палічылі за лепшае назваць «рускіх камуністаў». Хоць і бязглуздзіца, але амерыканскія прапагандысты разлічвалі, што знойдзецца яшчэ нямала дурняў, якія паверацъ і настрояць сябе супраць Совецкага Саюза. Сярод тых, хто паверыў, быў ваенны міністр Злучаных Штатаў Амерыкі Форэстал. Ён так баяўся совецкіх самалётаў і «талерачак», што зусім звар'яцеў і трапіў у псіхіятрычную лячэбніцу. А праз некаторы час яму здалося, што совецкія самалёты бамбяць ужо Амерыку, і ён у бальнічнай кашулі выкінуўся з акна трэцяга паверху. Небарака, вядома, разбіўся, але кандыдатаў на яго месца ў Амерыцы засталося нямала.

Таксама і цяпер амерыканскія газеты паднялі шум вакол таемных пасланцоў ні то з Марса, ні то з Совецкага Саюза. На гэты раз справа здавалася ўжо больш праўдападобнай, бо з'явіліся нават здымкі таемнай машыны і пасланцоў. Гэтыя здымкі праз некалькі гадзін разышліся па тэлеграфу па ўсёй Амерыцы. Вось чаму нашы падарожнікі ў першую чаргу чулі словы: «Гэта, мусіць, тыя самыя»...

Светазар і Святлана разумелі, што азначаюць гэтыя словы, але не ўяўлялі сапраўднага становішча справы. Перш, чым вяртацца дадому, яны захацелі пагасцяваць у каго-небудзь з неграў.

**Васіль МАТЭВУШАЎ**

## СТАЛАСЦЬ

Новая шапка на ім
І кашуля,
У ялавых ботах
Падэшвы-рыпулі.

Мабыць, нядаўна
Зусім з магазіна —
Сіняя куртка
З трывалай тканіны.

Хай усё гэта
Прыдбана бацькамі...
Хлопцу не сорамна
Стрэцца з сябрамі:

Ён на заводзе
Залічаны ў штаты —
Жыць пачынае
З уласнай зарплаты.

### Падзеі ў Рыме

У ніжнім цячэнні Місісіпі, на беразе ракі, стаяў гарадок Рым (амерыканцы вельмі любяць даваць сваім гарадам гучныя назвы). Мы-б назвалі гэты Рым захудалым мястэчкам. У цэнтры яго было некалькі ўстаноў, банк мясцовага багацея «Джон Пуд і К°», аптэка, пошта і дзесятак крам. А навокал былі халупы неграў. Уся гэтая мясцовасць была занята баваўнянымі плантацыямі, і негры былі асноўнымі рабочымі на іх. Як і дзвесце гадоў назад, працавалі яны на панскіх плантацыях ад цямна да цямна, атрымлівалі грашы і жылі ў халупах, пабудаваных з дошак ад скрынак і іншых падобных матэрыялаў.

У часе палудзеннага перапынку да такога вось мястэчка і пад'ехала дзівосная чырвоная машына. Яна спынілася ля адной з негрыцянскіх халуп. Насустрач выйшлі здзіўленыя гаспадары і хутка сабралася многа суседзяў. Светазар і Святлана былі ўпэўнены, што людзі дзівяцца на іх фантамабіль, а ў сапраўднасці яны дзівіліся на пасажыраў.

— Можна ў вас спыніцца? — спытаў Светазар, вышаўшы з машыны разам з сястрой.

— Спыніцца?.. У нас? — збянтэжыліся гаспадары. — Навошта вам у нас спыняцца? Крыху далей ёсць атэль.

— А мы хочам з вамі пазнаёміцца, — весела сказала Святлана, падыходзячы да пяцігадовага хлапчука, чорнага, кучаравага з белымі вачыма і зубамі. Але той адскочыў ад дзяўчынкі так, нібы яна хацела яго ўкусіць.

— Вельмі дзякуем, што вы не цураецеся нас, — сказала з паклонам старая негрыцянка. — Але просім не заходзіць да нас.

— Чаму? — спыталі Светазар і Святлана разам.

— Відаць, вы нетутэйшыя калі не ведаеце нашых законаў. Мы не маем права быць разам з вамі, ды і вам будзе непрыемнасць, калі вы будзеце з намі пасвойску. Вы-ж белыя, а мы чорныя, — з горкай усмешкай скончыла жанчына.

— Нас гэта не датычыцца, мы— совецкія! — з гонарам адказаў Светазар.

— Совецкія?! Няўжо? — загаманілі людзі, і чорныя твары іх, здавалася, пасвятлелі ад радаснага хвалявання

Святлана штурхнула брата ў бок:

— Навошта ты сказаў? Цяпер усюды загамоняць і не дадуць нам спакою.

— Нічога! — адказаў Светазар, а затым звярнуўся да гаспадароў: — Можа дазволіце зайсці ў вашу хату?

— Не можам вам забараніць, — схілілі галаву гаспадары.

Светазар і Святлана ўвайшлі ў хату, калі можна так назваць гэтую цёмную будку без столі, без вокнаў, без падлогі, без мэблі.

Першы раз у сваім жыцці бачылі тутэйшыя жыхары белых гасцей у негрыцянскай халупе, таму навокал хутка сабраўся цэлы натоўп разявакаў. Вестка аб такім незвычайным здарэнні дайшла і да цэнтра Рыма. Першым зацікавіўся крамнік Джэб, здаравенны дзядзя ў клятчастай камізэльцы. Ён нават не паверыў, што на свеце могуць быць такія выпадкі, і пайшоў праверыць. Ён здалёк заўважыў чырвоную машыну, а калі падышоў бліжэй, то пачаў хадзіць вакол яе, паціскаючы плячыма. Потым накіраваўся да хацінкі. Негры шарахнуліся ўбок, прапускаючы яго. Прасунуўшы галаву ў дзверы, Джэб крыкнуў:

— Гэй, джэнтльмены, чаго вы забраліся ў гэтую нару? Хіба для вас у Рыме не знойдзецца пачэснага месца? Хіба вы не ведаеце, што ганьбіце нас, янкі, сваім прыяцельствам з чорнымі?

Гаспадары глядзелі то на сваіх гасцей, то на Джэба і дрыжалі ад страху.

— Не ваша справа! — пачуўся ў адказ звонкі голас Светазара.

Джэб прыглядзеўся ў змроку і ўсклікнуў:

— Тысяча чарцей! Ды гэта-ж дзеці! Белыя дзеці ў чорнай нары! Выходзьце хутчэй, рабяткі. А вы— звярнуўся ён да гаспадароў, — будзеце адказваць за тое, што завалаклі сюды белых дзяцей.

Негрыцянка загаласіла, муж яе стаў прасіць сваіх незвычайных гасцей, каб яны ішлі.

— Калі ласка, просім вас. Вы нас загубіце. Вы не ведаеце нашых парадкаў. Мілыя дзеткі, ідзіце, ідзіце хутчэй...

— Хадзем, — шапнула Святлана. — Хіба ты не чытаў пра тутэйшыя парадкі.

— Чытаць—адно, а бачыць сваімі вачыма — другое, — адказаў Светазар і пайшоў з хаты, апусціўшы галаву, нібы зрабіў нешта нядобрае.

Джэб сустрэў яго з радасцю, як знаёмага. Пляснуўшы Светазара па плячы, ён сказаў:

— Ты як сюды трапіў, хлапчына? Ды яшчэ з дзяўчынкай.



Мусіць, яны вас зацягнулі да сябе? Мусіць надумаліся з вамі зрабіць што-небудзь дрэннае.

Светазар адхіліўся ад яго прыяцельскіх абдымкаў і сурова сказаў:

— Мы самі заехалі да іх у госці. Вы не маеце права ўмешвацца.

— У госці?! — ускрыкнуў Джэб, нават адхіснуўшыся ад здзіўлення. — Вы, белыя, ды ў госці да чорных?..

Каля машыны тым часам сабралася дзесяткі два такіх джэбаў. Зацікаўленыя, здзіўленыя, усхваляваныя, яны чакалі тлумачэння ад свайго таварыша.

— Чуеце? — усклікнуў той. — Гэтыя белыя дзеці прыехалі «ў госці» да чорных, ды яшчэ кажуць, што мы не маем права ўмешвацца ў гэтую справу.

— Адкуль яны ўзяліся, калі не ведаюць нашых парадкаў?—крыкнуў адзін з джэбаў. — Адкуль вы?

— З Месяца, — спакойна адказаў Светазар, праціскаючыся да сваёй машыны. Напалоханая Святлана моцна трымалася за яго руку. Але джэбы загарадзілі ім дарогу.

— Ты не жартуй, а кажы праўду, — казаў адзін.

— Калі вы дабравольна сябруеце з неграмі, — казаў другі,— то мы маем права пакараць вас за тое, што ганьбіце нашу расу.

— Прапусціце, — цвёрда сказаў Светазар. — Мы не на судзе і не абавязаны вам адказваць.

Спакойная ўпэўненасць хлопчыка зрабіла ўражанне на джэбаў, і яны прапусцілі дзяцей да машыны. Але на свае словы савецкія рабяты атрымалі такі адказ, які заледзяніў іх. Адказ быў такі:

— Калі вы не на судзе, то вашы прыяцелі зараз-жа могуць апынуцца перад судом Лінча.

Пачуўшы страшнае слова «Лінч» негры замітусіліся, пабеглі прэч, жанчыны і дзеці заплакалі... Гатовы былі заплакаць і Светазар са Святланай. Яны таксама добра ведалі гэтае слова. Яны выразна ўявілі сабе, што можа тут быць, калі яны пакінуць гэты Рым. Гэтыя дзікія джэбы могуць павесіць хоць каго з тутэйшых неграў, і нічога за гэта ім не будзе. А брат і сястра будуць лічыць вінаватымі сябе за смерць няшчасных неграў. Ці можна што-небудзь зрабіць, каб не дапусціць такой бяды? Святлана не вытрымала і сказала:

— Гэтыя людзі зусім не вінаваты, што мы да іх заехалі. Чаму вы пагражаеце ім Лінчам?

Джэбы зарагаталі, і першы з іх сказаў:

— Калі вы пад'едзеце да нас, пакажаце машыну, раскажаце пра сябе, то мы не будзем чапаць вашых неграў.

— Добра, дазвольце толькі сесці, — згадзіўся Светазар.

Іх прапусцілі. Яны селі, надзелі свае шлемы, і Светазар весела сказаў:

— Ну, цяпер мы ім пакажам!

Машына паднялася на вышыню чалавечага росту і пачала кружыць над галовамі джэбаў. У аднаго сарвала капялюш, другога зачапіла калясом. З крыкамі жаху паваліліся яны на зямлю, а за імі апусцілася машына і кружылася таксама, пагражаючы змясіць іх усіх у кашу... Затым машына рванулася ўверх і знікла.

(Працяг у наступным нумары.)

# У ДАЛІНЕ ПЯЦІ ГОР



Анатоль БЕЛАШЭЎ

Каўказ. Пяцігорск. Прыгажосцю прыроды, звычаямі людзей, так падобнымі да рамантычных легенд старасвеччыны, вольналюбівым духам народа захапляў некалі гэты край Міхаіла Юр'евіча Лермантава.

Как сладкую песню отчизны моей
Люблю я Кавказ, —

пісаў ён яшчэ шаснаццацігадовым юнаком. І гэтая любоў да Каўказа чырвонай ніткаю праходзіць праз усё кароткае, але яркае жыццё паэта, праз усю яго літаратурную творчасць.

Сёлета спаўняецца 140 год з дня нараджэння Міхаіла Юр'евіча Лермантава. Да нашых дзён захаваліся ў Пяцігорску мясціны, звязаныя з памяццю аб вялікім рускім паэце: домік М. Ю. Лермантава, ператвораны ў музей, грот на ўсходнім схіле Машука, дзе паэт любіў заставацца сам-на-сам са сваімі думамі. Кожны дзень сотні экскурсантаў наведваюць лясісты поўночны схіл гары Машук — месца дуэлі і смерці паэта.

У доміку-музеі М. Ю. Лермантава любоўна сабраны дакументы і рэліквіі, якія праліваюць святло на жыццё і творчасць вялікага рускага паэта. Пачуццём сыноўняй любві да Радзімы, да народа, пачуццём рашучага пратэсту супраць прыгонніцкага ладу, прасякнута ўся творчасць Лермантава.

У першым пакоі музея сабраны экспанаты і дакументы 1814—1834 гг., якія расказваюць аб маленстве і юнацтве паэта, аб яго вучобе. На сценах — партрэты бацькі Міхаіла Юр'евіча, бабкі паэта Елізаветы Арсеньевай, рэдкія партрэты паэта ва ўзросце трох і васьмі год, яго уласныя малюнкі-накіды да «Каўказскага нявольніка», ведамасць аб паводзінах і поспехах вучня 4-га класа Маскоўскага Благароднага універсітэцкага пансіёна Міхаіла Лермантава з выдатнымі адзнакамі. У вітрынах пад шклом — арыгіналы студэнцкіх рукапісных часопісаў «Атэней» і «Галатэя» з першымі вершамі паэта.

Па экспанатах музея можна прасачыць фармаванне светапогляду Лермантава. У яго першых творах адчуваецца дух «вольнадумства», пратэсту супраць царскага самадзяржаўя і тыраніі. Пад уплывам паўстання дзекабрыстаў пятнаццацігадовы паэт піша верш «Скаргі турка», у якім смела выкрывае няроўнапраўе, жорсткую несправядлівасць, якая пануе ў краіне:

...Там рано жизнь тяжка бывает для людей,
Там за успехами несётся укоризна,
Там стонет человек от рабства и цепей!..
Друг! Этот край — моя Отчизна!

Тэмы сялянскіх паўстанняў на Русі, вобразы Разіна і Пугачова знайшлі яркае адлюстраванне ў такіх творах паэта, як верш «Атаман», паэма «Апошні сын вольнасці», гістарычны раман «Вадзім».

У гады навучання на універсітэце Лермантаў стварае паэмы «Чаркесы», «Каўказскі нявольнік», «Аул Бестунджы», пачынае працаваць над драмай «Маскарад», піша паэму «Ізмаіл-Бей», у якой на першае месца выступае палітычная тэма нацыянальна-вызваленчай вайны.

Другі пакой музея займаюць дакументы, якія расказваюць аб першай ссылцы паэта на Каўказ, аб яго рабоце над «Маскарадам» і «Барадзіно».

«Два страшных гады», — так назваў Лермантаў гады вучобы ў школе падпрапаршчыкаў — мінулі. Карнет Лермантаў залічаны ў лейбгвардыі гусарскі полк, які стаяў у Царскім Сяле. Але вайсковая кар'ера не вабіць паэта. Ён цалкам аддаецца літаратурнай творчасці. У 1835 годзе ён заканчвае драму «Маскарад» і пачынае працаваць над раманам «Княгіня Лігаўская», у якім зроблены першыя замалёўкі характару Пячорына.



М. Ю. Лермантаў.

На дуэлі забіты Пушкін. Гэтая вестка моцна ўразіла Лермантава. Ён піша верш «На смерць паэта», які з'явіўся водгукам усёй прагрэсіўнай Расіі на агіднае забойства вялікага паэта. Гэты верш з маланкавай хуткасцю абляцеў увесь Пецярбург. Яго чыталі і перачытвалі, тайком перадавалі з рук у рукі, з вуснаў у вусны.

Верш «На смерць паэта» зрабіў сваё ўражанне і на царскі двор. Лермантаў быў арыштаваны і сасланы на Каўказ, на перадавую лінію.

На Каўказе Лермантаў збліжаецца з прагрэсіўнымі-людзьмі таго часу: ссыльным дзекабрыстам А. Одоеўскім, грузінскімі паэтамі А. Чаўчавадзе, Г. Орбеліяні, Н. Бараташвілі, вывучае быт і норавы каўказскіх народаў, іх легенды і паданні. Тут, у ссылцы, ён заканчвае пачатую яшчэ ў Пецярбургу «Песню пра купца Калашнікава», тут ён піша свой славуты верш «Барадзіно», у якім знайшла сваё яркае ўвасабленне патрыятычная сутнасць характару рускага народа, яго высокі гераізм.

У наступным пакоі музея сабраны рукапісы і дакументы, якія адлюстроўваюць творчасць паэта, звязаную з Каўказам. Тут — шматлікія ілюстрацыі да паэмы «Дэман», аўтографы «Мцыры», пажоўклыя ад часу першыя экземпляры «Героя нашага часу», якія выйшлі ў свет больш ста год назад.

«Вышэйшы свет» варожа сустрэў «Героя нашага часу». Паэта абвінавачвалі ў тым, што ў вобразе Пячорына ён намаляваў сябе. У адказ на гэта Лермантаў пісаў: «Герой нашага часу»... сапраўды партрэт, але не аднаго чалавека: гэта партрэт, складзены з заган усяго нашага пакалення».

У 1840 годзе, пасля справакаванай свецкімі інтрыганамі дуэлі Лермантава з сынам французскага пасланніка дэ Барантам, цар зноў ссылае паэта на Каўказ, на самы небяспечны ўчастак баявых дзеянняў. У адказ на царскі загад Лермантаў піша верш «Бывай, нямытая Расія».

Гэта была другая і апошняя ссылка паэта на Каўказ. Ён удзельнічае ў многіх аперацыях, вылучаецца сваёй адвагай і нават прадстаўляецца да ўзнагароды. Аднак цар выключае мяцежнага паэта са спісаў узнагароджаных.

13 мая 1841 года Лермантаў прыязджае ў Пяцігорск для лячэння на водах. Тут ён сустракае многа знаёмых. Вакол паэта групуецца прагрэсіўная моладзь. У той-жа час вакол яго пляцецца брудная павуціна інтрыг. «Арыстакратыя» падбухторвае афіцэраў на дуэль з паэтам. Карыстаючыся выпадковай сваркай, даўні знаёмы Лермантава, самалюбны і пусты ветрагон Мартынаў, выклікае паэта на дуэль.

5 ліпеня Лермантаў і Мартынаў сышліся ля падножжа гары Машук. Усё было падрыхтавана для наўмыснага забойства паэта. У рашаючы момант Лермантаў стрэліў у паветра, а Мартынаў доўга і старанна прыцэльваўся і забіў Лермантава напавал.

На працягу шасці гадзін цела Лермантава ляжала ля Машука пад праліўным даждом. Пахавалі яго таварышы пад строгім наглядам жандараў. «Погребение пето не было», — сведчыць запіс у кнізе гарнізоннай царквы, якая захавалася ў музеі. Нягледзячы на тое, што ў Расіі ў той час дуэлі былі забаронены, забойца паэта застаўся, па сутнасці, беспакараным. Мартынава пасадзілі на тры месяцы на гаўптвахту і наклалі царкоўнае пакаянне. Нават судовыя выдаткі па прыцягненню яго да адказнасці былі прыняты за кошт дзяржавы.

Толькі праз 38 год пасля смерці паэта на месцы дуэлі быў пастаўлены «памятны камень». Царскі ўрад не спяшаўся ўвекавечыць памяць Лермантава. Да стагоддзя з дня нараджэння паэта, у 1914 годзе, на сродкі, сабраныя па падпісцы сярод перадавых людзей Расіі, на поўночным схіле Машука быў узведзены помнік, праект якога зрабіў выдатны рускі скульптар Мікешын. Помнік уяўляе высокі каменны абеліск з бронзавым барэльефам паэта. З чатырох бакоў абеліска ўзвышаюцца белакаменныя грыфы — горныя птушкі. Агароджа вакол помніка зроблена з каменных слупкоў у форме пісталетных куль.

Боюсь не смерти я. О нет!
Боюсь исчезнуть совершенно.
Хочу, чтоб труд мой вдохновенный
Когда-нибудь увидел свет, —

пісаў Лермантаў у адным са сваіх вершаў. Савецкі народ зразумеў і ацаніў вольналюбівае слова вялікага паэта. Ён свята захоўвае ўсё, што звязана з імем Лермантава, любіць і глыбока цэніць яго велізарны і светлы талент, цалкам адданы служэнню Радзіме.

# Жэтон чэмпіёнкі

А. МАЙСКІ

На яшчэ незакончаным стадыёне палошчуцца сцягі спартыўных таварыстваў, прадстаўнікі якіх удзельнічаюць сёння ў спаборніцтвах. Праграма амаль ужо цалкам вычарпана: выявіліся пераможцы ў бегу на розныя дыстанцыі, у кіданні дыска, штурханні ядра. Невядома толькі, хто пераможа ў спаборніцтвах па прыжках у даўжыню, якія яшчэ працягваюцца на адным з сектараў.

Больш гадзіны ідзе барацьба паміж вядомымі беларускімі лёгкаатлетамі Яўгеніяй Гурвіч і Галінай Лук'янцавай, барацьба за першае месца, за лепшы вынік. І ўсё яшчэ не высветлілася, хто з іх мацнейшы...

Імя Яўгеніі Гурвіч даўно вядома грамадскасці рэспублікі. Тры гады таму назад за поспехі ў спаборніцтвах, за высокія спартыўныя дасягненні яна удастоілася высокага звання майстра спорту. Ёй належалі рэспубліканскія рэкорды для дзяўчынак сярэдняга і старэйшага ўзросту і для жанчын па бегу, прыжках, пяцібор'ю.

У той час, калі Гурвіч атрымала ўжо ўсеагульнае прызнанне, Галіна Лук'янцава толькі яшчэ ўступала ў спорт, асцярожнымі, няўпэўненымі крокамі. Праўда, знаёмства са спортам у Галіны пачалося даўно. Яе бацька Мікалай Іванавіч Лук'янцаў быў адзін з мацнейшых велагоншчыкаў, тэнісістаў і канькабежцаў беларускай арганізацыі «Дынама». Выступала ў спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы і яе маці Ніна Фёдараўна. Таму не дзіўна, што ў дзяўчынкі з'явілася зацікаўленасць да спорту, якая з цягам часу ўсё мацнела.

Аднойчы летам, гадоў пяць таму назад, Галіне давялося ўпершыню ўдзельнічаць у спаборніцтве па лёгкай атлетыцы. Яна без усялякай падрыхтоўкі заняла тады першае месца, звярнуўшы на сябе ўвагу.

— З цябе можа атрымацца нядрэнны лёгкаатлет, — сказаў на развітанне піонерважаты. — Абавязкова займіся лёгкай атлетыкай.

Але Галіна была чамусьці іншай думкі наконт сваіх магчымасцей і таму ўвосень пайшла ў секцыю гімнастыкі пры Акруговым доме афіцэраў. Літаральна праз некалькі тыдняў Галіна выканала нарматывы трэцяга спартыўнага разраду па гімнастыцы і... перайшла ў секцыю плавання.

— Надакучыла гімнастыка, — растлумачыла яна свайму новаму трэнеру.

Пачалося ўдасканальванне ў новым напрамку. Праверкай для Галіны з'явіліся класіфікацыйныя спаборніцтвы, дзе яна выканала нарматывы трэцяга разраду.

У час веснавых канікулаў 1951 года школьнікі Мінска, як звычайна, прышлі на свае традыцыйныя лёгкаатлетычныя спаборніцтвы ў спартыўную залу таварыства «Іскра». За каманду сваёй 24-й школы выступала Галіна Лук'янцава. Першынство школьнікаў абслугоўвалі вопытныя суддзі, тут праводзілі многія гадзіны і трэнеры, якія шукалі здольную моладзь.

— Прыгае Лук'янцава, падрыхтавацца Новікавай, — пачуўся голас суддзі.

Галіна на момант замерла і — пабегла. Шэсць крокаў разбегу, штуршок, узлёт і — вось ужо рукі дакрануліся да мяккай маты. Галіна азірнулася: планка была на тым-жа месцы — каля адзнакі «120 см». У раздзявальні да дзяўчыны падышоў высокі мужчына ў сінім спартыўным касцюме. Галіна пазнала ў ім Барыса Барысавіча Левінсона, вядомага ў краіне трэнера, выхаваўцеля многіх майстроў спорту, чэмпіёнаў і рэкардсменаў рэспублікі і Савецкага Саюза.

— Трэніравацца трэба. Абавязкова прыходзьце да нас у спартыўную школу, — сказаў Левінсон.

Галіна ўспомніла, што такую-ж параду даў ёй некалі піонерважаты ў лагеры, і яна пайшла ў юнацкую школу. Але здарылася так, што Левінсон павінен быў паехаць на ўсесаюзны збор лёгкаатлетаў. Застаўшыся без трэнера, Галіна перастала наведваць заняткі. А тут яшчэ новая бяда: яна пачала дрэнна вучыцца, ледзь скончыла сёмы клас і вырашыла пакінуць школу.



Галіна Лук'янцава на трэніроўцы.

Фото В. Гундорына.

У гэтыя цяжкія хвіліны на дапамогу Галіне прышоў калектыў юнацкай спартыўнай школы, таварышы. Трэнер школы гаварыў ёй:

— У цябе ёсць здольнасці для таго, каб стаць добрай спартсменкай. Ты павінна набываць і ўдасканальваць сваё майстэрства не толькі для сябе, але для нашай школы, для рэспублікі. У цябе ёсць усе ўмовы і для паспяховай вучобы. Трэба вучыцца. Глядзі, колькі да нас ходзіць займацца рабят, а яны-ж усе лепшыя вучні ў сваіх школах. Вось з іх і бяры прыклад.

Тое-ж самае гаварылі Галіне і бацькі. Галіна вырашыла працягваць вучобу і адначасова наведваць спартыўную школу.

У жыцці спартсмена бадай што самае галоўнае — гэта выбраць від спорту, у якім ён здолее дамагчыся самых высокіх вынікаў. З гэтым няпісаным законам адразу-ж сутыкнулася і Галіна. Што выбраць? Бар'ерны ці гладкі бег? Прыжкі ў даўжыню ці кіданне дыска?

— Давай рыхтавацца да многаборства, — прапанаваў трэнер. — Там спатрэбіцца ўсё. Але, вядома, працаваць прыдзецца яшчэ больш сур'ёзна.

Наступная вясна прынесла дзяўчыне першыя радасці. Настойлівая трэніроўка, выкананне ўсіх патрабаванняў трэнера далі жаданыя вынікі. Лук'янцава прыгнула ў даўжыню на 5 метраў 25 сантыметраў, перакрыўшы рэспубліканскі рэкорд для дзяўчынак 15—16 год. Затым былі перакрыты таксама рэкорды па бар'ернаму бегу на 80 метраў, прыжках у вышыню. На працягу года Галіна больш за 20 разоў уносіла папраўкі ў табліцу рэспубліканскіх рэкордаў.

Пачаўшы ў 1951 годзе прыгаць у даўжыню, Галіна Лук'янцава паказала вынік 4 метры 74 сантыметры. У наступным годзе яна прыгнула на 5 метраў 25 сантыметраў, палепшыўшы рэкорд для дзяўчат малодшага ўзросту, а ў мінулым годзе пабіла рэкорд для дзяўчат старэйшага ўзросту — 5 метраў 54 сантыметры. Разам з трэнерам Лук'янцава рыхтавалася да перавышэння рэспубліканскага рэкорду для дарослых, які належаў майстру спорту Яўгеніі Гурвіч, — да яго нехапала толькі аднаго сантыметра. Не адзін месяц прайшоў у напружанай працы. Галіна па сотні разоў прабягала ў высокім тэмпе кароткія адрэзкі па беговай дарожцы, вучылася адштурхоўвацца нагой з месца, правільна трапляць на планку, зімой хадзіла на лыжах, бегала на каньках.

І вось яны сустрэліся на першых у гэтым годзе спаборніцтвах лёгкаатлетаў — на прыз адкрыцця летняга спартыўнага сезону. Ужо зроблена па пяць спроб, а рэкорд стаіць непахісна. Засталася апошняя спроба — шостая.

Першая разбягаецца Гурвіч. Яе рухі дакладныя. Імклівы разбег, штуршок... Галіна ўбачыла, як яе суперніца прызямлілася за сцяжком, што азначаў рэкорд БССР. Яна падбегла да Яўгеніі, павіншавала яе і сама падрыхтавалася да прыжка.

Усё астатняе працягвалася секунды. Разбег, узлёт...

Першай абняла Галіну Яўгенія.

— Віншую, Галя! Малайчына!

А тым часам радыёінфарматар абвяшчаў:

— Галіна Лук'янцава перакрыла рэспубліканскі рэкорд па прыжках у даўжыню для жанчын. Яе вынік — 5 метраў 67 сантыметраў.

Летняе сонца не надзяліла гэты дзень сваёй цеплынёй і святлом. Але Галіне здавалася, што лепшага, святлейшага дня ў гэтым годзе яшчэ не было. Яна вышла са школы ў натоўпе дзяўчат, — вышла з атэстатам сталасці ў руках. На скрыжаванні ля тэатра імя Янкі Купалы яны прыпыніліся.

— Ну, хто куды?

— У парк, дзяўчаткі, у парк!

— Лепей у кіно!

— У кіно горача, давайце на возера!

— А ты куды, Галіна?

— Я павінна зайсці ў спартыўную школу.

— Са школы ў школу! Вось дзівачка! Ты-ж ужо дарослая, а там дзятва.

— Не, дзяўчаткі, мяне там чакаюць... — і, усміхнуўшыся, яна дадала: — з атэстатам сталасці.

Мінула багатае спаборніцтвамі спартыўнае лета. Яно прынесла Галіне многа радасных перамог. Самая значная з іх — атрыманне высокага звання чэмпіёнкі БССР у бегу на 80 метраў з бар'ерамі. Зараз Галіна працягвае трэніроўкі, яна хоча яшчэ ў гэтым сезоне палепшыць свае дасягненні. Да гэтага заклікае яе і новае становішча — студэнткі інстытута фізічнай культуры, будучага настаўніка, трэнера.



# Беларускія авіямадэлісты

Авіямадэльны спорт — любімы занятак савецкай моладзі. У Беларускай рэспубліцы з кожным годам памнажаюцца рады авіямадэлістаў, расце іх творчае майстэрства. Беларускія авіямадэлісты маюць на сваім рахунку два сусветныя рэкорды, адзін з якіх абсалютны, а таксама шэраг усесаюзных і рэспубліканскіх рэкордаў.



У жніўні гэтага года пятнаццаты раз адбыліся традыцыйныя спаборніцтвы авіямадэлістаў — юнакоў малодшага і старэйшага ўзростаў; у іх удзельнічала 88 чалавек. Авіямадэлісты прадставілі 168 авіямадэлей самых разнастайных тыпаў: фюзеляжных планераў, самалётаў з гумавымі, паршнявымі і рэактыўнымі рухавікамі, радыёкіруемыя мадэлі і іншыя.

На спаборніцтвах устаноўлена шэсць рэспубліканскіх рэкордаў.

Упершыню ў гэтым годзе на спаборніцтвах лятала мадэль самалёта з паршнявым рухавіком, якая кіравалася пры дапамозе партатыўнага радыёперадатчыка з зямлі. Яна зроблена кіраўніком авіямадэльнага гуртка пры Баранавіцкім Доме піянераў, авіямадэлістам-спартсменам М. Кавальчуком. Мадэль выканала ў паветры тры яго каманды — развароты ўправа на 90 і 180 градусаў і разварот на пасадку.

Званне чэмпіёнаў па авіямадэльнаму спорту БССР на 1954 год заваявалі мінчанін І. Боўт, брэстаўчане Ю. Крыкаў і Ю. Конюхаў, віцеблянін О. Лысенка, бабруйчане А. Пархімчык і А. Вікдорчык; абсалютнага чэмпіёна рэспублікі— кіраўнік авіямадэльнага гуртка пры Пінскім Доме піонераў Е. Смолка. Першае агульнае месца сярод малодшых авіямадэлістаў заняла каманда Магілёўскай вобласці ў складзе А. Лешукевіча, А. Мельнікава, Э. Костусева, сярод старэйшых школьнікаў — каманда Брэсцкай вобласці ў складзе Ю. Конюхава, І. Шуганава, Л. Дзягеля.

На здымках: уверсе — каманды-пераможцы спаборніцтваў авіямадэлістаў (у цэнтры абсалютны чэмпіён авіямадэльнага спорту БССР на 1954 год Е. Смолка). Пасярэдзіне — рэкардсмен па кордавых мадэлях тыпу «лятаючае крыло» А. Сямёнаў заводзіць паршнявы рухавік. Унізе — чэмпіён па кордавых мадэлях з паршнявым рухавіком А. Пархімчык.

**Тэкст і фота Н. ГАЦКО.**



# З глыбіні стагоддзяў

Летам на тэрыторыі Беларусі плённа папрацавалі археолагі Масквы і Мінска. У археалагічных раскопках прымалі ўдзел супрацоўнікі раду краязнаўчых і гісторыка-краязнаўчых музеяў рэспублікі. За лета было знойдзена шмат цікавага. Новыя матэрыялы даюць магчымасць удакладніць рассяленне на тэрыторыі сучаснай Беларусі старaславянскіх плямёнаў, больш глыбока высветліць пытанні паходжання беларускага народа. Знаходкі рэчаў матэрыяльнай культуры дазваляюць меркаваць аб мастацтве, саматужніцтве, архітэктуры Беларусі мінулых часоў. Ніжэй мы расказваем аб тым, што здабылі з глыбіні стагоддзяў археолагі.

### Пяцьдзесят тысяч год назад

Дагэтуль даследчыкі меркавалі, што тэрыторыя Беларусі і суседніх абласцей Расіі і Украіны пачала засяляцца параўнаўча позна — у канцы ледніковага перыяду, каля дваццаці пяці тысяч год назад. Знаходкі на правым беразе Сожа, ля пасёлка Падлужжа Чачэрскага раёна, далі шмат каштоўнага матэрыялу для абвяржэння такога погляду. Тут упершыню ў межах рэспублікі знойдзены прылады і прыстасаванні з крэмня, характэрныя для сярэдняга палеаліта: пласціны, якія, відавочна, выкарыстоўваліся як сродкі для рэзання; крэмні з адным адбітым краем, якія служылі для абскрэбвання скур жывёлін, разрэзвання мяса.

Матэрыялы раскопак стаянкі ля пасёлка Падлужжа сведчаць аб тым, што засяленне Беларусі і прылягаючых абласцей Расіі і Украіны адбылося яшчэ ў сярэдзіне ледніковага перыяду, у эпоху існавання неандэртальскага чалавека — больш пяцідзесяці тысяч год назад.

### Старажытныя драўляныя скульптуры

У часе абследавання аднаго поўразбуранага старажытнага будынка ў Магілёве ў падвале былі знойдзены драўляныя скульптуры.

Кожная са знойдзеных чатырнаццаці статуй мае вышыню ад 80 см. да 1 м. 20 см. Усе яны выразаны з ліпы. На думку мастацтвазнаўцаў, яны выкананы невядомымі беларускімі майстрамі ў канцы XVI або ў пачатку XVII стагоддзя.

Драўляныя скульптуры зараз захоўваюцца ў Магілёўскім абласным гісторыка-краязнаўчым музеі.

### Першыя раскопкі на Палессі

У гэтым годзе ўпершыню праводзіліся шырокія археалагічныя раскопкі на Палессі. Яны ахапілі рад раёнаў Гомельскай і Брэсцкай абласцей. Адзін з атрадаў Славянскай экспедыцыі Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры Акадэміі навук СССР пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук Ю. В. Кухарэнкі правёў даследаванне значнай колькасці старажытных паселішчаў.

Вялікія раскопкі праведзены каля вёскі Велемічы Давыд-Гарадоцкага раёна. У месцах старажытных пахаванняў знойдзены ляпная і ганчарная пасуда, ручная цёрка, бранзалеты, маністы, вырабы з бронзы, касці, жалеза і шкла, разнастайныя прылады працы. Усё гэта перададзена Пінскаму гісторыка-краязнаўчаму музею.

Здабытыя матэрыялы перакнаўча абвяргаюць пункт погляду буржуазных вучоных аб тым, нібыта славяне паявіліся ў поўночных абласцях Усходняй Еўропы толькі ў VIII—IX стагоддзях нашай эры. Рэчы, знойдзеныя ў выніку раскопак, адносяцца не пазней як да II — III стагоддзя нашай эры. Усе знойдзеныя пасудзіны, упрыгожванні, прылады працы сведчаць аб высокай культуры раннеславянскіх плямёнаў.

### Там, дзе быў старажытны Ваўкавыск

Ваўкавыск — старажытны беларускі горад. У XII—XIII стагоддзях ён з'яўляўся цэнтрам удзельнага рускага княства. Галоўнай цытадэллю княжаскага горада была Шведская гара.

Навуковыя супрацоўнікі Акадэміі навук БССР у часе сёлетніх раскопак выявілі новыя матэрыялы па гісторыі горада. Здабыты прадметы ўпрыгожання і працы, зброя і іншыя рэчы. Сярод знаходак дамангольскага часу — старажытнае цёрла, пасудзіны антычнай формы з чырванаватай гліны. Пры капанні гліны выяўлены цагляныя домікі, якімі карысталіся нашы продкі для плаўкі руды. На месцы раскопак удалося знайсці таксама рэшткі будынкаў. Усе матэрыялы расказваюць аб высокай культуры жыхароў старажытнага беларускага горада.

**П. КІСЛОЎ.**

# Песня маладых трактаразаводцаў

Словы Алеся БАЧЫЛЫ

Музыка Л. АБЕЛІОВІЧА

Хутка, бадзёра, жыццерадасна

*mf*

Барытон

Тэнар

Як у казцы, у дзі-вос-най, цэ-хі светлыя ста-яць, Дзень і ноч густыя сос-ны, дзень і

ноч гус-ты-я со- сны на-ва-кол шу-мяць, (эх), на-ва-кол шу-

Хор

*f*

-мяць, дзень і ноч гус-ты-я сос-ны, сос-ны на-ва-кол шу-мяць.

Для заканчэння

*f*

Пес-няй ма-ла-досць.

Як у казцы, у дзівоснай,
Цэхі светлыя стаяць;
Дзень і ноч густыя сосны
Навакол шумяць.

Самі цэхі будавалі,
Самі дружна з году ў год
Працай шчырай праслаўлялі
Родны свой завод.

Аддавалі мы для справы
Свой задор і свой парыў,
Нам прынеслі чэсць і славу
Нашы трактары.

Мы спакою не зазнаем —
Праца нам заўсёды ёсць...
Ты звіні, звіні над краем
Песняй, маладосць!



